Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 18 (4767) 8 мая 2014 г.



## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народную артыстку Беларусі Наталлю Гайда з юбілеем. «Дзякуючы моцнаму і надзвычай прыгожаму голасу, неператузыдзенаму выканальніцкаму майстэрству і вялікай любові да музыкі вы ўнеслі неацэнны ўклад у развіццё нацыянальнага вакальнага мастацтва, сталі адной з самых яркіх зорак беларускай аперэты», — падкрэслена ў віншаванні.

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў народную артыстку Беларусі Ядвігу Паплаўскую з юбілеем. «Вялікі талент спявачкі і кампазітара, непадробная шчодрасць і дабрыня душы ператвараюць кожнае ваша выступленне ў незабыўнае свята для слухачоў», — гаворыцца ў віншаванні. «Перакананы, што вы і ў далейшым будзеце плённа і самааддана служыць нацыянальнай культуры, праслаўляць нашу Радзіму», — адзначыў Прэзідэнт.

✔ Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народную артыстку Беларусі Алену Цялькову з юбілеем. «Галоўная справа вашага жыцця — фальклорная група "Купалінка" — дорыць людзям непаўторную прыгажосць цудоўных, мілагучных песень, клапатліва сабраных з усёй беларускай зямлі», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Прэзідэнт Беларусі ў сувязі са смерцю народнай артысткі Расійскай Федэрацыі Тацццяны Самойлавай выказаў спачуванні яе родным і блізкім. Як падкрэсліў Кіраўнік дзяржавы, творчасць артысткі пакінула яркі след у гісторыі кінематографа. «У нашай краіне Таццяну Яўгенаўну ведалі і высока цанілі за вялікі талент. Яе смерць болем адгукнулася ў сэрцах многіх тысяч беларусаў», — адзначана ў спачуванні.

✔ У адпаведнасці з Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь перакладчыца Ірына Качаткова, на творчым рахунку якой шматлікія пераклады твораў розных аўтараў на беларускую мову, а таксама пераклады беларускіх твораў на рускую, адзначана Ганаровай граматай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь за актыўную творчую дзейнасць у галіне перакладу, значны асабісты ўклад у развіццё і прапаганду беларускай літаратуры.

✔ Сёння ў Вялікім тэатры Беларусі адбудзецца святочны канцэрт «Паклонімся вялікім тым гадам», прысвечаны Дню Перамогі. Прагучаць песні-шэдэўры, якія сталі культавымі: «Развітанне славянкі», «Балада пра салдата», «Эх, дарогі», «Кацюша», «Сіняя хустачка» ды іншыя. Падрыхтаваны не проста канцэрт да памятнай даты, а прадстаўленне паводле законаў тэатральнай драматургіі.

✔ Святочны салют 9 мая, прысвечаны 69-й гадавіне Перамогі, у Мінску пачнецца ў 23.00. Гэта паспрыяе больш відовішчнаму і поўнамаштабнаму ўспрыманню. У гэтым годзе будзе запушчана больш як 80 назваў салютаў розных колераў. Практычна ніводны залп не будзе паўтарацца.

**Падрыхтавала Іна ЛАЗАРАВА**

# Вялікая Перамога. Адна на ўсіх!

*Фота Кастуся Дробава*



*Валерый Лявунін побач з макетам танка Т-34-85.*

**Сёлета наша краіна адзначае 70-годдзе з дня вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Да гэтай даты распрацавана шмат цікавых мерапрыемстваў. Але самае значнае з іх — адкрыццё новага будынка Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Работы тут ужо завяршаюцца, поўным ходам ідзе мантаж унікальнай экспазіцыі, якая размесціцца ў дзесяці залах.**

Па ініцыятыве Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі чатыры гады таму пачалося ўзвядзенне новага будынка музея вайны. Месца для яго абралі на праспекце Пераможцаў, за архітэктурна-скульптурным комплексам «Мінск — горад-герой». Побач будуць плошча Герояў (яе ўпрыгожыць фантан са 170 струменяў, кожны з якіх увасабляе адзін з населеных пунктаў Беларусі, вызваленых Чырвонай Арміяй) і парк Перамогі. Адкрыць новы будынак плануецца ў Дзень святкавання 70-годдзя вызвалення Беларусі.

— Пастаянная экспазіцыя новага музея зойме большую плошчу ў параўнанні са «старой», — распавёў дырэктар Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, генерал-маёр запасу Мікалай Скобелеў. — Колькасць экспазіцыйных матэрыялаў узрасце. Калі ў ранейшай экспазіцыі храналагічныя рамкі абмяжоўваліся 1941 — 1945 гадамі, то ў новай яны значна пашыраццa. Сённяшняя канцэпцыя мае на мэце паказаць прычыны пачатку Другой сусветнай вайны, а таксама прадставіць пасляваенны перыяд, калі беларускі народ за кароткі тэрмін падняў краіну з руін.

Пры мастацкім афармленні залаў выкарыстоўваюцца рэканструкцыі, галоўная задача якіх — стварэнне ўмоў для максімальнага пагружэння наведвальніка ў гістарычны перыяд. Напрыклад, экспазіцыйная зона, якая распавядзе пра партызанскі рух, будзе прадстаўлена ў выглядзе рэканструкцыі асяроддзя, у якім жылі і змагаліся з акупантамі народныя мсціўцы. Мантаж новай экспазіцыі праходзіць пад пільным вокам галоўнага мастака Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны Валерыя Лявуніна, які каардынуе сёння дзейнасць амаль дзясятка сваіх калег.

— Новы музей здзівіць мінчан і гасцей беларускай сталіцы зусім іншай прасторай, нестандартным падыходам да экспазіцыі, шматлікімі інсталяцыямі, — зазначыў галоўны мастак музея вайны. — Уверсе будуць «лятаць» самалёты ў натуральную велічыню, у залах размесціцца рарытэтная тэхніка. Калі ж будзе прадстаўлены макет, то ён максімальна прыбліжаны да арыгінала, як, напрыклад, танк Т-34-85. Нумар 85 гаворыць пра тое, што гэта бронемашына іншай, чым знакамітыя «трыццацьчацвёркі», мадыфікацыі, умацаваная пушкай. Макет выкананы на вышэйшым узроўні дызайн-студыяй «Collection». Кіраўнік праекта — айчынны мастак Канстанцін Вашчанка. Танк — сапраўдны твор мастацтва: з усёй экіпіроўкай, «раненнямі» і «траўмамі». Такую работу не сорамна прадставіць любому гледачу! Знаходзіцца бронемашына ў зале, прысвечанай унікальнай аперацыі «Баграціён». Падчас яе правядзення цяжкая тэхніка прайшла праз балота і выйшла на нямецкія пазіцыі з тылу, адкуль ворагі зусім не чакалі савецкіх салдат. Камандуючы 1-м Беларускім фронтам Канстанцін Ракасоўскі бліскуча правёў наступленне. Наведвальнікі музея ўбачаць сапраўдную інжынерную рэканструкцыю гаці. Дарэчы, сёння ва ўсім свеце будучыя ваенныя інжынеры вывучаюць гэтую аперацыю ў дэталях.

Заканчэнне чытайце на стар. 2 ▶

# Анатоль Лемяшонак: «Нам ёсць каму перадаць сцяг»

Калі паразважаць на тэму «журналіст і грамадства», цяжка прайсці міма такіх паняццяў, як пазіцыя, прынцыповасць, адказнасць, сумленне… Наколькі гэта важна сёння? І што ўвогуле важна для цяперашніх айчынных СМІ? Праз якія церні праходзіць шлях да чытача? Што на ім страцілі ці, наадварот, здабылі? Гэтыя пытанні сталі нагодай да размовы са старшынёй грамадскага аб'яднання «Беларускі саюз журналістаў», галоўным рэдактарам газеты «Рэспубліка» Анатолем Лемяшонкам.



**— Анатоль Іванавіч, вы не будзеце аспрэчваць той факт, што за апошнія гады беларуская журналістыка стала, па-першае, больш юнай, па-другое, больш жаночай. Гэты «вобраз» арганічна дапоўнілі хваляванні напярэдадні стварэння холдынгаў у друкаваных СМІ… Як вам усё гэта падабаецца?**

— Мне гэта падабаецца. Бо ва ўсіх зменах я бяру самы непасрэдны ўдзел. У тым ліку і ў арганізацыйным плане. Перш за ўсё маю на ўвазе стварэнне холдынгаў. Мы пастараліся патлумачыць журналістам іх правы, магчымасці, перспектывы. У выніку працэс, які абяцаў быць вельмі няпростым, прайшоў зладжана і пачынае даваць свае плады — што да Выдавецкага дома «Звязда», што па нашым холдынгу.

Мне даспадобы, што саюз журналістаў нарэшце актыўна ўзяўся за святую справу ветэранаў — працу з моладдзю. І, ведаеце, мы былі прыемна ўражаны, нават здзіўлены ўвагай маладых журналістаў да нашай суполкі. Калі цягам года мы прымаем у саюз 50-60 новых членаў (а ўсіх іх сёння больш як 2.200), то дзве трацiны — гэта маладыя людзі да 30-35 гадоў.

**— Чым гэта можна патлумачыць?**

— Мы праводзім шмат цікавых мерапрыемстваў. Не толькі з удзелам Міністэрства інфармацыі, але і самастойна. Арганізуем спецыяльны конкурс для моладзі. Асобны! Ён праходзіць увосень — урачыста, маштабна. Мы пабывалі ў Гомелі, Магілёве. Вось цяпер вырашаем, дзе лепш правесці ўрачыстасць у трэці раз.

**— Чым яшчэ, з вашага пункту гледжання, у сучасных умовах могуць быць цікавымі маладым саюз ды журналістыка ўвогуле?**

— Мы пастараліся падняць прэстыж прафесіі ў параўнанні з тым, што было ў 1990-я гады. Думаю, вы заўважылі, што літаральна на вачах расце адказнасць журналістаў перад грамадствам. Мы не проста фіксуем адметныя падзеі, у тым ліку і міжнародныя, мы маем пазіцыю. І мы яе адстойваем. І ёсць вынік.

Зрэшты, мы задаволеныя. Бо адчуваем, што ішлі верным шляхам, абралі правільны арыенцір, называючы чорнае чорным, а белае белым. Я ўпэўнены, што беларуская журналістыка, якой уласцівы гуманістычны пачатак, увогуле выходзіць на перадавыя пазіцыі. Найбольш цесныя кантакты ў нас з расійскімі калегамі. І сёння мы бачым, як там, у Расіі, журналістыка падымаецца з калень, становіцца больш патрыятычнай. Яна ўсё бліжэй да народа. А мы гэтых пазіцый не страчвалі! Што падсвядома і адчуваюць маладыя журналісты. Яны арыентуюцца на наш досвед. Значыць, нам ёсць каму перадаць свой сцяг.

**— А ўсе ж як наконт таго, што ў айчыннай журналістыкі сёння жаночы твар?**

— Выступаючы перад студэнтамі ў інстытуце журналістыкі, я кажу наступнае: мы ўсім вам рады, але хацелася б бачыць сярод вас больш хлопцаў. Хаця б дзеля таго, каб можна было смялей накіроўваць, калі спатрэбіцца, на больш рызыкоўныя заданні.

І, безумоўна, ёсць розніца паміж жаночым і мужчынскім стылем пісьма. Жаночы больш эмацыянальны. Добра гэта ці дрэнна — пытанне дыскусіі. Лепей, калі існуе гармонія. Але…

Думаю, не варта дзяліць журналістыку паводле гендарнага прынцыпу. Ну не сталявары ж мы! Галоўнае — якасць працы і тое, наколькі даходзіш да чытача.

**— Ці гатовае кіраўніцтва журналісцкай суполкі абараняць інтарэсы яе ўдзельнікаў — і сталых, і маладых — пры ўзнікненні спрэчных момантаў?**

— У нас працуе камісія па этыцы, якая выбіраецца на з'ездзе тэрмінам на 5 гадоў — як, дарэчы, кіраўніцтва і сакратарыят саюза. Гэта паважаныя і дасведчаныя журналісты: Міхаіл Шыманскі, Зіновій Прыгодзіч, Уладзімір Вялічка, Павел Якубовіч… Там і абмяркоўваюцца спрэчныя моманты, якія часам узнікаюць, бо журналістыка — жывая з'ява. А ўзнікаюць часцей на рэгіянальным узроўні. Тады да нас і звяртаюцца як да трацейскага суддзі, як да ўлады.

**— Моўнае пытанне. Наколькі актыўна, па вашым меркаванні, айчынныя СМІ прапагандуюць сёння беларускае слова? Ці дастаткова карыстаюцца ім самі прадстаўнікі мас-медыя?**

— Я думаю, трэба больш актыўна гэтым займацца. Мы абвяшчаем двухмоўе ў газеце і… пішам па-руску. Як галоўны рэдактар я ў свой час прыняў рашэнне: беларускамоўныя матэрыялы будуць заахвочвацца больш высокім ганарарам. І — без праблем! Пачалі пісаць па-беларуску. Значыць, ведаюць мову! Значыць, была недапрацоўка і з боку галоўнага рэдактара.

Саюз мае намер узяць пад крыло гэтую тэму. А тон, як ні дзіўна, задаюць… чыноўнікі! Чаму стала менш матэрыялаў на беларускай мове? Такое пытанне ў свой час прагучала з вуснаў віцэ-прэм'ера Анатоля Афанасьевіча Тозіка…

**— Ці чытаеце, Анатоль Іванавіч, беларускую літаратуру? Наколькі цікавы вам сучасны літаратурны працэс?**

— Цяпер чытаю класіку. Мне ўвогуле шмат давялося чытаць — я вучыўся на філфаку. Але ў сталым узросце знаходжу прабелы. Ці проста штосьці адкрываю для сябе нанова.

Але цікаўлюся і тым, што адбываецца ў нашай сучаснай літаратуры. Часта сустракаюся з Мікалаем Іванавічам Чаргінцом: нашы творчыя саюзы актыўна супрацоўнічаюць, мы ладзім сумесныя мерапрыемствы. Гэта блізкія суполкі. І прынцыпы дзейнасці ў многім падобныя.

**Інеса ПЕТРУСЕВІЧ**

# Вялікая Перамога. Адна на ўсіх!

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

У залах будзе шмат зменшаных мадэлей баявой тэхнікі і ўнікальных экспанатаў, якія чакалі свайго часу ў запасніках. Ужо цяпер уражваюць відовішчныя інсталяцыі. Мастак і аўтар эскізнага праекта адной з іх пад умоўнаю назваю «Дарога вайны» Аляксандр Бранцаў падкрэсліў, што хацелі паказаць і першыя дні вайны: вось ідуць бежанцы, непадалёк афіцэр з двума салдатамі рыхтуецца да бою, побач стаіць палутарка-«саракапятка», а над імі ляціць бусел… па суседстве — іншая карціна: наш танк тараніць нямецкі Т-3, які вораг у асноўным і выкарыстоўваў. Машыны сапраўдныя. Кансультанты зазначаюць: згодна з тактыкай баявых дзеянняў бронемашыны ішлі на таран толькі пад пэўным вуглом, якраз гэты эпізод і зафіксавалі распрацоўшчыкі інсталяцыі.

— Сучасныя тэхналогіі дапамогуць больш эмацыйна ўспрымаць падзеі вайны, дазволяць апаратыўна выкарыстаць эксклюзіўную музейную і архіўную гістарычную інфармацыю, звязаную з Вялікай Айчыннай вайной, — падкрэсліў дырэктар музея Мікалай Скобелеў. — Экспазіцыя будзе абсталявана разнастайнымі аўдыё- і відэасродкамі для дэманстрацыі галасоў, шумоў, музыкі, відэаматэрыялаў, дакументаў і даведачных матэрыялаў. Тэкставая інфармацыя, падрыхтаваная для інфатэрміналa, дапоўніць звесткі пра падзеі і ўдзельнікаў вайны. А паказаць нам ёсць што! Сёння збор музея з'яўляецца адным з буйнейшых па гісторыі Беларусі перыяду Вялікай Айчыннай вайны, складаецца з 28 калекцый, налічвае больш як 142 тысячы прадметаў. Штогод да нас паступае 700 — 800 каштоўных рэчаў.

Як вядома, першымі сустрэлі ворага 22 чэрвеня 1941 года абаронцы Брэсцкай крэпасці. Мужна стрымлівалі захопнікаў і



*Фота Кастуся Дробава*

*У зале «Дарога вайны».*

чырвонаармейцы, якія знаходзіліся ў доце пад Гроднам. Увявіць, як яны змагаліся з немцамі, дапамогуць мастацкія рэканструкцыі і інсталяцыі. Вось салдаты пасылаюць у эфір паведамленне: «Крэпасць змагаецца!» Усе дзесяць залаў вельмі розныя: і па планіроўцы, і па змесце. Прынамсі, у экспазіцыі пра ўзяцце Берліна перад гледачамі паўстануць рускі, амерыканскі, французскі і англійскі салдаты ў форме ваенных часоў. Яны прадставяць краіны, якія ў маі 1945-га падпісалі капітуляцыю.

Ахапіць усё, што будзе прадстаўлена ў новым музеі, падчас адной экскурсіі, нават за цэлы дзень, немагчыма.

— Новы будынак музея і яго музейная экспазіцыя — сапраўдныя знакі доблесці, мужнасці і славы беларускага народа, — падкрэсліў Мікалай Скобелеў. — Гэта месца, куды павінен прыходзіць кожны, каб аддаць даніну памяці і павагі нашым суайчыннікам, якія абаранілі гонар, волю і незалежнасць вялікай краіны і Беларусі.

**Раіса МАРЧУК**

*Прэміі*

# Тры адкрыцці

Урачыстая цырымонія ўручэння штогадовай літаратурнай прэміі «Адкрыццё года», заснаванай Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі, адбылася ў сталічнай бібліятэцы № 5.

Паводле старшыні МГА СПБ Міхася Пазнякова, у пісьменніцкай арганізацыі шмат робіцца для пошуку і падтрымкі таленавітай моладзі. Так, галоўны спецыяліст Мінскага абласнога аддзялення СПБ, паэт Рагнед Малахоўскі курыруе кніжную серыю «Маладая паэзія Беларусі». А ў серыі «Мінскія маладыя галасы» пачынаючы з 2011 года сумеснымі намаганнямі сталічнага аддзялення СПБ і выдавецтва «Чатыры чвэрці» пабачыла свет 13 кніг. Саюз пісьменнікаў Беларусі ладзіць літаратурна-творчыя конкурсы, шмат працуе з пачаткоўцамі.

Яшчэ адзін крок у гэтым напрамку — прэмія «Адкрыццё года», якая прысуджаецца сталічным аўтарам ва ўзросце да 30 гадоў за найбольш адметныя творы, апублікаваныя ў літаратурна-мастацкай перыёдыцы або асобнай кнігай (сёлета — па выніках 2013-га). Права вылучаць намінантаў маюць рэдакцыі літаратурна-мастацкіх выданняў, выдавецтвы, літаратурныя музеі, бібліятэкі, творчыя арганізацыі. Рашэнне аб прысуджэнні прэміі прымае экспертны савет МГА СПБ, у склад якога ўвайшлі Міхась Пазнякоў (старшыня экспертнага савета, аўтар ідэі прысуджэння прэміі), Наталія Касцючэнка (сакратар), Іна Фралова, Ганад Чарказян, Аліна Легастаева і Лізавета Палеес. Цырымонія ўручэння прэміі не выпадкова адбылася 23 красавіка: гэта Міжнародны дзень кнігі і аўтарскага права.

На атрыманне прэміі «Адкрыццё года» за 2013 г. у выніку конкурснага адбору было вылучана 3 кандыдаты: Людміла Клачко (Цэнтральнай гарадской бібліятэкай імя Янкі Купалы за кнігу вершаў «На пару слов»), Яўгенія Руль (рэдакцыяй часопіса «Маладосць» за аповесць «Па той бок шыбы») і Дзмітрый Саўчык (рэдакцыяй газеты «Літаратура і мастацтва» за кнігу казак для дзяцей «Фабрика хорошего настроения»). Усе яны маюць публікацыі ў літаратурнай перыёдыцы, з'яўляюцца лаўрэатамі і ўдзельнікамі літаратурных конкурсаў. Л. Клачко і Д. Саўчык — члены і стыпендыяты СПБ, а Я. Руль — адзін з аўтараў калектыўнага зборніка вершаў «Услышь мой голос на заре…» (Гродна, 2011).

Пасля выступленняў членаў Экспертнага савета, а таксама музычнага прывітання ад маладой паэтэсы, барда, члена СПБ Ганны Чумаковай галоўная інтрыга сустрэчы ўрэшце раскрылася. Усе трое сталі лаўрэатамі: Яўгенія Руль — у намінацыі «Проза», Людміла Клачко — у намінацыі «Паэзія», а Дзмітрый Саўчык — у намінацыі «Літаратура для дзяцей». Ад МГА СПБ яны атрымалі памятныя падарункі, грашовыя прэміі і дыпломы.

**Яна ЯВІЧ**

# «Навіна» ў музеі

Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы прэзентаваў герб «Навіна» работы скульптара з Літвы Даруса Міляўскаса. У гэты ж дзень адкрылася выстаўка мініяцюр «Збор рыцараў Сярэднявечча».



*Дарус Міляўскас (злева) і фатограф Марус Ружынскі.*

Каларыт і атмасферу стварылі супрацоўніцы музея ў строях пачатку ХХ ст. і ўдзельнікі рыцарскага клуба «Гівойт» у рэканструяваных рыцарскіх латах.

Герб «Навіна» з XV ст. быў сямейным гербам шляхетнага роду Луцэвічаў, з якога паходзіў і Янка Купала. Выяву герба на дабрачыннай аснове зрабіў літоўскі скульптар Дарус Міляўскас пры падтрымцы князя Эгідыюса Арнашуса, фатографа Маруса Ружынскага, урача Дайны Міляўскайтэ-Немейкшцене, а таксама Пасольства Літвы ў Беларусі. Выстаўка «Збор рыцараў сярэднявечча» была створана Д. Міляўскасам у Мадрыдзе па ініцыятыве знакамітага музея Прада. Калекцыя мініяцюр уключае вобразы гістарычных асоб і вояраў Еўропы і Азіі.

«Нашы балтыйскія суседзі сталі сябрамі музея Янкі Купалы… У мінулым месяцы латышскі скульптар падарыў музею 19 медалёў, а сёння цудоўны герб літоўскага скульптара Даруса Міляўскаса перадаецца ў фонды музея Янкі Купалы», — адзначыла дырэктар установы Алена Мацевасян. Яна ж уручыла дыпломы «Сябра музея Янкі Купалы» Дарусу Міляўскасу і Марусу Ружынскаму.

Дарус Міляўскас — выпускнік Цельшайскай мастацкай акадэміі. Вучыўся і ў Вялікабрытаніі. У якасці спецыяліста па кельцкіх крыжах, геральдыцы і рэстаўрацыі працаваў у Ірландыі. Член Федэрацыі каменя Вялікабрытаніі.

«Я задумаўся пра тое, наколькі лёгка ствараўся гэты герб: мы пазнаёміліся са спадаром Паслом у Дубліне, я прыехаў першы раз у Мінск у пасольства, сустрэўся з дырэктарам музея Янкі Купалы. З'явіліся матэрыялы, сябры, знаёмыя. У нас з вамі агульная гісторыя, агульныя перамогі… Мы сталі бліжэй. Вельмі прыемна, калі вы прымаеце нас тут, а мы вас — у Літве. У сувязі з тым, што Янка Купала быў у Вільнюсе, я доўга думаў над фонам для герба. Аднойчы вечарам шпацыраваў па Вільнюсе і знайшоў падказку. Каля святых варот ёсць геральдыка «Пагоня», фон якой я і скарыстаў для герба. Думаю, што наш, агульны літоўскі, падарунак дапаможа вашаму маладому пакаленню захаваць памяць пра тое, што гэта і іх гісторыя», — зазначыў скульптар.

«Сённяшні момант асабліва сімвалічны. Ён аб'ядноўвае дзве часткі жыцця Янкі Купалы: вільнюскую і беларускую. Гэта яшчэ адна праява нашага сяброўства», — падкрэсліў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Літвы ў Беларусі Эвалдас Ігнатавічус.

Старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца заўважыў: «Мы яшчэ раз даказваем шляхетнасць не толькі паходжання нашага генія, але і нашу з вамі. Але важна памятаць, што шляхетнасць не толькі ў паходжанні, а і ў духу чалавека».

**Марына ВАЛАСАР, фота аўтара**

# Маленькім чытачам

Дзіцячыя пісьменнікі, выдаўцы, настаўнікі і бібліятэкары завіталі ў Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа, каб прывітаць выхад «Бібліятэкі часопіса «Вясёлка».

У серыю ўвайшло пяць выданняў: чытанка-маляванка «Матылёчкі-матылькі» Раісы Баравіковай, «Сакрэты колераў вясёлкі» Уладзіміра Ліпскага, «У свеце дабрыні» Эдзі Агняцвет, складанка «Кот жыве без турбот» і кніга Вітаўтаса Бараўскаса «Зіхацяць на небе сонца». Усе кнігі вельмі прыгожыя: у іх афармленні выкарыстаны ілюстрацыі 25 беларускіх мастакоў, што працавалі з часопісам «Вясёлка» на працягу ўсёй яго гісторыі.

«Серыя мае вялікую будучыню. Але трэба не адставаць ад жыцця і выкарыстоўваць новыя тэхналогіі, напрыклад, дыскі да кніг», — зазначыў дырэктар выдавецтва «Адукацыя і выхаванне» Мікалай Супрановіч. Маладая настаўніца Ірына Буторына, у сваю чаргу, прапанавала зрабіць калектыўную аўдыёкнігу.

— Калі мы хочам, каб нашы дзеці вучылі беларускую мову, каб яны пачалі размаўляць на ёй, трэба, каб хтосьці ўзяўся за напісанне кароценькіх вершаў, — зазначыла пісьменніца Раіса Баравікова.

**Марына ВАЛАСАР**

*Да Дня друку*

# З першых чырвоных міністраў

Падчас святкавання Дня друку самы час успомніць аднаго нашага земляка, пакручасты лёс якога, на жаль, не дужа згадваюць. На Міншчыне, у вёсцы Пухавічы, якая дала свету шмат славутых імёнаў, у лютым 1896 года нарадзіўся Леў Стронгін, актыўны ўдзельнік рэвалюцыйнага руху ў Беларусі, арганізатар выдавецкай справы ў першыя гады Савецкай улады. Бацька пісьменніка і артыста Варлена Стронгіна.

З 13 гадоў Леў — рабочы друкарні ў Ігумене (Чэрвені). З часам юны наборшчык перабраўся ў губернскі Мінск. Удзельнічаў у рэвалюцыйных падзеях 1917 года. Падчас акупацыі Мінска кайзераўскімі войскамі ў 1918-м арганізоўвае падпольную друкарню, наладжвае выпуск газеты «Подпольная правда».

15 снежня 1918 года Стронгін быў прызначаны камісарам друку Беларусі. Фактычна — першы міністр друку ў Савецкай Беларусі. Займаўся Леў Ізраілевіч нацыяналізацыяй прыватных паліграфічных прадпрыемстваў. У 1921 — 1924 гг. — старшыня праўлення Белтрэстдруку, у наступныя два гады — дырэктар Белдзяржвыдата. З 1926 года працуе ў Маскве: дырэктар выдавецтваў «Книгосоюз», «Гострудиздат», «Госфиниздат». У 1938 — 1948 гг. — дырэктар выдавецтва яўрэйскай літаратуры «Дэр эмес» («Праўда»), дзе выходзілі і кнігі многіх яўрэйскіх пісьменнікаў з Беларусі.

Сярод сяброў Льва Стронгіна быў і славуты дзеяч тэатра Саламон Міхоэлс. У 1948 годзе выдавецтвам была надрукавана «Чорная кніга», прысвечаная тэме генацыду яўрэйскага народа падчас Другой сусветнай вайны. Увесь тыраж кнігі па каманддзе «зверху» знішчылі. У 1949-м Стронгіна беспадстаўна арыштавалі і асудзілі да пакарання дзесяццю гадамі зняволення. Вызвалены і рэабілітаваны ў 1956-м. З таго ж года — персанальны пенсіянер саюзнага значэння. Аўтар успамінаў пра падзеі ў Мінску ў 1917 — 1918 гг. (надрукаваны ў калектыўным зборніку «Правда века», выдадзеным у Маскве ў 1970 годзе). Памёр Леў Стронгін у 1973-м.

**Сяргей ТУРЭЦ**

# Што ведалі продкі?

Сустрэча з аўтарамі выдання «Залатыя правілы народнай культуры» адбылася падчас работы XVIII Міжнароднай спецыялізаванай выстаўкі «СМІ ў Беларусі». Аксана Катовіч і Янка Крук — знакамітыя этнографы, даследчыкі і пісьменнікі, якія прысвяцілі шмат цікавых прац беларускім традыцыям.

«Залатыя правілы народнай культуры» — вынік шматгадовага падарожжа аўтараў па Беларусі. Кніга з'явілася яшчэ ў 2007 годзе, шмат разоў была перавыдадзена і зноў прыцягвае ўвагу чытачоў. «Калі мы збіралі матэрыял, паставілі перад сабой мэту: не проста даследаваць самыя вядомыя беларускія народныя святы, напрыклад, Купалле альбо Масленіцу, а зрабіць народны каляндар, разлічаны на кожны дзень, каб зразумець, як жылі і пра што думалі нашы продкі», — зазначыў Янка Крук.

Канцэпцыю кнігі, па яго словах, вызначыла некалькі прыярытэтаў, якія адлюстраваны ў змесце: чалавек і яго здароўе, дом, гаспадарка і сямейны дабрабыт.

Так, у раздзелах «Азбука абрадавай дзейнасці» і «Жыццёвы круг чалавека: ад нараджэння да надмагільнага крыжа» падрабязна апісваюцца сэнс і асаблівасці абрадаў і рытуалаў, якія ахопліваюць увесь час існавання чалавека — ад першых слоў да апошняга ўздыху. Тут можна знайсці цыкл вясельных і пахавальна-памінальных традыцый, навучыцца правільна хрысціць дзіця і нават даведацца пра ўплыў на людзей прыродна-касмічнай энергіі.

Ці вядома вам, напрыклад, навошта бацька абсмальваў валасы над свечкай, прынесенай з царквы, альбо што рабіць з галінкамі вярбы, каб выратаваць чалавека ад гарэлачнай спакусы? Кніга «Залатыя правілы народнай культуры» адкрывае таямніцы цікавых і непаўторных звычаяў і абрадаў, якія стагоддзямі захоўваліся ў беларускіх сем'ях, дапамагалі бацькам і дзецям жыць у шчасці ды згодзе.

**Марыя ВОЙЦІК**



# Настаўнік



Днямі дайшла вельмі сумная вестка: на восемдзесят шостым годзе пайшоў з жыцця пісьменнік Уладзімір Максімавіч Дамашэвіч.

Мне не вядомыя падрабязнасці яго смерці, але ж, на мой погляд, апошнія гады жыцця ён быў вельмі адзінокім чалавекам.

Уладзімір Дамашэвіч быў маім «хросным бацькам» у літаратуры. Менавіта яму, тады загадчыку аддзела прозы часопіса «Маладосць», я, сціплы радавы журналіст з Барысава, прынёс два апавяданні.

Уладзімір Максімавіч, стрыманы, ветлівы, не проста прыняў рукапіс, а, свідруючы мяне позіркам разумных пранізлівых вачэй, пачаў распытваць: хто такі, адкуль, хто бацькі? Пачуўшы, што бацька, якога я ніколі не бачыў, быў асуджаны па 58-м артыкуле, зірнуў уважліва, прамаўчаў. Потым нечакана параіў:

— Ты Георгій па пашпарце, але ў нас прынята імя Юры. Раю ўлічваць.

Я давёў яму, што мяне па нараджэнні і назвалі Юрыем, але дзед — Антон Станкевіч — пазней перайменаваў у Георгія. Так звалі яго сына і майго дзядзьку, якога памылкова лічылі загінуўшым на вайне.

— Тым больш, — сказаў мне Уладзімір Максімавіч. — Будзеш Юры. Згода?

Я скарыстаў яго слушную параду.

Пазней, калі быў прыняты на працу ў аддзел публіцыстыкі часопіса «Маладосць», я амаль штодня бачыўся з Уладзімірам Максімавічам. Сціпла апрануты, разважлівы, маўклівы, ён быў у рэдакцыі аўтарытэтам. Нават свавольныя машыністкі бездакорна слухаліся яго.

У той час яму ўжо няшмат заставалася да пенсіі, і ён неяк заўважыў, што ў маладзёжным часопісе варта працаваць маладым і нам трэба даць ім магчымасць паказаць сябе. За гады сваёй працы ён сапраўды прывёў у літаратуру шмат новых асоб. Не ўсе з яго вылучэнцаў пакінулі асаблівы след у літаратуры, сталі вядомымі пісьменнікамі, але ён лічыў, што гэта і не абавязкова. Шчыра дапамагаў пераадолець першыя літаратурныя цяжкасці — вычытваў і правіў часам недаспелыя тэксты. І адначасова ён рэдагаваў Васіля Быкава, якога добра ведаў. Быў блізкім сябрам Уладзіміра Караткевіча.

Яго жыццё не назавеш лёгкім. Вайна, цяжкія пасляваенныя гады, змаганне за беларушчыну ў часы бальшавізму патрабавалі мужнасці, сілы і настойлівасці. Яго выступленні на пісьменніцкіх з'ездах уражвалі смеласцю і болем за стан роднай мовы, літаратуры.

Чарговую прамову ён нёс з сабой на Дзяды ў 1988 годзе. У той час ён узначальваў «Мартыралог Беларусі» — камітэт памяці ахвяр палітрэпрэсій. Мы сустрэліся ля Дома друку і рушылі разам да ўсходніх могілак.

— Як велікан, ты будзеш маім целаахоўнікам, — пажартаваў ён тады.

Народу было шмат, і мой настаўнік разпораз рызыкоўна лез у самы гушчар падзей, і тады даводзілася сапраўды прыкрываць яго лёгкую, хударлявую постаць.

У Мінску мы калі-нікалі бачыліся, а як я змушаны быў часова апынуцца ў Барысаве, то часта перазвоньваліся.

Тыдні два таму я, нібы нешта прадчуваючы, чамусьці прынёс дадому з бібліятэкі яго «Выбранае». Перачытаў зноў раман «Камень з гары», яго «Німфу», іншыя аповесці, што захоўваў на кніжных паліцах, шэраг апавяданняў. Многія з іх кранаюць сваёй дасканаласцю і сапраўдным майстэрствам. А «Начныя страхі» і дагэтуль лічу адным з найлепшых апавяданняў у беларускай літаратуры.

Па моцы свайго таленту ён часам набліжаўся да Іва Андрыча, а па духу яго творы нагадвалі творы расіяніна Канстанціна Вараб'ёва. Неяк я сказаў яму пра гэта, але ён сціпла заўважыў, што малады ўпікаюць яго за «дэталізм» — залішнюю ўвагу да бытавых дробязей.

Уладзімір Максімавіч быў не толькі аднадумцам, але і старэйшым сябрам, прысутнічаў на маім вяселлі, заўсёды слушна раіў, што рабіць ў складаных сітуацыях.

Як сапраўдны беларус ён любіў сваю краіну, яе мову і культуру, быў шчыры і даверлівы да людзей.

Светлай яму памяці.

**Юры СТАНКЕВІЧ**

Супрацоўнікі Выдавецкага дома «Звязда» глыбока смуткуюць з прычыны смерці беларускага пісьменніка Уладзіміра Максімавіча ДАМАШЭВІЧА і выказваюць шчырыя спачуванні родным і блізкім.

Іван МУРАВЕЙКА



## Са слязамі на вачах (урыўкі з паэмы)

Споведзь франтавіка.
Сустрэча з аднапалчанамі —
жывымі і мёртвымі

Я гляджу на даўняе курганне.
На траву, на рыжых мурашоў.
Ведайце: калі мяне не стане —
Я ў сваю дывізію пайшоў.

**Аляксей Пысін**

*На ўсёй зямлі маюе май,*
*Вясна адна — для мёртвых і жывых…*
*Аднапалчанін, паднімай*
*Сто грамаў нашых франтавых.*

***

*Перада мною на стале*
*Прывабна чарачка іскрыцца.*
*А мне чагосьці нестае,*
*Да крышталю не прыгубіцца.*

*Я ўспомніў пераможны тост*
*Пад знесеным рэйхстага дахам…*
*…Мы хутка рушылі наўпрост*
*Да гарадоў сваіх і хатаў.*

*Мяне стрчалі ўсім сялом,*
*А мама на калені ўпала.*
*Быў я ў яе адзін сынок,*
*Удавой гаротнай гадавала.*

*А колькі выплакала слёз,*
*З надзеяй гледзячы на неба.*
*І дараваў жыццё мне лёс…*
*— Дай мне, матуля, скібку хлеба…*

*Я не галодны, але ты —*
*Пякла хлеб найсмачнейшы самы.*
*Я чую пах яго святы…*
*— Спяку, сыночак…*
*— Мама, мама!..*

*А Мігаленевы сыны —*
*Васіль, Рыгор, Пятрок і Коля —*
*Не ўбачаць росквіту вясны,*
*Дамоў не вернуцца ніколі.*

*І я ад страху не ўцякаў —*
*Атакаваў не раз вышыні,*
*Пераадольваў рэкі ўплаў*
*І кідаў на фашыстаў міны.*

*Яшчэ ў мяне было пяро —*
*Я часта ворага біў словам.*
*Ну а сваіх салдат-сяброў*
*На ваяўнічы лад настройваў.*

***

*Пяском акопы занясло,*
*А душы ўсё пяюць і стогнуць.*

*Я, нібы бронзавы, маўчу*
*І чаркі не паднімаю:*
*З сябрамі ўбачыцца хачу,*
*Якіх жывымі уяўляю.*

*Дзе-небудзь мілыя мае*
*Яшчэ жывуць аднапалчане…*
*Салоўка пад акном пяе —*
*Такі ж, як на вайне стрчаў я.*

*— Не плач, дзядусь, — сказаў унук. —*
*Мы без «У-2» і без ракеты,*
*Паціху, без трывог і мук,*
*З табой аб'едзем паўпланеты.*

*— Не, хваляванняў будзе шмат.*
*Ні па сабе мне стала штосьці —*
*Паедзем жа не на парад,*
*А на памінкі маладосці.*

*Я вып'ю чарачку — сто грам —*
*Як баявыя франтавыя:*
*За тых, што засталіся «там»,*
*За тых, што мо яшчэ жывыя.*

*— Хутчэй заводзь матор, унук,*
*А то, баюся, не паспею.*
*Вось толькі карту разгарну —*
*Згадаю нашу «адысею».*

***

*Імчыць дарога:*
*Мінск — Масква.*
*Прывал між Ярцавым і Ельняй.*
*Тут быў калісь «маскоўскі вал».*
*Майго ў тым ліку аддзялення.*

*Мы развянчалі іх «бліцкрыг»,*
*Вялі «Кацюшы» «абучэнне»*
*І ўпершыню пачулі крык*
*«Капут» з нямецкім вымаўленнем.*

*Падлік атак і контратак*
*Ніхто не вёў — бой быў няспынны.*
*Здавалася. Яшчэ вось так,*
*І пойдзем прама да Берліна.*

*Хто між байцоў яшчэ жывы,*
*Не думаў (не!) аб адступленні,*
*Бо бой быў за жыццё Масквы,*
*А не мясцовага значэння.*

***

*Зноў — пушчы, рэкі і палі,*
*Нізіны, горы… Божа, Божа!*
*Нідзе няма такой зямлі —*
*Такой багатай і прыгожай.*

*Мы не дарэмна за яе*
*Без страху йшлі на подзвіг ратны.*
*Усё можна раздзяліць, але*
*Не раздзяліць народаў братніх.*

*Новасібірск…*
*Чалябінск…*
*Бранск…*
*Я трапятанне сэрца чую.*
*— Звярні, унук, апошні раз*
*Ты вунь на тую — палявую.*

*Там Белыя ёсць Берагі,*
*Дзе Прыбыткоў Сцяпан. Узводны.*
*Яго шлях — Сталінград — Берлін.*
*Ён атрымаў за Одэр ордэн.*

*…У Берагах, як родных, нас*
*Усе прыбыткоўцы шанавалі.*
*— Вас клікаў татачка ўвесь час,*
*Як адыходзіў: «Ваня… Ваня…»*
*Яшчэ вам перадаць прасіў*
*Гадзіннік гэты… састарэлы…*
*— Я дзесь за Бугам падарыў*
*Яму, як вынес з-пад абстрэлу.*
*Той бой прымроіўся яму —*
*Ён зваў мяне на дапамогу.*
*Я не паспеў цяпер. Чаму*
*Збіраўся доўга у дарогу?*

*Заплакала дачка: — І ён*
*Да вас хацеў, але знямогся.*
*Цяпер яго і мамін сон*
*Ахоўвае адна бяроза.*

*Ужо у Белых Берагах*
*Няма маіх аднапалчанаў,*
*Ды часам ажыве ў руках*
*Гадзіннік гэты незвычайны.*

*А колькі часу у яго*
*Адлічваць шпаркія мінуты*
*Астатніх дзён жыцця майго,*
*Не ведаю. Гадаць не буду.*

*У кожнага свой лёс, свой лёт,*
*Свой шлях — працяглы ці кароткі.*
*Інакш — чаму: каму — сто год,*
*Каму — адзіны бой. Смяротны.*

## Рэквіем

*Франтавікі…*
*Франтавікі…*
*Франтавікі…*
*Ідуць,*
*ідуць,*
*ідуць палкі,*
*Ідуць дывізіі, франты*
*Гадоў вогнекрывавых тых —*
*Салдаты, афіцэры, генералы...*
*Пасля сусветна-цяжкае работы*
*У гімнасцёрцы*
*І ў салдацкіх ботах.*
*Ідуць яны ў святы дзень Мая.*
*Парад нябесны*
*Бог прымае,*
*Усе жывыя*
*Перад ім.*
*Яны Зямлі*
*Вярнулі Мір.*
*Ім слава*
*Вечная!*
*Амін!*

**Май 2011 — май 2012 гг.**
**Пасёлак Лясны, Рэспубліканскі клінічны шпіталь інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны імя П. М. Машэрава**

Міхаіл ХОНІНАЎ



# Ад удзячнай Беларусі паклон

«Ты навек, Беларусь, стала роднаю мне, / Ты мне маці другая і другая радзіма», — гэтыя радкі калмыцкага паэта Міхаіла Хонінава ў перакладзе Аляксея Пысіна — своеасаблівы, падмацаваны жыццёвымі выпрабаваннямі маніфест мастака слова і грамадзяніна, якому сапраўды былі аднолькава дарагія Беларусь і Калмыкія.

Нараджэннем з 1919 года, Міхаіл Ванькаевіч пасля ўцёкаў з фашысцкага палону партызаніў на Беларусі. Быў камандзірам роты 15-га партызанскага палка Магілёўскай вобласці. Удзячныя беларусы назвалі калмыцкага паэта ганаровым грамадзянінам горада Беразіно і вёскі Колбча Клічаўскага раёна. Якраз у гэтых мясцінах змагаўся з гітлераўцамі Міша Чорны (так звалі лясныя мсціўцы свайго баявога пабрацімa).

У Мінску выйшлі дзве кнігі вершаў Хонінава ў перакладзе на беларускую мову. А ў Элісце — кніга Янкі Купалы ў перакладзе Міхаіла Ванькаевіча на калмыцкую… Прыемна, што і цяпер (паэт пайшоў з жыцця ў 1981 годзе) да творчасці беларускага партызана і калмыцкага паэта звяртаюцца творцы ўдзячнай Беларусі. Як прыклад — новы пераклад, зроблены Рагнедам Малахоўскім. Варта нагадаць, што Хонінаў — і аўтар паэмы пра Хатынь.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

* * *

*Салдатам быў,*
*Прайшоў на гэтым свеце*
*Бяду і попел*
*Франтавых завей…*
*Без горкіх бед*
*Хай радуюцца дзеці.*
*О, як люблю шчаслівых я дзяцей!*
*Я быў салдатам.*
*Над жыццём плыў ветах…*
*Ці перамога,*
*Ці смяротны грэх…*
*Дзяцей я бачыў,*
*Ды не чуў іх смеху…*
*О, як цяпер люблю дзіцячы смех!*
*Я быў салдатам.*
*У зямлянках спалі,*
*Губны гармонік*
*Нашы душы грэў…*
*Але не чуў там,*
*Дзеці каб спявалі…*
*О, як цяпер люблю дзіцячы спеў!*
*Я быў салдатам.*
*Вецер гойдаў вецце…*
*Ды верыў:*
*Сонца выгляне з-за хмар.*
*Я бачыў,*
*Як на фронце гінуць*
*Дзеці…*
*О, як цяпер люблю дзіцячы твар!*
*Я быў салдатам.*
*Маладыя ў холад*
*Мы у атаку*
*Беглі напралом.*
*А змерзлых дзетак*
*Нішчыў*
*Злосны голад…*
*О, як люблю дзяцей я за сталом!*
*Я быў салдатам.*
*«Тыгры» ў полі моклі,*
*Сяло спаліў.*
*Скончыліся дні…*
*Дзіцячыя навек там гульні змоўклі.*
*О, як люблю я дзетак у гульні!*
*Я быў салдатам.*
*Зноўку паняволі*
*Мы вогненную ў сне мяжу бяром.*
*Дзяцей паліў фашыст*
*У сельскай школе…*
*О, як люблю дзяцей над букваром!*
*Я быў салдатам.*
*Помню,*
*У сорак пятым*
*Быў наш трыумф —*
*Варожых войскаў крах.*
*Увесь час ісці стаміўся з аўтаматам.*
*Люблю дзяцей насіць я на руках.*
*Я быў салдатам.*
*Бачыў усё на свеце.*
*І смерць ступала*
*З кожным днём бліжэй.*
*Люблю,*
*Каб ля мяне сядзелі дзеці*
*І радасць каб лілася з іх вачэй.*

**Пераклад з калмыцкай Рагнеда МАЛАХОЎСКАГА**

Дэбют



# Таццяна СЕРАБРАКОВА

# Божы чалавек

*Апавяданне*

Таццяна нарадзілася ў вёсцы Нямойта Сенненскага раёна. Скончыла беларускі філфак, спецыяльнасць «Літаратурная работа ў газетах і часопісах». Працавала ў рэдакцыі. Пра сваё захапленне прозай маладая аўтарка паведамляе так: «Жаданне пісаць з'явілася яшчэ ў школе, друкавалася ў раёнцы і абласной газеце. Мая маці родам з Гомельскай вобласці, яе бабуля была сваячкай Івана Мележа, маці памятае, як ездзілі да Мележаў па святах ці Мележы да іх. Бабуля прасіла ўнукаў чытаць уголас кнігі свайго знакамітага пляменніка, пазнавала герояў і вельмі ганарылася «Паўлавым Іванам». Думаю, гэта і зрабіла штуршок у маім выпадку. Проста захацелася пісаць. Вось і дэбютны твор, прапанаваны «ЛіМу», заснаваны на рэальных падзеях, якія адбываліся ў вайну ў розных мясцінах пад Віцебскам».

Да раённага цэнтра аўтобусам — хвілін дваццаць. Ён прахадны, ідзе аднекуль з ускраін, збіраючы пасажыраў па невялікіх вёсачках. Каму трэба ў бальніцу, каму — на кірмаш ці ў госці да сваякоў. Ад нашага прыпынку аўтобус ледзь цягне, натужна гудзе ўсім сваім жалезным нутром, бо ў нас хат пад пяцьсот, і чалавек восем ці дзесяць абавязкова ў горад едуць. Часам і мы з настаўніцай па школьных справах, у лепшай сваёй вопратцы, з грашыма на прысмакі, займаем месца ў салоне. Эх, якім вясёлым і цікавым было падарожжа! Якім вялікім здаваўся гарадок, з шырокімі вуліцамі, машынамі, — блукаў бы ды блукаў!

Колькі разоў ні едзь ў бальніцу, абавязкова сустрэнеш там аднаго дзеда. Сухі, высокі, з кійком і торбай, ён ходзіць ад кабінета да кабінета, напявае: «А мой бацька — ляснік!..» Дактары выпіхваюць яго далікатна за дзверы, быццам проста накіроўваюць у іншы бок. Дзед са сваёй песняй ідзе далей, пагруквае кійком і заглядае ў вочы сустрэчным. Тут яго ўсе даўно ведаюць. «Пеця, едзь ты дадому!» — А ён напявае песеньку ды ідзе далей. Як адзін такое бачыш, дык бывае не па сабе, а за кампанію неяк смешна было. Хлопцы спрабавалі дзеду падпяваць. Мне дык, прызнацца, іх легкадумны жарт не вельмі спадабаўся. І вось якраз на гэтым месцы, нібы прачытаўшы мае думкі, жанчына, што сядзела ў чарзе побач, прыпыніла агульны смех:

— Што тут смешнага? Хіба вы не бачыце — чалавек хворы! Хто вы такія, каб смяяцца? Сорамна, пустасмехі! Гэты чалавек... ён многае перажыў! Вы нават не ўяўляеце сабе, які жах бачылі яго вочы. Спакон веку такія старцы, як дзед Пеця, лічацца вестунамі іншасвету, Боскімі людзьмі, і крыўдзіць, абражаць іх нельга, бо гэта вялікі грэх.

Наташа, самая старэйшая, а таму, відаць, і разумнейшая сярод нас, тактоўна спытала:

— А што з ім здарылася?

Сапраўды, гісторыя, якую мы пачулі, запомнілася назаўсёды. Пасля таго кожны раз, калі блукала па бальніцы, нават як Пеці ўжо там не было, сэрца сціскалася і ў галаве гучала яго «А мой бацька — ляснік!».

...Пеця ў вайну быў малы. Толькі збіраўся ў першы клас, як пачалося іншае жыццё. Бацька пайшоў у партызаны і загадаў слухацца маці. Два разы ён прыходзіў позна ноччу, і пакуль маці збірала на стол, цалаваў і лашчыў сына, які спаў. Але толькі кашляне, як Пеця прачынаўся, абдымаў рукамі бацьку за шыю, ныраў у густую бараду тварам і не мог адарвацца. Мужчына ледзь стрымліваў слёзы, маці кідала свае справы і хавалася за печчу. А хлопчык не плакаў, ён проста вісеў на бацькавай шыі і дрыжаў усім сваім маленькім целам. Такія спатканні былі цяжкімі і кароткімі, але дарагімі кожнаму.

Нарэшце гора дакацілася і да іх вёсачкі, немцы пасяліліся ў школе, палілі вогнішчы на двары і смажылі свіней ды курэй. Спачатку нікога не чапалі з мясцовых, пакуль не з'явіўся ў іх здраднік Антон, былы брыгадзір. Ён ведаў усё пра кожнага, здаў партызанаў, паказаў іх хаты, сем'і. Да Пецевай маці прыходзіў з афіцэрамі, крычаў і грукаў кулаком па стале, патрабаваў прызнацца, дзе муж, калі быў і калі збіраецца прыйсці. Так нічога не дабіўшыся, ірад ударыў жанчыну, мацюкнуўся і разам з хеўрай пайшоў у хлеў. Пеця абняў матулю і першы і апошні раз заплакаў ад гэтай вайны. Як любіў ён маму, як шкадавала яна яго! Не было чаго есці, толькі параная бульба, галоднае дзіця і ела яе праз сілу, дык маці налепіць з бульбянай кашы пеўнікаў ды конікаў... Пеця праз слёзы смяецца і есць. А пра бацьку яны сапраўды нічога не ведалі, ды і не сказалі б, зразумела. Хай бы стралялі нават.

А страляць немцы пачалі хутка. Нікога не шкадавалі, ні старых, ні малых. Як што не па-іхняму, то да сцяны. Людзі баяліся загаварыць на вуліцы. Здраднік Антон штовечар абыходзіў двары, пералічваў, ці ўсе дома, ці не падаўся хто партызаніць. Ворагі адчувалі сябе абсалютнымі ўладарамі гэтай зямлі, пакуль не загарэлася ўначы школа. Немцы не чакалі такога павароту, павыскоквалі, сонныя, і многія тут жа атрымалі кулю ў лоб. Партызаны падабраліся зусім блізка. Усю ноч чулася страляніна. Уцалелыя афіцэры паселі на машыны і ўцяклі. Хто страляў, Пеця не ведаў, бацька дадому не прыходзіў, але хлопчык быў проста ўпэўнены, што ён — побач. Раніцай пагрукалі ў шыбу, і ў хату зайшоў сівы каржакаваты дзедпартызан, спытаў прозвішча, узяў бульбы. Пра бацьку — ні слова.

Нікто не ведаў падрабязна, што здарылася, апоўдні вяскоўцы адвалаклі трупы немцаў пад самы лес і прысыпалі зямлёй. Старыя бабы капалі яму і пляваліся, праклінalі ўсю Германію, Гітлера, кожнага фрыца. Пеця глядзеў на твары мёртвых немцаў, і яму было так брыдка, што хацелася закапаць іх настолькі глыбока, як толькі можна. Апошнюю ў вёсцы карову забралі тыя, што стралялі ноччу, значыць, яны дзесьці непадалёку. Хлопчык бачыў след Свірскай Равухі на пожні, калі збіраў апошняе ў гэтым годзе шчаўе. Ен спадзяваўся, што яе вёў бацька.

На другі дзень вярнуліся немцы з Антонам. Толькі прыехала іх чалавек пяцьдзясят. Стралялі, каталі. Свірскую з-за каровы павесілі. Аднекуль прывялі сем цялушак, сагналі кабет рамантаваць хлеў ля Антонавай хаты, самі рассяліліся паблізу. Адчувалася, што затрымаліся тут капітальна. Да той будоўлі Пецю прывалок за каўнер кароткі, тоўсты немец, маці ўжо была там. Паліцай загадаў пасвіць кароў, ганяць іх на дзень за рэчку. Пеця слухаў і шукаў вачыма маці, бачыў, што яна паглядае на яго. Але падысці не дазволілі, і з лазінай у свой рост хлопчык пагнаў статак праз мост. Азірнуцца не было магчымасці, каровы баяліся нязвыклага месца, крыку, адна ўсё спрабавала вярнуцца назад. Не згубіць бы дурніцу! Пакаранне вядомае.

Лета ўжо амаль адступіла, сонца грэла слаба, трава за рэчкай была хоць і густая, але ўжо не такая сакавітая, каровы спачатку накінуліся на яе, а потым ужо выбіраць пачалі. На шчасце, хадзілі спакойна, ляжалі, жавалі жуйку. Пеця, галодны з вечара, паспрабаваў падаіць адну, толькі цыркануў у далонь, як нехта прыглушана аклікнуў:

— Пецька! Пецька!

Хлопчык вачам сваім не паверыў: да яго падпаўзаў барадаты, патрапаны сын той самай Свірскай, што павесілі немцы. Пеця азірнуўся па баках, каб упэўніцца, што за імі ніхто не назірае, выцер руку, мокрую ад малака, аб штаніну. Свірскі пацягнуў хлопца на зямлю, пачаў смяяцца, казытаць, цалаваць,— так рады быў бачыць суседа. Супакоіўшыся, распытаў, што робіцца ў вёсцы, колькі немцаў, дзе пасяліліся. Пеця расказаў усё падрабязна. Толькі пра смерць старой Свірскай прамаўчаў.

— Слухай, Пеця, заўтра я зноў буду тут цябе чакаць. Ты там уважліва слухай, запамінай, глядзі. Хутка мы з лесу выйдзем, нам бы ведаць, з чым выходзіць. І пагоним мы іх за далёкія далі, што і не ўспомніш, хто такія фрыцы. Пра мяне нікому не кажы, і сваёй маці таксама! І маёй ні слова! Глядзі! Без цябе нам не перамагчы, ты цяпер сапраўдны разведчык. Твой язык — твой вораг, памятай.

Свірскі патрос хлопчыка за плечы, патрапаў па галаве, потым дастаў са сваёй кішэні пажоўклы кавалачак сала, здзьмуў з яго табаку і аддаў Пецьку. Пакуль малы глядзеў на тое сала, партызана і след прастыў. Але хлопчык усё зразумеў правільна. І маці — ні слова.

Так і пачаліся першыя баявыя заданні. Пеця амаль штодзень бачыўся са Свірскім, перадаваў словы Антона, стараўся не ўпусціць ніводнага моманту. Хутка са Свірскім выйшаў з лесу Сітаў, настаўнік з суседняй вёскі, разам рашалі, што і як. Аднойчы папрасілі прыйсці ноччу, расказаць, хто дзе начуе, колькі немцаў на варце, хто з іх у горад паехаў. А як жа маці? Не пусціць, не пусціць яна за парог! Адлупцуе, але не пусціць. Ён у яе адзін. Толькі выкруціўся малы, сказаў ёй, што забыўся анучы каля студні. Выйшаў на хвілінку, і бягом босымі нагамі за раку, дзе яго чакалі. Перадаў, нічога не пераблытаў, і хутчэй дадому. Але маці не ашукаеш. Калі б выцяла добра, не сказаў бы, сцяў бы зубы і трываў, а як заплакала, то прызнаўся. Маці нічога не сказала, абняла, і доўга яны так сядзелі моўчкі, аж пакуль малы не заснуў.

Да першага снегу пасвіў хлопец статак. Праз яго партызаны пачалі перадаваць родным прывітанні, абнадзейвалі тым, што хутка ўсё скончыцца. Настрой у вяскоўцаў быў добры, яны жылі шчырымі спадзяваннямі: усё ж настане канец такому жыццю. На чацвер была запланавана важная аперацыя, партызаны загадалі сваім людзям схавацца па хатах і сядзець ціха. Але вечарам у сераду Пецька павінен быў перадаць у атрад, што чуваць пра немцаў. Тут падключыліся ўсе жанкі, падслухоўвалі, дзяліліся сакрэтамі. Маці таксама тое-сёе расказала сыну. На двары якраз ішоў лёгкі сняжок, белым сейвам закідваў сляды. Але толькі Пецька выбег за вароты, адчуў далёкі пах табакі. Такую курaць немцы. Адчуў, што за ім сочаць, спыніўся, павярнуў назад, як тут жа быў збіты з ног пугачом. Перад ім з цёмнай ночы ўстаў здраднік Антон. Злосны твар бачны праз заслону снегу. Паліцай схапіў, нібы шчанюка, малога за каўнер і павалок у хату. За імі ішлі двое немцаў. Маці не разгубілася, сказала, што дзіцё пабегла на снег паглядзець, пачала прасіцца ў фрыцаў. Але Антон рассмяяўся і з размаху перацягнуў яе той самай пугай па твары, рассек да крыві. Пецька заплакаў, кінуўся да яе. Прагрымеў стрэл, і маці прысела. Немец стрэліў ёй у нагу, палілася кроў.

— Гавары, смаркач, дзе партызаны! Інакш цябе чакае тое ж. А заўтра я прыйду і зраблю ёй дзірку ў другой назе, а заадно і табе!

На Пецьку наставілі рулю. Малы закрычаў такім голасам, што немец нават апусціў рэвальвер. Антон анямеў. Хлопчык закрыў рукамі галаву і прашаптаў:

— Не ведаю, не ведаю, не ведаю....

Антон плюнуў на падлогу і кіўнуў немцам на выхад. Яны пайшлі, а маці з сынам засталіся ў такім адчаі, у такім страху, што здавалася — анямелі. Маці трэсла, кроў бегла чырвоным струмком на падлогу. Аднекуль данёсся жаночы крык і следам — стрэл. Так і ёсць, Антон застрэліў балаболку Кутузіху, што патрывожыла яго сон, напляла пра партызанаў і Пецьку-разведчыка. Маці здагадвалася, але не была ўпэўнена ў сваіх меркаваннях. Кутузіха была яшчэ тая цётка.

— Сынок, бяжы да нашых... Сам у лесе заставайся... Як немца пагоняць, я прыйду. Бацьку скажы, каб не шкадаваў сілы, біў іх, гадаў! Апранайся, сынка, і бяжы. Схавайся там добра, я паклічу.

Пецька схапіў рудую шапку, пацалаваў матулю і пабег. Сказаць бацьку, каб біў фрыцаў? Толькі дзе той бацька? Пра бацьку ні слова. І Свірскі ці будзе чакаць, чуў жа стрэлы? Здаецца, так шпарка бяжыць, а яшчэ далёка. Пачуў ззаду стрэлы, не спыніўся, пабег, як маці загадала, да сваіх. Не знайшоў Свірскага, сунуўся ў лес, туды-сюды... Не крычаць жа! Блукаў, кружыў, не пазнаваў дарогі, а з вёскі час ад часу даносіліся адзіночныя стрэлы. Хутка гэтыя гукі заблыталіся ў высокіх ялінах, і Пеця не разумеў, дзе знаходзіцца. Знямоглы, упаў. Сэрца так калацілася ў грудзях, што не пачуў, як скрыпіць снег, як бягуць людзі, а калі яго падхапілі на рукі, страціў прытомнасць. Немцаў разбілі ў той жа дзень, але і з жыхароў вескі засталося трое. Пецю бачылі потым ля хаты, ён сядзеў, схіліўшыся над мёртвай маці.

Суседка забрала хлопца да сябе. Таксяк перазімавалі. Бацька не вярнуўся з вайны. Толькі Пеця чакаў, шмат гадоў чакаў. Вось так: быў героем, толькі не атрымаў ніводнай узнагароды. Не знайшлося сведак, хто б успомніў, пацвердзіў. Ды і каму была справа, як жыве сіраціна. Хто праганяў ад парога, хто карміў.

Як цяпер, помню гэтага старога, Божага чалавека і яго журботную песеньку «А мой бацька — ляснік!..»

# Сталёвы звон і спеўная ўзнёсласць

У многіх паэтаў пакалення «Маладняка» было па некалькі вершаў, па якіх сёння тых самых паэтаў можа згадаць як мінімум кожны, хто вывучаў беларускую літаратуру ва ўніверсітэце. Міхась Чарот — гэта «Босыя на вогнішчы», Уладзімір Дубоўка — «І пурпуровых ветразей узвівы», Язэп Пушча — «Лісты да сабакі», Уладзімір Жылка — «Вершы аб Вільні». У Паўлюка Труса такога верша-візіткі няма, і цяжка сказаць, які твор можна было б вылучыць у гэтай якасці. Першы апублікаваны верш «Над возерам» (1923) — надзіва светлы і суладны? «Чыстыя залацінкі любоўнай лірыкі», прысвечаныя двум альбо тром Марыям? Адмыслова Трусавы паэмы «Сірата Алеся» і «Развітанне» — плынныя, меладычныя, з перапевамі народных песень?

Паўлюк Трус, здаецца, ад першых сваіх вершаў ведаў, што павінна звацца паэзіяй і як варта яе пісаць. У апавяданні «Паэт і блохі», пазначаным 1928 годам, рэдактар «Палескай праўды» здзіўляецца дасланаму вершу тав. Малева, які без падзелу на радкі ператвараецца ў самую звычайную прозу. На дзве заўвагі пра адсутнасць у вершы музыкі прыходзіцца адзін каментарый наконт сэнсу твора: опус прысвечаны змаганню з блыхамі ў Чонкаўскім доме адпачынку. Зусім не паэтычны сюжэт! П. Трус у першую чаргу імкнецца да меладычнасці, суладнасці радка, стварае настрой, адпаведны сваім высокім тэмам, і выкарыстоўвае адно прыгожыя, гарантавана паэтычныя вобразы. Прыземленае, побытавае, грубаватае прынцыпова абмінаецца Трусам-паэтам: ён заўсёды ўзнёслы і чулы, што часам мяжуе з сентыментальнасцю. Калі любіць вёску — дык да слёз, калі развітвацца з ёю — дык абавязкова пад плач сястры ды маці. Бо раптам — назаўсёды? Аднак паэт рэгулярна наведваў родны Нізок, і пакуль старэйшая сястра «прыбірала стружкі і белай настольніцай засцілала стол», гуляў у садзе з Пятром Глебкам (з успамінаў Веры Чэпікавай-Трус). Човен цалуе азёрную сінь, хвалі ў гневе цалуюць скалы, рунь кудравіцца, лес кучаравіцца… Прыметнікі, назоўнікі і словазлучэнні дзеля асаблівай паэтычнасці пішуцца праз злучок (шыр-разгон, песня-веснаплынння, увосень-сінь), часта сустракаюцца ў вершах Труса дзеясловы, утвораныя ад назоўнікаў, і назоўнікі, утвораныя ад дзеясловаў (вішнёвіць, кудзеліць, імглістасць). А побач — захапленне вясной і маладосцю, дні-сонцавеі, лілеі, вяргіні, «цвіце фантазія півоняй» — вось гэта сапраўдная паэзія, не тое што блохі ў доме адпачынку!

Тыповыя рысы «маладнякоўскага» вершаскладання ў значнай ступені звязаны з захапленнем літаратурнай моладзі імажынізмам і ў прыватнасці паэзіяй Сергея Ясеніна. Яго ўплыў адчуваецца ў шэрагу твораў П. Труса («Не заспі, — пабудзі мяне рана…», «Дзясяты падмурак»), але — ніякіх непаэтычных выказванняў! Тут П. Трус бліжэй да Канстанціна Бальманта: музыка перадусім! Адпаведна, аўтар часта выкарыстоўвае фрагменты народных песень, фальклорныя вобразы і матывы. Рэзкімі, часам дысгарманічнымі штрышкамі ў вершах П. Труса з'яўляюцца метафары, вобразы якіх не вельмі спалучаюцца між сабой: «Танула ў сінь туману сетка. / А сонца чаркай за вакном / на прошву шоўкавых палеткаў / цадзіла хмельнае віно. / І каплі / капалі праз цені / у коўш карункавых палёў, / як кроў / гарачая ў асенні / крапіла свежае галлё».

Часам здаецца, што творчасць гэтага аўтара — зіхоткая паўнаводная рака, якая цячэ не з пэўнай мэтай, а толькі таму, што мае выток. «Паўлюк Трус — гэта крыніца з беларускіх нетраў, гэта буйны вецер ад маладога жыцця», — пісаў Адам Бабарэка. І галоўнае, што адлюстроўваецца ў яго паэтычнай плыні, — гожыя родныя краявіды:

*Нямая бель… Гаі… Дубровы…*
*Маўчаць за возерам стагі,*
*Згубілі вербы каляровасць.*
*А там… снягі… снягі…снягі…*
*Які прастор… Ў прасторы іней…*
*Я сам не ведаю, чаму,*
*Люблю аснежныя раўніны*
*І беларускую зіму!..*

Беларусь маляўнічая — самае важнае ў паэзіі П. Труса, і нават у вершах «Брату», «Яна», «Не віню…», дзе пейзажных замалёвак магло б не быць, прыродзе абавязкова прысвечана некалькі радкоў альбо строф. Дрэмлюць палі і лясы, журацца крыніцы, вецер хвалюе возера, цвіце зарою неба, зіма сцеле белыя кілімы — і блукаюць між


Паўлюк Трус, 1925 г.

гэтай прыгажосці жнеі, камсамолкі, лірнік, сястра дый сам герой, якому даводзіцца абіраць сваю сцежку. Палі, лясы, рэкі — гэта ўсё вечнае і бязмежнае, а чалавек — маленькі, выпадковы і амаль імгненны. Ёсць у Труса і непазбежныя для маладой паэзіі 1920-х гадоў рэвалюцыйныя штампы — сталёвы звон, вольна-сакаліныя крылы, грозныя хмары ды агнявыя косы, але ўсё гэта таксама губляецца між краявідаў. П. Трус нарадзіўся ў 1904 годзе і ведаў рэвалюцыю не з чужых апавяданняў: як піша Ганна Запартыка, улетку 1920 г. яго замест хворага бацькі забралі ў абоз, з Чырвонай арміяй ён даехаў амаль да Варшавы, у дарозе хварэў.

*Ў гэту ноч,*
*у ружовым*
*разліве,*
*У раны*
*ступала*
*нага!..*

Самыя страшныя радкі са збору твораў П. Труса.

Пры жыцці ў маладога паэта выйшла два зборнікі: «Вершы» (1925) і «Ветры буйныя» (1927). З 1925 г. ён уваходзіць у літаратурную арганізацыю «Маладняк», але двойчы спрабуе яе пакінуць пасля ўтварэння «Узвышша». Пазіцыя адносна яго кандыдатуры ва «Узвышшы» была незразумелай: адносіны з Уладзімірам Дубоўкам падаваліся не надта сяброўскімі, многія вінавацілі ў «слабасці і хістанні», хаця таленавітасць і паэтычную самастойнасць Паўлюка не адмаўляў ніхто. Дарэчы, ён не толькі пісаў вершы, але і добра маляваў, удзельнічаў у спектаклях, апрацоўваў для кампазітараў фальклорна-паэтычныя матэрыялы.

На творчасць П. Труса ўплывалі таксама Тарас Шаўчэнка, Максім Багдановіч, Якуб Колас, Янка Купала, руская літаратура — ад Аляксандра Пушкіна да Максіма Горкага (у «Думах» Труса выразна чуюцца водгукі «Песні пра сокала» і «Песні пра буравесніка»). Галоўнае, каб былі рамантызм і ўзнёсласць! Вершы паэта-маладнякоўца, у сваю чаргу, натхнялі іншых: Аркадзь Куляшоў не мог не чытаць яго «Ліст да сястры», які і настроем, і вобразнасцю нагадвае «Алесю»: «…Быў вераснёвы дзень, / а травы ў далавах / Цвілі… адцвіталі, / Як на парозе, помню, / Сказаў на ростані, / сястры сказаў — «бывай».

П. Трус памёр ад тыфу напрыканцы лета 1929 года і меў толькі дваццаць пяць гадоў. Большасць яго паплечнікаў па літаратуры былі пахаваны зусім інакш: без некралогаў, ганаровай варты, аркестра і высокіх прамоў:

«І таварышы непаслухмяным языком,
няскладнымі словамі скажуць сваё. <…>
Ну, спі спакойна! Ты ўжо нічога не чуеш.
Без пары ты адышоў.
Хто б мог падумаць, хто?
Смерцю сваёй сезон адчыніў.
Няўжо мёртвы будзе сезон?
А хто ж будзе песні пра сацыялістычнае будаўніцтва ў роднай краіне так шчыра пяяць?» — пісаў з нагоды смерці П. Труса Максім Гарэцкі.

Паўлюк Трус быў глыбока звязаны з прыродай і яе стыхіяй, з народнай творчасцю. Ён здолеў перадаць гэту натуральную прыгажосць у вершах, якія і сёння прыцягваюць пачуццёвасцю і шчырасцю.

*Хочацца навеяць*
*казкі-таямніцы*
*Гукамі мелодый,*
*радасцю без слоў.*
*І застылі сцені*
*у маёй святліцы,*
*Засынаю…*
*Сніцца*
*роднае сяло.*

**Алеся ЛАПІЦКАЯ,**
**Марыя ПАЎЛОЎСКАЯ**

# Культура: падлікі ды факты

Між сур'ёзнымі навуковымі даследаваннямі, якія пабачылі свет цягам апошніх гадоў, — кніга «Навуковая і культурна-асветніцкая дзейнасць інтэлігенцыі Беларусі (1861 — 1900 гг.)», выдадзеная ў 2012 годзе.

Аўтар кнігі — кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры «Гісторыя, сусветная і айчынная культура» Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта Андрэй Багдановіч. Першы раздзел мае назву «Гістарыяграфія і крыніцы». Другі прысвечаны аналізу палітыкі дзяржавы ў адносінах да дзейнасці інтэлігенцыі ў Беларусі: «яе змест пераважна складала паскарэнне русіфікацыі краю». Пры гэтым «дзейнасць мясцовай і прысланай сюды з унутраных губерняў Расіі інтэлігенцыі не заўсёды адпавядала ідэалагічным запатрабаванням урада».

Мінскі беларусазнаўца не выявіў ніводнага факта, які сведчыў бы пра тое, што «ўрад… перашкаджаў даследаванням у галіне прыродазнаўчых і тэхнічных навук». Канечне, прадуктыўнасць гэтых навук залежала перадусім ад капіталаёмістасці даследчыцкага працэсу, і тут існавала вялікая праблема, бо «ўрад… не аказваў фінансавай падтрымкі іх развіццю».

Зусім інакш можна ахарактарызаваць становішча, у якім апынуліся суб'екты навуковага пошуку ў навуках сацыяльна-гуманітарнага цыкла. Улады прад'яўлялі ім жорсткі сацыяльны заказ: «ідэалагічна абгрунтаваць «рускасць» беларускіх земляў». Менавіта за гэта ім «выдзяляліся пэўныя дзяржаўныя сродкі».

У трэцім раздзеле «Навуковая і вынаходніцкая дзейнасць інтэлігенцыі» выклікаюць цікавасць асобы прафесараў М. В. Рытава і І. А. Сцебута, якія сталі заснавальнікамі беларускай сельскагаспадарчай навукі.

Дацэнт БНТУ адным з першых звярнуўся да даследавання гісторыі айчыннай медыцыны парэформеннага перыяду. З кнігі можна даведацца, што «ў дарэвалюцыйнай Беларусі цэнтрамі навуковай медыцынскай думкі былі ўрачэбныя таварыствы, якія функцыянавалі ва ўсіх губернскіх гарадах. Урачы падтрымлівалі навуковыя сувязі з іншымі медыцынскімі таварыствамі і выдатнымі дзеячамі медыцыны ў Расіі і Еўропе, прымалі ўдзел у працы агульнарасійскіх з'ездаў». А. Багдановіч адкрывае для чытачоў імёны сур'ёзных айчынных навукоўцаў у галіне медыцыны С. Надпоржскага, А. Цехановіча. А найбольш паспяховымі беларускія вынаходнікі былі ў сферах чыгуначнага транспарту, гадзіннікавай справы і фатаграфіі.

Чацвёрты раздзел «Культурна-асветніцкая дзейнасць інтэлігенцыі» ўключае такія сюжэтныя лініі, як народныя чытанні, тэатральная дзейнасць, стварэнне народных бібліятэк, чытальняў і кніжны гандаль, а таксама арганізацыя нядзельных школ, адукацыйных і прафесійных курсаў.

У выніку можна зрабіць абагульняючы партрэт беларускай інтэлігенцыі:

Колькасны рост: «У Беларусі колькасць інтэлігенцыі ўзрасла з 1861 па 1897 год больш чым у два з паловай разы (з 20 342 да 54 369 чалавек) і склала 2,6% эканамічна актыўнай часткі насельніцтва. Гэты працэнт быў крышачку ніжэйшым за сярэднерасійскі паказчык (2,7%)».

Адукацыйны ўзровень: «У 1897 г. толькі 10,8% з 54 369 прадстаўнікоў інтэлігенцыі мелі вышэйшую універсітэцкую, тэхнічную і ваенную адукацыю, 19,2% — сярэднюю спецыяльную, а астатнія закончылі агульнаадукацыйныя поўныя і няпоўныя сярэднія школы».

Сацыяльнае паходжанне: «…пераважалі прадстаўнікі дваранства. Яны складалі палову ад усёй інтэлігенцыі (49,7%), астатнія паходзілі ў асноўным з купцоў, мяшчан і не належачых да асноўных саслоўяў. Выхадцы з сялян складалі толькі 6,3%».

Этнічная структура: грунтам для адпаведнага даследчыцкага працэсу сталі дадзеныя, атрыманыя ў час «усерасійскага перапісу насельніцтва 1897 г. Больш за трэць інтэлігенцыі ў Беларусі складалі велікаросы, больш за чвэрць — яўрэі, каля чвэрці — беларусы, 9,6% — палякі». Важна адзначыць, што аўтар не ўхіляецца ад вострых пытанняў датычна тытульнага этнасу — беларусаў. Ён паказвае, што «нацыянальны склад інтэлігенцыі ў значнай ступені не супадаў з колькасным складам насельніцтва беларускіх губерняў, у якім беларусы складалі больш за 73%, а велікаросы толькі 4,4%».

Кнігу А. Багдановіча з вялікай карысцю могуць пачытаць спецыялісты ў галіне гісторыі і культуралогіі.

**Міхась СТРАЛЕЦ**

# Касцюшка: з паўстанцаў — у літаратурныя героі

## ДА 220-ГОДДЗЯ ПАЎСТАННЯ

Пасля таго, як сціхлі бурлівыя падзеі інсурэкцыі 1794 г., вобраз Тадэвуша Касцюшкі атрымаў распаўсюджанне — як у фальклорным дыскурсе, так і ў літаратурным: «Песня беларускіх жаўнераў 1794 года» невядомага аўтара і «Беларуская песня пра Касцюшку» ў розных варыяцыях. У часы Расійскай імперыі зварот да імя Касцюшкі ў беларускіх тэкстах знаходзіўся на мяжы знікнення. З прычыны сацыяльна-палітычных варункаў многія сыны ліцвінскай зямлі часта працавалі на культуры суседніх народаў — польскага і расійскага, выкарыстоўваючы пры гэтым адпаведныя мовы. Знаходзіліся, аднак, і тыя, хто не цураўся і мовы люду паспалітага, стаўшы тым самым, як прынята казаць, польска-беларускімі пісьменнікамі. Іх творчая спадчына, у тым ліку польскамоўная, з'яўляецца неад'емнай часткай беларускага прыгожага пісьменства. І хаця безумоўная перавага ў колькасці і якасці мастацкіх твораў пра Касцюшку належыць польскай літаратуры, пэўныя здабыткі знаходзяцца і ў нашых землякоў. Так, блізкай да паэтычнай прозы лічыць С. Немагай шэраг фрагментаў з «Мемуараў» слыннага кампазітара і днага з паўстанцкіх камандзіраў М. К. Агінскага: «Такой, да прыкладу, з'яўляецца красамоўная эпітафія, прысвечаная геройству генерала: "Помнікі, узнесеныя ў гонар вялікіх людзей, рэдка захоўваюцца сярод грамадзянскіх войнаў і рэвалюцый і доўга не супраціўляюцца часу, які нішчыць усё. Але памяць пра Касцюшку, высечаная ў глыбіні сэрца кожнага сябры чалавецтва, пяройдзе да самых далёкіх будучых пакаленняў і ніколі не будзе сцёртая. Нашы нашчадкі не перастануць яго благаслаўляць, і слёзы ўдзячнасці, вылітыя на яго труне, будуць самай чыстай пашанай, аддадзенай яго дабрадзейнасцям"».




**І сёння Тадэвуш Касцюшка застаецца папулярным героем — перадусім, у асяродку беларускамоўнай моладзі. Напрыклад, у віртуальнай суполцы «Гісторыя Беларусі ў мемах і дэматыватарах», створанай у сацыяльнай сетцы УКантакце, быў змешчаны такі фотаздымак славутага паўстанца з тлумачэннем: «Тадэвуш Касцюшка, як вядома, нацыянальны герой ЗША, вызначыўся ў вайне за незалежнасць калоній ад Вялікабрытаніі».**

***

Інтымна-лірычная песня «Развітанне Касцюшкі з Юліяй» належыць пяру аднаго з філаматаў — Яна Чачота, паплечніка і сябра Адама Міцкевіча. Як мяркуе Кастусь Цвірка, твор быў напісаны «ў турме, відаць, перад развітаннем паэта з Радзімай — перад уральскай ссылкай. Аўтар адштурхнуўся тут ад папулярнай у той час песні пра развітанне Тадэвуша Касцюшкі з сваёй каханай перад ад'ездам яго ў Францыю, а потым у Злучаныя Штаты Амерыкі. Толькі каханую Касцюшкі звалі Людвікай Сасноўскай. Такі быў тады звычай — мяняць у творах сапраўднае імя героя. Песня спявалася ў рытме паланеза».

Інтанацыйна-вобразна песня атаясамляецца з жанрам раманса. Аўтар перадае глыбіню перажыванняў лірычнага героя ў сувязі з тым, што доля разлучае яго з каханай. Але «любасць пераможа нават час» (і тут, як потым засведчылі біёграфы Касцюшкі, паэт не памыляецца: пад зоркай таго пачуцця пражылі свае жыцці і Тадэвуш, і Людвіка). На фоне ў асноўным гучнай, рытарычнай грамадзянскай лірыкі з выкарыстаннем вобраза Касцюшкі «Развітанне…» Я. Чачота набывае яшчэ большы драматызм, выклікаючы суперажыванне датычна лірычнага героя.

Яшчэ адзін верш Я. Чачота прасякнуты матывамі помсты «маскалям» за паразу касцюшкаўскага паўстання. Радкі становяцца своеасаблівай прысягай працягваць справу героя, які пакінуў гэты свет. На беларускую мову, наколькі вядома, твор не перакладаўся, дый для тагачаснага кантэксту, прасякнутага падобным грамадзянскім пафасам, яго радкі не мелі ні яркай навізны, ні высокай мастацкай вартасці.

***

Апошнім дакастрычніцкім зваротам да нацыянальна-вызваленчых матываў з выкарыстаннем імя Касцюшкі можна лічыць верш беларускага адваката (ува ўсіх сэнсах) Францішка Багушэвіча, напісаны з нагоды сотых угодкаў інсурэкцыі — «Да 100-годдзя». У канцы XIX ст., з аднаго боку, народ яшчэ «спаў» летаргічна-амнезійным сном, але з іншага — на аснове былога ліцвінскага этнасу нараджалася новагістарычная нацыя беларусаў, нешматлікія прадстаўнікі інтэлігенцыі, што пакрыёма вярталі ў кантэкст беларускага пісьмовага слова (часам, як у дадзеным выпадку, праз польскамоўныя творы) слаўныя старонкі нашага мінулага і, апелюючы да іх, намагаліся «абудзіць» дзесяцімільённую нацыю:

*…О, Тадэвушавы ценю,*
*Абудзі у сэрцах раны,*
*Павяртай іх з амярцвення.*
<…>
*Хай цяпер, перад нягодай,*
*Кроў з-пад Кракава абудзіць*
*Сілу нацыі й народа.*

І ці не адным з першых гэты матыў абуджэння, падхоплены ў далейшым Янкам Купалам і многімі іншымі, быў выкарыстаны Ф. Багушэвічам, прычым у звязку са славутым грамадскім дзеячам. Такі выбар быў наўрад ці выпадковы яшчэ па адной прычыне: фарміруемай нацыі беларусаў патрэбны быў духоўны лідар, асоба, якая стала б паходняй на шляху нацыянальнага развіцця. І найлепшай за Касцюшку кандыдатуры, відавочна, не знайшлося б.

Праўда, тут ёсць адно «але». Арыгінал верша быў напісаны паэтам па-польску, і, паколькі адсутнічае дастасаванне верша да беларускай нацыі, можна засумнявацца ў тым, што твор працуе на беларускую, а не на польскую, ідэю. Аднак відавочна, што заўсёды нацыянальна актыўнаму, пасіянарнаму польскаму народу абуджэнне было не патрэбна — у адрозненне ад люду «простага» ці «тутэйшага», як называлі сябе беларусы. Праўда, сам Касцюшка, паводле меркавання расійскага даследчыка гісторыі Беларусі Мікалая Нікалаева, «лічыў патрэбнымі і неадкладнымі прымусовыя меры па паланізацыі беларускага сялянства». Гэта мае абгрунтаванне ў выглядзе слоў самога Касцюшкі, які ў цытуемым Ігарам Марзалюком выпадку казаў пра русінаў: «Прывучыць іх трэба да польскай мовы… З часам польскі дух у іх увойдзе». Таму наўрад ці Касцюшка пагадзіўся б з Багушэвічам, які змадэляваў мастацкі вобраз згодна з неабходнай кан'юнктурай, выкарыстаўшы выбітны «брэнд» у мэтах нацыянальнай ідэі. Пры гэтым заўважана, што ліцвінскі патрыятызм не супярэчыў патрыятызму Рэчы Паспалітай і ў інтэнцыях Т. Касцюшкі стаяў паперадзе інтарэсаў супольнай дзяржавы двух народаў. Больш за тое, паводле Алега Латышонка, у асобе Касцюшкі мы назіраем столькі праяў беларускасці, колькі іх магло быць у дадзеных гістарычных абставінах.

Як ні парадаксальна, але меркаванні М. Нікалаева і І. Марзалюка, падмацаваныя такімі важкімі аргументамі, як словы самога Т. Касцюшкі, зусім не супярэчаць пазіцыям ні Ф. Багушэвіча, ні А. Латышонка. Неабходна ўлічваць час, кантэкстам якога былі абумоўлены тыя словы героя. З гэтай нагоды дазволім сабе шырокае цытаванне выбітнай украінскай даследчыцы Наталлі Яковенка: «Лише така держава, згідно з поглядами діячів Просвітництва, матиме гарантовану безпеку, торуватиме шлях поступові освіти, правопорядку, усуватиме архаїчні пережитки тощо. Варто нагадати, що власне в останній третині XVIII ст. німецька мова була оголошена обов'язковою в поліетнічній Австрії, а у Франції, охопленій полум'ям революції, збереження регіональних мовних відмінностей трактувалося як ознака контрреволюції, бо, як говорив у 1794 р. депутат Конвенту Бертран Барер де Вйозак [Barére de Vieuzac], мова вільного народу мусить бути одна й та сама для всіх. На схожі ідеї натрапляємо і в політичній думці Речі Посполитої. Наприклад, майбутній вождь повстанців Тадеуш Костюшко у 1789 р. писав, що розв'язання української проблеми неможливе без призвичаєння до польської мови, у тому числі — навіть завдяки впровадженню її у церковний обряд, бо тільки так з часом у них увійде польський дух. Мовна асиміляція українського простолюду сприймалася і як запорука його лояльності, оскільки, як підкреслював один з найвидатніших діячів доби реформ Гуго Коллонтай, бунти спалахували завжди тільки там, де низи не вміли говорити по-польському». Таму пры ўсім сваім ліцвінскім патрыятызме Касцюшка не мог выступаць за роўнасць роднай мовы з польскай, якая да таго часу выйшла далёка за межы Польшчы, запаланіўшы і на Беларусі фактычна ўсе сацыяльныя нішы, акрамя размоўнай і фальклорнай (гэта даказваецца і на прыкладзе мастацкіх твораў канца XVIII — пачатку XIX стст.). Касцюшка імкнуўся за прагрэсам, а заступніцтва за рэгіянальную мову, да ўзроўню якой «лакалізавалі» ліцвінскія правячыя колы мову продкаў, рабіла б Касцюшку рэакцыянерам.

Пасля такіх фальклорных і аўтарскіх здабыткаў лагічным быў бы працяг развіцця тэмы паўстання ў мастацкай літаратуры, аднак гэтаму перашкаджала перадусім расійская вялікадзяржаўная палітыка прывівання беларускаму народу нацыянальна-гістарычнай амнезіі, у якой патанулі настаўленні Ф. Багушэвіча:

*Знаць Чачота ўсе павінны*
*І пра Зана дабрачыннасць,*
*Пра Касцюшку, і Манюшку.*
*І пра песняроў.*

*Рукі ім падаўшы, знаю,*
*Зробім болей мы для краю,*
*Чымся ў бойках разам стойка*
*Праліваўшы кроў.*

*Хай жа ўсе, усе, хто можа,*
*Возьмуць свой кіёк дарожны,*
*У край айчынны час ісці нам*
*Вывучаць свой люд.*

*Сонцу нашаму свяціцца,*
*Піць нам са сваіх крыніцаў, —*
*Вымятаем дружна з краю*
*Мы замежны бруд!*

(«Прэч бутэлькі, люлькі, карты!..», пераклаў Куба Паўтаржыцкі.)

***

Такім чынам, верш Ф. Багушэвіча стаў апошнім у XIX ст. зваротам да нацыянальна-вызваленчых матываў з выкарыстаннем вобраза Касцюшкі як літаратурна-мастацкага канцэпту і кангеніяльнага сімвала. Заходнерусізм, паралельны працяг паланізацыі адлучылі мадэрновую беларускую нацыю і культуру ад ліцвінскай глебы і канчаткова нівеліравалі ўспрыманне Рэчы Паспалітай як поліэтнічнай дзяржавы ў тым ліку будучага беларускага народа. Гэта стала адным з чыннікаў маргіналізацыі вобраза Тадэвуша Касцюшкі ў кантэксце беларускай культуры, які напачатку быў у ёй даволі рэпрэзентатыўны. У той час само імя героя на прасторах Расійскай імперыі было ледзь не пад забаронай, што, дарэчы, адлюстравана ў рамане сучаснага пісьменніка Алеся Наварыча «Літоўскі воўк» пра паўстанне 1863 — 1864 гг.: «Цыц! Пра Касцюшку не ўспамінаць… Глядзі, Фогель (жандар. — **А. Т.**) вухі наставіў…»

Другім фактарам стаў прыход новых герояў у гісторыю, пасля міфалагізаваных — перадусім Кастуся Каліноўскага, які да таго ж знаходзіўся ў адным хранатопе з генезісам беларусаў як нацыянальнай супольнасці. У сувязі з гэтым А. Латышонак падкрэслівае сапраўдную народнасць славы Тадэвуша Касцюшкі, што «не мае нічога супольнага са штучным культам асобы Каліноўскага, створаным беларускімі бальшавікамі ў 20-я гг.» Менавіта з таго часу ў беларускім дыскурсе адбываецца інтэнсіўнае мастацкае асэнсаванне ягонай фігуры. Не выключана, што легендарызацыя вобраза Кастуся Каліноўскага ў многім узрасла на пасіянарнай глебе, падрыхтаванай папярэднімі хваляваннямі на зямлі нядаўняга ВКЛ, у тым ліку і перадусім — інсурэкцыі на чале з Тадэвушам Касцюшкам. Але гэта ўжо тэма для іншага даследавання.

**Анатоль ТРАФІМЧЫК**

# Млечным Шляхам Кузьмы Чорнага

## ПРЭМ’ЕРА НА БЕЛАРУСКІМ РАДЫЁ

**Мы ўсё часцей згадваем дату, якая для нас з’яўляецца сімвалічным падзелам паміж жыццём і смерцю, свабодай і нявольніцтвам. 70-я гадавіна вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў вяртае нас да суровых падзей, будзіць сумленне, спараджае шчырыя дыялогі альбо ціхі невыказны сум. Ён генетычна ўласцівы беларусам, бо мы на той страшнай вайне згубілі кожнага трэцяга, і ў кожным беларускім родзе — свой досвед вайны.**



Народны артыст Беларусі Арнольд Памазан.



Фота Кастуся Дробава

Аляксандр Ждановіч (злева), заслужаны артыст Беларусі Уладзімір Мішчанчук, рэжысёр Алег Вінярскі.

У фондах Беларускага радыё захоўваецца шмат радыёспектакляў і пастановак паводле мастацкіх твораў пра вайну. І ў гэтым «ваенным летапісе» можна знайсці імёны многіх беларускіх класікаў: І. Мележа і В. Быкава, І. Шамякіна і А. Адамовіча, К. Губарэвіча і І. Чыгрынава, М. Стральцова і А. Дударава. Спіс можна працягваць. Варта проста ўсвядоміць натуральнасць гэтай тэмы для розных пакаленняў беларускіх творцаў.

Некалі Віктар Астаф’еў заўважыў, што «усё лепшае ў літаратуры па аб вайне створана тымі, хто ваяваў на перадавой». Васіль Быкаў яму адказаў: «Увогуле гэта справядліва, хоць я б не сцвярджаў так катэгарычна, згаджаючыся, аднак, з той часткай сцвярджэння, што асабісты вопыт вайны тут нельга замяніць нічым».

Кузьма Чорны задуму свайго рамана «Млечны Шлях» сфармуляваў як «беларускі чалавек сярод сваіх еўрапейскіх суседзяў у часе Айчыннай вайны». Пісьменнік закончыў гэты твор незадоўга да сваёй смерці, у год вызвалення Беларусі. Праз 70 гадоў упершыню паводле рамана здзейснена радыёпастаноўка.

9 і 10 мая на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё ў праекце «Тэатр Беларускага радыё» слухайце радыёспектакль у 2 частках «Млечны Шлях» паводле аднайменнага рамана К. Чорнага. Аўтар інсцэніроўкі для радыё П. Васючэнка, музыка кампазітара У. Саўчыка, рэжысёр А. Вінярскі, гукарэжысёр В. Бяляеў, рэдактар і кіраўнік праекта Г. Шаблінская. Ролі выконваюць: народны артыст СССР Г. Аўсяннікаў, народныя артысты Беларусі В. Манаеў, А. Памазан, М. Захарэвіч, М. Кірычэнка, заслужаныя артысты Рэспублікі Беларусь А. Душачкін, У. Мішчанчук, артысты А. Гарцуеў, А. Ждановіч, А. Крывашэй.

Разам з удзельнікамі пастановачнай групы згадаем зараз, як рыхтавалася прэм’ера радыёспектакля «Млечны Шлях» паводле аднайменнага рамана Кузьмы Чорнага.

**Пятро Васючэнка:** — Чорным я займаўся даўно, не толькі інсцэніраваў «Млечны Шлях». Хаця галоўны ўнёсак у яго вывучэнне зрабіў у свой час А. Адамовіч, які адкрыў К. Чорнага не проста як майстра беларускай літаратуры, а майстра сусветнага значэння, які, будучы ўдзельнікам вайны, пісаў для чытачоў XXI стагоддзя. Бо толькі цяпер мы як след можам зразумець яго твор «Млечны Шлях». Гэта абсалютна еўрапейскі кароткі раман з вялікай канцэнтрацыяй зместу.

Сапраўды, у гэтым юбілейным годзе шмат што сышлося: і 100-годдзе Першай сусветнай вайны, пра якую Чорны таксама пісаў у рамане «Пошукі будучыні», і вяртанне пісьменніка ў 1944 годзе ў халодны і галодны Мінск, дзе ён ледзьве паспявае завяршыць раман «Млечны Шлях», канцоўку ўжо ў канспектыўнай форме. Памятаючы яго тастамент, сказ з дзённіка, напісаны за паўгадзіны да смерці: «Божа, напішы за мяне мае раманы…», вядома, з трапятаннем бярэшся за такі складаны для інсцэніроўкі матэрыял. І вельмі добра, што Беларускае радыё ажыццявіла гэты пастановачны праект. У нечым воля Кузьмы Чорнага выканана ўсім творчым калектывам, які працаваў над спектаклем.

**Галіна Шаблінская:** — У радыёп’есу «Млечны Шлях» вамі ўведзены вобраз аўтара К. Чорнага. З’яўленне постаці пісьменніка як дзеючай асобы дапамагло вырашыць асноўную ідэю твора?

**Пятро Васючэнка:** — Я спрабаваў уявіць сабе, як жыве аўтар у вызваленым Мінску, а яму было няпроста ў гэты час, пра што сведчаць дзённікавыя запісы, што я часткова выкарыстаў, малюючы вобраз пісьменніка. Атрымаўся такі раман у рамане. І сам аўтар, і стварэнне «Млечнага Шляху» на нашых вачах: роздум пра лёс чалавецтва, лёс цывілізацыі, унутраны дыялог, які вёў сам з сабою вялікі майстар пяра з думкаю пра Беларусь сярод еўрапейскіх суседзяў, пра будучыню.

**Галіна Шаблінская:** — Філасофія вайны была разгледжана і вырашана беларускім аўтарам у 1944 годзе. Ён не ведаў, як будуць далей развівацца падзеі, але сіла таленту была такая, што, аказалася, пісьменнік усё прадбачыў…

**Пятро Васючэнка:** — Матэрыял для інсцэніроўкі вельмі складаны. Гэта ўсё-такі проза, прычым густая, насычаная маналогамі-споведзямі герояў, калі яны спавядаюцца перад маленькай дзяўчынкай Ганусяй. І давялося шчыльна папрацаваць.

**Галіна Шаблінская:** — Спецыяльна для радыёспектакля «Млечны Шлях» кампазітарам Уладзімірам Саўчыкам была напісана музыка. Што было важна сказаць слухачу музычнай мовай?

**Уладзімір Саўчык:** — Я быў уражаны глыбінёй рамана і адкрытасцю пачуццяў. Прычым, па-дастаеўску згушчаных. Гэта мяне настолькі натхніла, што я напісаў сімфонію. Яна складаецца з 4 частак і вымалёўвае і характары герояў, і характар сітуацыі, і сам дух рамана. З першых нот вы пачуеце святло Млечнага Шляху, які пасылае сваю нябесную мелодыю на Зямлю, ён размаўляе з намі мовай нашых продкаў і вечнасці і падтрымлівае нас, і штосьці раіць нам ды падказвае.

Мне было важна перадаць інтанацыю сардэчнасці, спавядальнасці аўтара, якая ёсць у Чорнага. Калі ўважліва прачытаць раман, то адчуеш, што аўтар як бы спавядаецца перад Усявышнім, перад кожным з нас. І для кампазітара гэта дае незвычайную форму выказвання, пранікнёнасці, даходлівасці да сэрца: музыка павінна ісці ад сэрца да сэрца, як і кожнае слова рамана. Складана выбудаваныя характары, глыбокі канфлікт у сітуацыі, калі вайна, і жыццё, і смерць — усё сплецена ў адзін вузел… Гэта вельмі цікавы матэрыял для кампазітара.

**Галіна Шаблінская:** — А яшчэ згадаем пра тое, што галоўныя дзеючыя асобы рамана — прадстаўнікі розных нацыянальнасцей, розных краін. Як гэта адлюстравалася ў музычнай характарыстыцы персанажаў?

**Уладзімір Саўчык:** — Як кампазітар, шукаў розныя музычныя фарбы і для чэха, і для паляка, і для немца, і для беларуса Уладзіміра Ярмаліцкага. А разам яны быццам шматколерная вясёлка, якая ўзыходзіць над усёй зямлёй пасля навальніцы…

**Галіна Шаблінская:** — Пяць гадоў таму на Беларускім радыё адбылася прэм’ера радыёспектакля «Пастка» паводле аповесці народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава. І вось сёння пастаўлены яшчэ адзін твор пра вайну — «Млечны Шлях» Кузьмы Чорнага. Рэжысёр — Алег Вінярскі. Чым захапіла новая работа? Ці сталася яна прынцыпова новай для рэжысёра?

**Алег Вінярскі:** — Рэжысёрская мэта гэтай работы для мяне была ў тым, каб зрабіць сімвалічны радыёспектакль. Таму што, па-першае, усе персанажы — сімвалы. Месца дзеяння — таксама сімвалічнае. Мы ведаем, што гэта Беларусь, але падобнае магло адбывацца і ў іншай дзяржаве. Але чамусьці ў беларускую хату прыходзяць усе героі — замежныя госці. Чаму? А таму, што міратворчая беларуская зямля заўсёды збірала пад сваімі дахамі людзей, якія хацелі далучыцца да сусветнай ідэі раўнапраўя народаў. Калі ўсе людзі — адна нацыя. І ў спектаклі такую ролю выконваюць беларуская дзяўчынка Гануся, яе бацька навуковец Сямага, студэнт Уладзімір Ярмаліцкі. Дзякуючы іх адкрытасці, чысціні, веры ў сапраўдную ісціну адкрываюцца душы астатніх персанажаў, змучаных і змардаваных вайной, згубіўшых усялякую надзею і сябе таксама. Мне здаецца, Чорны супрацьпаставіў тут адзін сусвет — катастрофы, трывогі, страху — і другі, з якім мы кожны дзень сустракаемся — шчасця, мірнага жыцця, якое павінна быць для чалавека самым галоўным. І вось на мяжы гэтых двух сусветаў і адбываюцца ў нашым спектаклі гэтыя экспрэсіяністычныя падзеі. Сённяшняя тэхнічная магчымасці абноўленых студый Дома радыё дазваляюць зрабіць і адпаведную гукавую карціну.

А што такое Млечны Шлях для кожнага з герояў? Гэта свой жыццёвы шлях, свая ісціна. І калі яны аб’ядноўваюцца, мы бачым сусветнае адзінства, сусветную мару чалавека пра шчасце. І гэта мне хацелася паказаць у спектаклі на падставе філасофскіх абагульненняў Чорнага, яго маштабу мыслення, яго такой дзёрзкай мары, што беларуская нацыя будзе жыць дастойна ў XXI стагоддзі разам са сваімі суседзямі.

**Галіна Шаблінская:** — Паслухаем зараз акцёраў, якія былі заняты ў спектаклі, у кожнага з іх свая філасофія ролі. Напрыклад, Андрэй Душачкін сыграў чэха Эдварда Новака, Віктар Манаеў — беларускага студэнта Уладзіміра Ярмаліцкага, Уладзімір Мішчанчук — немца.

**Андрэй Душачкін:** — Я хачу сказаць, што гэта вельмі сур’ёзная прэм’ера, якую мы падрыхтавалі. Напэўна, нездарма Чорны аб’яднаў лёсы самых розных людзей, прадстаўнікоў розных народаў. Для мяне гэты матэрыял — не што іншае, як шлях людзей да Бога: праз вайну, праз гора, праз тыя абставіны, калі чалавек губляе сябе, але героі гэтага твора сябе знаходзяць, кожны па-свойму.

Мой персанаж — Эдвард Новак, чэх, доктар са сваім лёсам, які знаходзіць сябе ў любові, у шчырым імкненні выратаваць дзяўчынку Марыну, у жаданні вызвалення сваёй краіне. А яшчэ як акцёру мне было вельмі цікава працаваць у транскрыпцыі чэшскай мовы ў суаднясенні з беларускай. Гэта своеасаблівая мелодыка. Мы з рэжысёрам знайшлі інтанацыю майго героя, яго шчырасць, яго боль. Ведаеце, для мяне ў гэтым творы адкрылася такое прачытанне тэмы Вялікай Айчыннай вайны, якое ідзе практычна ва ўнісон з Адамовічам, з Быкавым. Гэта тая ж глыбіня думкі, такі ж сур’ёзны філасофскі погляд на ваенную тэму. І я вельмі рады, што гэтым спектаклем пачынаецца новы шлях Чорнага ў беларускай культурнай прасторы, на Беларускім радыё.

**Віктар Манаеў:** — Сутыкненне са словам, самабытным словам Чорнага, пашырае і твой чалавечы дыяпазон, і акцёрскі, і нават грамадскі. Бо, на жаль, у штодзённым жыцці мы з-за мітусні не так часта звяртаемся да класікі. Я думаю, пасля гэтага спектакля шмат у каго ўзнікне жаданне адгарнуць кнігу прозы Кузьмы Чорнага. Надзвычайнае беларускае слова, не падобнае да іншых. Яго не зблытаеш ні з кім. І не толькі слова, а псіхалагічная глыбіня. Маналогі майго героя — гэта цуд! Для акцёра такі матэрыял — як падарунак лёсу. І такі кранальны фінал…

Сапраўды, чым глыбей мастацкі твор, тым ён вышэй паэтычна. Вобразнасць Млечнага Шляху — яго вечнасць, бясконцасць і недарэчнасць вайны, якая агульнае зло для ўсіх. Сам запіс спектакля ў радыёстудыі нагадваў здымкі мастацкага кіно. Я цяпер успамінаю — усё было так грунтоўна і падрабязна, мы працавалі над гукавымі эфектамі...

**Уладзімір Мішчанчук:** — Я думаю, мы зрабілі добрую справу найперш для моладзі, для падлеткаў. Калі яны пачуюць нашу пастаноўку, яна застанецца ў іх сэрцах. Таму што ўсё зроблена з вялікай любоўю і гонарам за нашу радзіму, за наш народ. Хто толькі не таптаў нашу Беларусь, але яна выстаяла і па сёння з’яўляецца прыкладам у адносінах да Яго Вялікасці Чалавека, да яго сутнасці. І ўсё гэта ёсць у творы Чорнага, па якім пастаўлены радыёспектакль «Млечны Шлях».

Тое, што я сыграў у гэтым спектаклі ролю немца, для мяне непрывычна. І я хваляваўся, шукаў разам з рэжысёрам адпаведныя рашэнні гэтага няпростага вобраза. Праблемы, якія падняў некалі Чорны ў сваім творы, актуальныя і сёння.

**Галіна Шаблінская:** — Давайце абагульнім вобраз Млечнага Шляху, які вынесены Чорным і ў назву твора, і праходзіць як галоўны вобраз праз увесь раман і праз наш спектакль…

**Пятро Васючэнка:** — Я згодны з думкаю, што ў нейкім сэнсе Млечны Шлях з’яўляецца ўвасабленнем шчасця. Нашы продкі ў свой час лічылі, што Млечны Шлях — гэта дарога, якая вядзе ў вырай. Па якой накіроўваюцца птушкі кожную зіму і па якой калі-небудзь накіруюцца туды і чалавечыя душы, і добрыя, і не вельмі. Млечны Шлях — гэта тое, што аб’ядноўвае не толькі ўсіх персанажаў твора, але і тых беларусаў, якія жылі за часам вайны, часам Кузьмы Чорнага і нас, сучаснікаў, паколькі «ўсе мы глядзім на зоры адны і тыя ж», як кажуць героі рамана. Млечны Шлях, безумоўна, — сімвал, які мае шмат значэнняў. Гэта, на маю думку, адрас — Зямля ў сусвеце. Калі б мы накіроўвалі ліст да прадстаўнікоў іншых цывілізацый, як бы мы напісалі адрас? Беларусь, планета Зямля, Сонечная сістэма, Галактыка, Млечны Шлях.

**Галіна ШАБЛІНСКАЯ**

***Нататкі выдаўца***

# Дзеля будучыні!

Адбылася чарговая навукова-практычная канферэнцыя «Электронная культура», якая была арганізавана ў межах XXI Міжнароднага спецыялізаванага форуму па тэлекамунікацыях, інфармацыйных і банкаўскіх тэхналогіях «ТіБО-2014» ды XXI Беларускага кангрэса па тэхналогіях інфармацыйнага грамадства: Нацыянальная бібліятэка Беларусі прапанавала выдавецтву прадэманстраваць свой апошні на той час праект — кнігу-альбом «Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі». Адметна, што ён меў працяг у дзвюх электронных версіях: на сайце «Белгазпрамбанка» і ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь — у выглядзе электроннага носьбіта (флэшкі) для наведвальнікаў.
Пэўнага кшталту ноу-хау: «праз выдавецкі праект — у новыя тэхналогіі». Атрымалася вельмі карысная творчая размова зацікаўленых спецыялістаў з памежных галін сацыякультурнай прасторы, здаецца, менавіта на гэтым форуме ўпершыню выдавецкія магчымасці апынуліся ў цэнтры ўвагі.

Пакольки «Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі» — праект вельмі знакавы ў нашым выдавецкім летапісе, узнікла жаданне падзяліцца ўражаннямі ад нядаўняй працы над ім, над рэалізацыяй іншых задумак, якія, несучы адзіную ідэю, моцна зніТаваны з ім.

*Але перадусім — маленькі эпізод з майго асабістага жыцця. 2007 год. Лета. Сонечны дзень. Я ў Парыжы, у адным са знакамітых музеяў, літаральна застылая — перад карцінай Хаіма Суціна. Мабыць, стаяла доўга, бо не адпускала прыцягальная моц пэндзля таленавітага Майстра. Пачуўшы голас наглядчыцы, якая нешта пыталася па-французску, ад нечаканасці схамянулася. Як магла, толькі па-англійску, растлумачыла ёй, што прыехала з Беларусі і ўпершыню бачу ў арыгінале карціну беларускага мастака, што ў нашай краіне няма ніводнай карціны Суціна, ды і іншых мастакоў Парыжскай школы. Яна ўсміхнулася з разуменнем і адышла. Але праз некалькі хвілін вярнулася, і ўжо не адна, — з ёю былі яшчэ дзве супрацоўніцы музея. Мая знаёмая ў руках трымала аб'ёмісты альбом, разгорнуты на старонцы, дзе была надрукавана рэпрадукцыя гэтай самай карціны. Мілыя жанчыны! — яны прынеслі мне гэты падарунак як зямлячцы сусветна вядомага мастака.*

З таго часу шмат добрых змен адбылося ў культурным развіцці нашай краіны. А па сваёй прафесіі, ды і проста для душы, я заўсёды імкнуся ўважліва сачыць за гэтым: шмат дзе бываю — на фестывалях, выстаўках, сустрэчах, і, дарэчы, не толькі ў Беларусі. Канечне, вельмі ганаруся, як, мабыць, і любы беларус-патрыёт, тым, што сёння мы становімся больш вядомыя ў свеце, у нас ёсць шмат таго, што вылучае сярод іншых народаў, у тым ліку культура. Думаецца, менавіта ў наш час (канец XX — пачатак XXI ст.) прыйшло сапраўднае асэнсаванне гэтага. Не вярнулася яшчэ на радзіму шмат чаго беларускага, але тое, што адбываецца сёння, дзякуючы ў тым ліку неабыякавым людзям, — гэта ўжо вялікія зрухі. Пройдуць гады, вякі, застанецца і пасля нас спадчына — падмурак, на якім будзе трымацца, ідучы ў будучыню, новае пакаленне беларусаў.

Але ж вяртаюся да тэмы свайго аповеду. Выдавецкі праект «Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі» будаваўся на канцэпцыі выстаўкі ў Нацыянальным мастацкім музеі, ініцыяванай і арганізаванай «Белгазпрамбанкам» у межах праекта «Арт-Беларусь», падтрыманай «Газпрам трансгаз Беларусь» і Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь. З буйных музеяў, навуковых бібліятэк, манастыроў, храмаў, прыватных збораў і карпаратыўнай калекцыі самога «Белгазпрамбанка» было сабрана і размешчана ў экспазіцыі каля пяцісот экспанатаў. Уразіла перш за ўсё сама канцэпцыя. Насуперак стандартным падыходам да фарміравання экспазіцый гэтым разам аўтар ідэі Віктар Бабарыка (старшыня праўлення «Белгазпрамбанка») і афіцыйны куратар Уладзімір Шчасны пабудавалі яе такім чынам, каб наведвальнікі змаглі самастойна разабрацца ў складаным працэсе развіцця мастацтва Беларусі. Выстаўка налічвае шэсць буйных раздзелаў: «Візантыйская традыцыя», «Рэнесанс і барока», «XIX стагоддзе», «Дыялог культур», «Мастацкія школы на мяжы XIX — XX стагоддзяў», «Дэкаратыўна-прыкладное і інсітнае мастацтва XX стагоддзя», «XX стагоддзе. Метамарфозы». Менавіта па іх і «канструяваўся» наш альбом-каталог. У аўтарскі калектыў з усёй краіны былі запрошаны вядомыя навукоўцы, мастацтвазнаўцы, супрацоўнікі музеяў — некаторыя, дарэчы, працавалі і над стварэннем самой экспазіцыі. Сярод іх Вольга Бажэнава, Людміла Вакар, Адам Мальдзіс, Барыс Крэпак, Надзея Усава, Валянціна Вайцахоўская, Валерый Жук, Вольга Архіпава, Наталля Шарангович і іншыя. А навуковым рэдактарам стаў Барыс Лазука. Усе матэрыялы пададзеныя на трох мовах: беларускай, рускай і англійскай.

Мабыць, чалавеку любой прафесіі цяжка расказваць, як ён робіць сваю справу. У выдавецкай дзейнасці шмат тонкіх, нябачных і на першы погляд дробных рэчаў. Пераказаць усё немагчыма. Але ёсць тое, ад чаго залежыць поспех мастацкай кнігі — гэта, канечне, дызайн. У нашым выпадку тон задаў вядомы мастак Уладзімір Цэслер, стварыўшы вобраз для вокладкі, які даў магчымасць аб'яднаць пад ёй такі вялікі і шматпланавы матэрыял. Калектыў выдавецтва, не шкадуючы сіл, працаваў з натхненнем. Сёння мы ўжо адчулі, што вынік нашай працы ацэнены высока і падрыхтаваны альбом-каталог можа прэтэндаваць на пачэснае месца ў шэрагу найкаштоўнейшых прадстаўнічых выданняў пра беларускае мастацтва. Акрамя таго, матэрыялы, якія апрацоўваліся для яго, могуць стаць вялікай дапамогай для іншага грунтоўнага мастацкага выдання з большым дыяпазонам аналізу мастацтва краіны.

Ва ўступным слове да каталога Віктар Бабарыка патлумачыў, што праект «Арт-Беларусь» вырас з карпаратыўнай калекцыі «Белгазпрамбанка» «Мастакі Парыжскай школы з Беларусі». Каб працягнуць свой аповед, я павінна вярнуцца да нашага выдавецкага праекта з адпаведнай назвай, які цудоўным чынам паўплываў, ды і цяпер уплывае, на нараджэнне новых ідэй.

А тады ўсё пачалося з бліскучай па сваёй задумцы кнігі Уладзіміра Шчаснага з менавіта такой назвай, сама ідэя якой вымалевалася пасля сумеснай працы перад адкрыццём маленькага музея Хаіма Суціна ў Смілавічах. Кніга ж нарадзілася ў выдавецтве «Чатыры чвэрці» ў 2010 годзе, адразу стала бестселерам. Далей, як кажуць, шчаслівы выпадак — яе прачытаў Віктар Дзмітрыевіч, і наступіла, на мой погляд, новая эра ў развіцці нашай культуры: банк пакрысе купляў карціны мастакоў Парыжскай школы за мяжой — у розных галерэях і на аўкцыёнах, потым — выстаўка ў Нацыянальным мастацкім музеі і ў іншых гарадах Беларусі. Цяпер у нашай краіне ёсць творы сусветна вядомых мастакоў-беларусаў! Канечне, усё адбывалася невыпадкова: вядомага ў краіне чалавека,




няўрымслівага руплівца на ніве беларускай культуры, дзяржаўнага дзеяча, дыпламата, драматурга Уладзіміра Шчаснага зацікавілі лёсы землякоў, якія трапілі ў той парыжскі «Вулей», дзе імі было створана шмат шэдэўраў. Лёсавызначальнай падаецца сустрэча з гэтай кнігай і Віктара Бабарыкі — чалавека маладога, які нарадзіўся і вырас у Мінску, скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Гэта паспяховы банкір, абаяльны, адкрыты чалавек, у якога цудоўная сям'я. Застаецца толькі здагадвацца, як зарадзілася ў яго любоў да нацыянальнага мастацтва, як мацавалася жаданне адкрыць самім беларусам яго ўнікальнасць, як сваімі ідэямі і пачынаннямі ўдавалася заражаць паплечнікаў. Віктар Бабарыка рэалізаваў такія значныя праекты, што яго варта параўнаць, без перабольшання, з маскоўскім мецэнатам, калекцыянерам і прадпрымальнікам Паўлам Траццяковым, які калісьці пачаў збіраць калекцыю рускага мастацтва. У Беларусі (пасля Алены Аладавай) ён першы, хто зрабіў вялікі ўклад у мастацтва і культуру наогул, значна павялічыўшы іх недатыкальны запас.

Маштаб з'явы ўжо ацанілі сучаснікі, але, як кажуць, «вялікае бачыцца здалёк». Без сумнення, калі гаварыць словамі Уладзіміра Шчаснага, «спроба рэканструкцыі дзесяці стагоддзяў мастацтва Беларусі нясе на сабе пячатку вялікага гістарычнага кшталту».

Пра сябе і сваіх калег па выдавецтве скажу шчыра: атрымліваем прафесійную асалоду, калі крочым па вуліцах ды плошчах Мінска і бачым велізарныя білборды з вываямі афішы і адначасова вокладкі той кнігі-альбома «Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі», што, здаецца, толькі ўчора нараджалася ў рэдакцыі. Ганарымся, што пайшла яна да людзей, несучы адбітак таксама і нашай любові да ўсяго роднага — беларускага. Верым, будзе жыць доўга, каб помнілі «потомки православных земли родной минувшую судьбу».

**Ліліяна АНЦУХ,**
**дырэктар і галоўны рэдактар выдавецтва «Чатыры чвэрці»**

# Чытанне да Масквы давядзе

Беларускія школьнікі 6 чэрвеня будуць змагацца за перамогу ў Міжнародным фінале II Міжнароднага конкурсу юных дэкламатараў "Жывая класіка" ў расійскай сталіцы. Пуцёўкай у Маскву стала асабістае жаданне, добрае веданне літаратуры, акцёрскія здольнасці і шмат іншых крытэрыяў, якія і дапамаглі Ільі Космачу (гімназія г. Ганцавічы Брэсцкай вобласці), Віктару Шыману (СШ № 8 г. Жодзіна Мінскай вобласці) і Эліне Вялесік (гімназія № 2 г. Ваўкавыска Гродзенскай вобласці) паспяхова прайсці раённы і абласны этапы спаборніцтва, а таксама ўразіць шаноўнае журы на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Максіма Горкага ў Мінску.

Нават не ведаю, хто з іх хваляваўся болей — самі выступоўцы ці настаўнікі, якія прывезлі сваіх вучняў з усіх куткоў краіны ў Мінск на заключныя выпрабаванні — нацыянальны этап. Бачыла іх сціснутыя пальцы і шчаслівыя ўсмешкі пасля выступлення дзяцей. У перапынку, калі яшчэ не былі вядомы прозвішчы пераможцаў, запытала ў ганцавіцкіх настаўніц, як удалося дасягнуць таго, каб сучасныя камп'ютарныя хлопчыкі адхінуліся ад іншых забаў і пранікліся літаратурай. Адказ быў аднолькавым: самім любіць прадмет, які выкладаеш, і тых, каму яго выкладаеш.

Дваццаць адзін удзельнік заключнага этапу конкурсу меў толькі пяць хвілін, каб прачытаць на памяць урывак з добра вядомых і любімых твораў: «Хамелеон» А. П. Чэхава, «Ноч перад Калядамі» М. В. Гогаля, «Кусака» Л. Андрэева, «Галоша» М. Зошчанкі, «Іван» У. Багамолава, «Маленькі прынц» Антуана дэ Сент-Экзюперы і інш.

У складзе журы былі народныя артысты Рэспублікі Беларусь В. М. Клебановіч і А. Л. Ткачонак, адказны супрацоўнік Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь А. Р. Кудаярава, навукоўцы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта І. С. Роўда, І. В. Таяноўская, прадстаўнік Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Н. І. Краснадубская.

Паспрыялі правядзенню конкурсу для шасцікласнікаў (а задзейнічана ў ім было 570 навучальных устаноў рэспублікі) Прадстаўніцтва Рассупрацоўніцтва ў Рэспубліцы Беларусь, міністэрствы адукацыі і культуры нашай краіны, Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Максіма Горкага.

Кіраўнік Прадстаўніцтва Рассупрацоўніцтва ў Рэспубліцы Беларусь, Саветнік Пасольства Расійскай Федэрацыі ў Беларусі Віктар Малашэнка зачытаў прывітальны ліст намесніка кіраўніка Рассупрацоўніцтва Ларысы Яфрэмавай. Ён пажадаў юным артыстамвыхоўваць у сабе любоў да кнігі і чытання, таму што яна спрыяе фарміраванню найлепшых якасцей — дабрыні, міласэрнасці, спагады.

І яшчэ адзін момант, які мог бы паспрыяць любові да кнігі: на гэта мерапрыемства варта было запрасіць больш гледачоў, таму што светлае ўражанне ад маленькіх шчырых артыстаў, якія перагарнулі любімыя старонкі вядомых кніг, стварыла сапраўднае свята.

**Анастасія СЯМЁНАВА**

# Навінкі кнігавыдання

*Айчынныя выданні, зарэгістраваныя Нацыянальнай кніжнай палатай Беларусі апошнім часам*

### Літаратура ЗША на англійскай мове

**Браун, Д.** Утраченный символ = The lost symbol: [роман] / Дэн Браун; [перевод с английского Е. Романовой и М. Десятовой]. — Москва: АСТ, 2013. — 574 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 12000 экз. — ISBN 978-5-17-080979-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2339-6 (Харвест) (в пер.).

**Гамильтон, Л. К.** Список на ликвидацию: [фантастический роман] / Лорел К. Гамильтон; [перевод с английского М. Б. Левина]. — Москва: АСТ, 2014. — 382 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2500 экз. — ISBN 978-5-17-080976-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2431-7 (Харвест) (в пер.).

**Дьюран, М.** Скандальное лето: роман / Мередит Дьюран; [перевод с английского В. И. Агаянц]. — Москва: АСТ, 2014. — 348 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-079382-2 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2429-4 (Харвест) (в пер.).

**Майер, С.** Гостья: [роман] / Стефани Майер; [перевод с английского Н. Балашовой]. — Москва: АСТ, 2013. — 668 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. (доп. тираж). — ISBN 978-5-17-078400-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2057-9 (Харвест) (в пер.).

**Найтли, Э.** Знакомый незнакомец: роман / Эрин Найтли; [перевод с английского Т. А. Перцевой]. — Москва: АСТ, 2014. — 285 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-081459-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2430-0 (Харвест) (в пер.).

**Пейдж, Ш.** Вовлеченные в грех: роман / Шерон Пейдж; [перевод с английского Н. В. Паниной]. — Москва: АСТ, 2013. — 350 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-079202-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2345-7 (Харвест) (в пер.).

**Томас, Ш.** Каждый твой взгляд: роман / Шерри Томас; [перевод с английского Т. А. Осиной]. — Москва: АСТ, 2013. — 251 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-079441-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2420-1 (Харвест) (в пер.).

**Хейли, А.** Клиника: анатомия жизни: [роман] / Артур Хейли; [перевод с английского А. Н. Анваера]. — Москва: АСТ, 2013. — 446 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-073733-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2390-7 (Харвест) (в пер.).

### Беларуская літаратура

**Адам, М.** Шоўк: аповесці, раман / Мікола Адам. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2013. — 363 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1485-0.

**Анапрэенка, Я. Р.** Азіяцкія пролагі: прыгодніцка-вандроўніцкі раман / Я. Р. Анапрэенка. — Мінск, 2013. — 378 с. — 300 экз.

**Бацкель, А. І.** Мімікрыя: даследаванне чатырох стыхій на прыкладзе чатырох летуценнікаў: раман / Аляксандар І. Бацкель. — Мінск: Ковчег, 2013. — 192 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7055-75-3.

**Быкаў, В.** Пакахай мяне, салдацік: аповесці, апавяданні / Васіль Быкаў. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2013. — 572 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-02-1312-9.

**Вечар пятніцы**: літаратурны зборнік студэнтаў, выкладчыкаў і супрацоўнікаў установы адукацыі «Гродзенскі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт» / [складальнік В. І. Варанец; малюнкі Гайсюк Кацярыны]. — Гродна: Гродзенская друкарня, 2013. — 95 с. — Частка тэксту на рускай мове. — Змяшчае аўтараў: Лихорад М., Луговая Т., Мечковская Н., Місюта В., Попкова А., Радюк Е., Рубель А., Сорока П., Чепелюк А., Шамова Т. — 250 экз. — ISBN 978-985-7037-42-1 (у пер.).

**Граковіч, Э. Б.** Крэўнасць: паэтычны зборнік / Эдуард Граковіч. — Мінск: Печанко А. Г., 2013. — 136 с. — 170 экз. — ISBN 978-985-7053-33-9.

**Зіненка, Т. В.** Плакала дзяўчынка: вершы / Таццяна Зіненка. — Мінск: Ковчег, 2013. — 58 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 50 экз. — ISBN 978-985-7055-88-3.

**Зуёнак, В. В.** Азірнуўшыся, не скамянець...: вершы, фрагменты з паэм / Васіль Зуёнак. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2013. — 269 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-02-1488-1 (у пер.).

**Навуменка, І. Я.** Збор твораў: у 10 т. / Іван Навуменка; рэдкалегія: С. С. Лаўшук [і інш.; прадмова Паўла Навуменкі]; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2012– — ISBN 978-985-02-1387-7 (у пер.).

Т. 2: Апавяданні, 1974–2006 / рэдактар тома С. С. Лаўшук; [падрыхтоўка тэкстаў, каментарыі, пасляслоўе Аляксандра Лапаты-Загорскага]. — 2013. — 877 с. — 1200 экз. — ISBN 978-985-02-1444-7.

**Наддзвінне**: альманах / Полацкае народнае літаратурнае аб'яднанне «Наддзвінне»; [укладальнікі: М. Я. Балдоўскі і Г. П. Загурская]. — Віцебск: Віцебская абласная друкарня, 2013. — 253 с. — Частка тэксту на рускай мове. — Змяшчае аўтараў: Атрахімовіч В., Балабкин Г., Барысёнак Я., Берникова А., Болдовский Н., Буганов П., Еронько Е., Ефишенко А., Загурская Г., Іванова А., Карасёў В., Кірюшін [г. зн. Кирюшин] А., Кужалева Т., Куц У., Ляўковіч Т., Михнович Л., Пятровіч І., Советная Н., Сопікава В., Старынскі В., Тачыла У., Філімонава Т., Цітова Р., Швайко А., Шнитко М. — 50 экз. — ISBN 978-985-534-038-7 (памылк.).

**Паўловіч, М.** Бацькоўскае поле: раман у 3 ч. / Мікола Паўловіч. — Брэст: Альтернатива, 2012– — ISBN 978-985-521-326-1 (у пер.).

Ч. 2. — 2013. — 223 с. — 110 экз. — ISBN 978-985-521-324-7.

**Праўдзін, В. А.** Іду насустрач...: апавяданні, раман / Віктар Праўдзін. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2013. — 486 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1489-8 (у пер.).

**Рагаўцоў, В. І.** Імгненне і вечнасць-2: вершы / Васіль Рагаўцоў. — Мінск: Кнігазбор, 2013. — 39 с. — 30 экз. — ISBN 978-985-7057-89-4.

**Такая тонкая размовы ніць**: пераклады / (укладанне, пераклады – Мікола Аляхновіч). — Брэст: Альтернатива, 2013. — 99 с. — Частка тэксту на венгерскай, польскай, рускай і ўкраінскай мовах. — Змяшчае аўтараў: Адзі Э. (Ady E.), Антоныч Б.-І., Атыла Ё. (Attila J.), Бунин И. А. (Бунін І. А.), Вінграноўскі М., Горык Н., Гэй В., Казанецкі В. (Kazaniecki W.), Карнацкі Р. (Kornacki R.), Каханоўскі Я. (Kochanowski J.), Колас Л., Косталані Д. (Kosztolányi D.), Крыжэвіч Я., Лаёш К. (Lajos K.), Лёрынц С. (Lőrinc S.), Пранько М., Раднаці М. (Radnóti M.), Савіч І., Тот А. (Tóth A.), Тютчев Ф. И. (Цютчаў Ф. І.), Украінка Л. (Українка Л.), Уташы Ё. (Utassy J.), Шаўчэнка Т. (Шевченко Т.). — 50 экз. — ISBN 978-985-521-381-0.

**У адно акенца**: зборнік вершаў / ДУ «Мінскі абласны цэнтр народнай творчасці», Народны клуб кампазітараў і паэтаў «Жывіца»; [складальнік Карнаухава Ірына Аляксандраўна]. — Мінск: Печанко А. Г., 2013. — 175 с. — Частка тэксту на рускай мове. — Змяшчае аўтараў: Акуленок В., Анкудзінава В., Бандаровіч А., Богомолова З., Брицкая Е., Броска В., Валасевіч Л., Дзікая А., Жаровин М., Жылко У., Каляда Т., Карнаухова И., Краскоўскі Д., Круглик Л., Макарэвіч Б., Марин Н., Марков А., Мароз Г., Мозгов А., Мяделец Н., Мялешка Л., Нічыпаровіч Г., Нупрэйчык Г., Прокофьев С., Рунцэвіч У., Рыжкова С., Рэўтовіч Р., Семенов А., Ситникова А., Хадневіч Л., Цанунін У., Цветкова Т., Шаповалова М., Шеина Т., Шкода А. — 99 экз. — ISBN 978-985-7053-35-3.

**Шамякін, І. П.** Збор твораў: у 23 т. / Іван Шамякін; рэдкалегія: У. В. Гніламёдаў [і інш.]; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2010– — ISBN 978-985-02-1190-3 (у пер.).

Т. 14: Снежныя зімы: раман. — 2013. — 414 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-02-1470-6.

Т. 15: Атланты і карыятыды: раман. — 2013. — 492 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-02-1482-9.

**Шкірманкоў, Ф. У.** Нацянькі: вершы і байкі / Фелікс Шкірманкоў. — Мінск: Чатыры чвэрці, 2013. — 143 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7058-27-3 (у пер.).



***Літаратура другой паловы XIX стагоддзя: [у 2 ч. / укладанне Л. Г. Кісялёвай, Н. М. Сенкевіч]; навуковы рэдактар С. Л. Гаранін; [каментарыі Л. Г. Кісялёвай]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2013–***

***Ч. 1. — 2013. — 846 с. — (...; т. 4). — Змяшчае аўтараў: Вераніцын К., Вуль Я. П., Вярыга-Дарэўскі А., Дунін-Марцінкевіч В., Жукоўскі Я., Каліноўскі К., Каратынскі В., Ляскоўскі Ю., Марцінкевіч Г., Мігановіч І., Пратасевіч В., Ражанскі Ф., Савіч-Заблоцкі В., Сыракомля У., Тапчэўскі Ф. — Змяшчае перакладчыкаў: Багдановіч І., Баравікова Р., Барадулін Р., Бітэль П., Гарадніцкі Я., Дубоўка У., Кісялёў Г., Купала Я., Лужанін М., Макрак В., Мархель У., Некрашэвіч-Кароткая Ж., Пфляўмбаўм Я., Сіроткін І., Тарасюк Л., Тумаш Г., Цвірка К., Чыгрын І. — 1500 экз. — ISBN 978-985-02-1466-9 (у пер.).***

*Калі кажуць, што беларуская літаратура XIX стагоддзя нам вядомая добра, бо па гэтым перыядзе напісана і выдадзена шмат манаграфій, абаронены шэраг дысертацый, то не варта верыць такім смелым сцвярджэнням. Узяць хаця б новую кнігу, што выйшла ў грунтоўнай серыі «Залатая калекцыя беларускай літаратуры». Сапраўды, вы тут пабачыце хрэстаматыйныя тэксты, знаёмыя яшчэ са школы ці з універсітэцкіх заняткаў па літаратуры, аднак некаторыя з твораў падаюцца ўжо ў больш дакладных і поўных рэдакцыях. Многія апублікаваныя ўпершыню і дапамогуць адкрыць чытачу новыя старонкі такога важнага ў гісторыі нашай літаратуры перыяду.*

### Польская літаратура

**Вишневский, Я. Л.** На фейсбуке с сыном: (сюрреалистическая история) / Януш Леон Вишневский; [перевод с польского М. Тогобецкой]. — Москва: АСТ, 2013. — 383 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. (доп. тираж). — ISBN 978-5-17-078683-1 (АСТ) (в пер.). — ISBN 978-985-18-1246-0 (ошибоч.).

### Чэшская літаратура

**Чэх, С.** Пад засенню ліпы: паэма-эпапея / Сватаплук Чэх; пераклад з чэшскай [Кубы Палтаржыцкага [г. зн. Паўтаржыцкага]; малюнкі: Руда Шваб]. — Мінск: Зміцер Колас, 2013. — 133 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-6992-33-2.




***Сяргей Грахоўскі: вядомы і невядомы / [укладальнік Таццяна Грахоўская]. — Мінск: Звязда, 2013. — 245 с. — 1100 экз. — ISBN 978-985-7059-68-3 (у пер.).***

*Ведаеце, калі мне вельмі халодна, калі здаецца, што сцюжу ўжо немагчыма цярпець, бо замёрзла літаральна кожная клетачка арганізма, я заўсёды ўспамінаю аповесць «Такія сінія снягі» Сяргея Грахоўскага — частку яго аўтабіяграфічнай трылогіі пра перыяд рэпрэсій і высылкі. І становіцца лягчэй. Бо ведаю, што мне халодна толькі некаторы час: гадзіну ці нават менш, і хутка сагрэюся. А там, у кнізе, людзям халодна, а яны нават не маюць надзеі на цяпло ў бараку, на голых дошках нараў… Лёс Сяргея Грахоўскага, таленавітага пісьменніка, які быў двойчы асуджаны і рэпрэсіраваны, не можа пакінуць раўнадушным. Думаецца, невядомы бок яго асобы, новыя факты біяграфіі дапамогуць чытачу скласці больш поўнае ўяўленне пра класіка. Многія творы ўпершыню падаюцца без купюр, некаторыя друкуюцца ўпершыню. Досыць вялікую частку кнігі склалі ўспаміны сяброў і дачкі пісьменніка, якая, дарэчы, выступіла ў якасці ўкладальніка гэтага выдання.*

### Мастацкая літаратура для дзяцей і юнацтва

**Акунин, Б.** Детская книга для мальчиков: [роман] / Борис Акунин. — Москва: АСТ, 2013. — 541 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. (доп. тираж). — ISBN 978-5-17-077163-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1783-8 (Харвест) (в пер.).

**Аланазараў, А.** Вясёлая азбука: [для дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту] / Агагельды Аланазараў; [прадмова Алеся Карлюкевіча; пераклад з туркменскай мовы В. К. Гардзея; мастак Марыся Лось]. — Мінск: Звязда, 2013. — 32 с. — 1600 экз. — ISBN 978-985-7059-66-9.

**Андерсен, Х. К.** Дюймовочка: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / Ханс Кристиан Андерсен; [пересказ Сергея Кузьмина; художники: Виктор Чайчук и Александр Ткачук]. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0689-7.

**Андерсен, Х. К.** Принцесса на горошине: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / Ханс Кристиан Андерсен; [пересказ Сергея Кузьмина; художники: Виктор Чайчук и Александр Ткачук]. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0687-3.

**Андерсен, Х. К.** Русалочка: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / Ханс Кристиан Андерсен; [пересказ Сергея Кузьмина; художники: Виктор Чайчук и Александр Ткачук]. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0686-6.

**Андерсен, Х. К.** Снежная королева: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / Ханс Кристиан Андерсен; [пересказ Сергея Кузьмина; художники: Виктор Чайчук и Александр Ткачук]. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0688-0.

**Варнава (Санин Е. Г.).** Первая молитва: [для чтения взрослыми детям] / монах Варнава (Санин); [художник Ольга Крупенкова]. — Минск: Свято-Елисаветинский женский монастырь в г. Минске, 2013. — 22 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7020-22-5.

**Веселые игры**: русские народные сказки, загадки, считалки, скороговорки, колыбельные и песенки-потешки: [для дошкольного и младшего школьного возраста / составление и литературная обработка Сергея Кузьмина]; иллюстрации Ирины и Владимира Пустоваловых. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 221 с. — 2525 экз. (доп. тираж). — ISBN 978-985-17-0422-0 (в пер.).

**Волшебные сны**: русские народные сказки, загадки, считалки, скороговорки, колыбельные и песенки-потешки: [для дошкольного и младшего школьного возраста / составление и литературная обработка Сергея Кузьмина]; иллюстрации Ирины и Владимира Пустоваловых. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 222 с. — 2525 экз. (доп. тираж). — ISBN 978-985-17-0421-3 (в пер.).

**Волшебный бубенчик**: сказки и легенды Венесуэлы: [для чтения взрослыми детям / составление и обработка А. М. Петрикова]. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя, 2013. — 47 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-11-0703-8.

**Гауф, В.** Маленький Мук: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / Вильгельм Гауф; [пересказ Сергея Кузьмина; художники: Виктор Чайчук и Александр Ткачук]. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0694-1.

**Гримм, Я.** Белоснежка: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / братья Гримм; [пересказ Сергея Кузьмина; художники: Виктор Чайчук и Александр Ткачук]. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0690-3.

**Гримм, Я.** Беляночка и Розочка: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / братья Гримм; [пересказ Сергея Кузьмина; художники: Виктор и Алиса Чайчук]. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0691-0.

**Гримм, Я.** Заветное колечко: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / братья Гримм; [пересказ Сергея Кузьмина; художники: Виктор и Алиса Чайчук]. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0692-7.

**Гримм, Я.** Заколдованная королева: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / братья Гримм; [пересказ Сергея Кузьмина; художники: Виктор и Алиса Чайчук]. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0698-9.

**Гримм, Я.** Золотой гусь: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / братья Гримм; [пересказ Сергея Кузьмина; художники: Виктор Чайчук и Александр Ткачук]. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0699-6.

**Гримм, Я.** Лесное чудище: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / братья Гримм; [пересказ Сергея Кузьмина; художники: Виктор Чайчук и Александр Ткачук]. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0700-9.

**Гримм, Я.** Пряничный домик: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / братья Гримм; [пересказ Сергея Кузьмина; художники: Виктор Чайчук и Александр Ткачук]. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0697-2.

**Гримм, Я.** Ученик колдуна: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / братья Гримм; [пересказ Сергея Кузьмина; художники: Виктор Чайчук и Александр Ткачук]. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0693-4.

**24 рождественские истории**: [сказки, рецепты, поделки: для детей от 7 до 10 лет / перевод с французского: Андрей Дубина]; иллюстрации Франсуа Рюйе. — Минск: Сибиллина, 2013. — 128 с. — Содержит авторов: Бремо Р.-П., Дютрюш К., Калуан, Клэсс В., Лами А., Мазурель У., Мизератти Ж. Т., Мийо Л., Нийкенс П., Савер М., Скварчафико М., Шарбонье Э.-Ж., Эрманн К. — 2000 экз. — ISBN 978-985-7022-60-1 (в пер.).

**Детям о справедливости**: [литературные произведения классических и современных писателей: для младшего и среднего школьного возраста / составитель Велько Александр Владимирович ; художник Н. В. Сустова]. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2013. — 61 с. — Издано при участии ООО «Семья – Единение – Отечество» (деревня Семково, Минский район) и ООО «Спутник Христианина» (Москва). — Содержит авторов: Барто А., Ермолаев Ю., Круглов А., Минаев Д., Мошковская Э., Осеева В., Стещенко Н., Федоров-Давыдов А., Чарская Л., Яковлев Ю. — 3000 экз. (доп. тираж). — ISBN 978-985-511-588-6.

**Детям о терпении**: [пословицы, притчи, стихи, сказки и рассказы классических и современных писателей: для младшего и среднего школьного возраста / составитель Велько Александр Владимирович; художник Е. А. Покалицына]. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2013. — 61 с. — Издано при участии ООО «Семья – Единение – Отечество» (деревня Семково, Минский район) и ООО «Спутник Христианина» (Москва). — Содержит авторов: Баруздин С., Безымянная О., Водовозова В., Голышкин В., Гостюхина Т., Грот Я., Дмитриев И., Карпенко Г., Крылов И., Лаврентьева С., Михайлова Н., Модзалевский Л., Пантелеев А., Пермяк Е., Путятин Р., Рубцов Н., Саксонская Н., Сухомлинский В., Федоров-Давыдов А. — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-624-1.

**Добросовестная, О. Г.** Фея малинового варенья: [для чтения взрослыми детям] / Ольга Добросовестная; [художник Кристина Афанасенкова]. — Минск: Сибиллина, 2013. — 27 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-7022-64-9 (в пер.).

**Золотая ночь**: рождественский сборник для детей / составитель Дмитрий Шеваров; иллюстратор Ксения Шафрановская. — Минск: Свято-Елисаветинский женский монастырь в г. Минске, 2013. — 79 с. — Содержит авторов: Абрамцева Н., Ганзен А., Гумилев Н., Карем М., Кургузов О., Кучерская М., Мистраль Г., Рубцов Н., Рутенин И., Черный С., Шеваров Д., Яснов М. — Содержит переводчиков: Берестов В., Ванханен Н. — 5000 экз. — ISBN 978-985-7020-21-8 (в пер.).

**Кот и Мышь**: текст адаптирован для начинающих читателей: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник Л. М. Михайленко]. — Минск: Сказ, 2013. — 10 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-063-1.

**Кот, Петух и Лиса**: текст адаптирован для начинающих читателей: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник Е. Б. Белозерцева]. — Минск: Сказ, 2013. — 10 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-064-8.

**Ленковская, Е.** Повелители времени. Лето длиною в ночь: [фантастическая повесть] / Елена Ленковская; [рисунки Евгении Ивановны Стерлиговой]. — Москва: АСТ, 2013. — 250 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-079956-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2433-1 (Харвест) (в пер.).

**Мал, да удал**: русские народные сказки, загадки, считалки, скороговорки, колыбельные и песенки-потешки: [для дошкольного и младшего школьного возраста / составление и литературная обработка Сергея Кузьмина; иллюстрации Ирины и Владимира Пустоваловых. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 222 с. — 2525 экз. (доп. тираж). — ISBN 978-985-17-0417-6 (в пер.).

**Переполох**: текст адаптирован для начинающих читателей: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник Е. Б. Белозерцева]. — Минск: Сказ, 2013. — 10 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-065-5.

**Перро, Ш.** Кот в сапогах: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / Шарль Перро; [пересказ Сергея Кузьмина; художники: Виктор Чайчук и Александр Ткачук]. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0696-5.

**Перро, Ш.** Мальчик с пальчик: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / Шарль Перро; [пересказ Сергея Кузьмина; художники: Виктор Чайчук и Александр Ткачук]. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0695-8.

**Перро, Ш.** Спящая красавица: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / Шарль Перро; [пересказ Сергея Кузьмина; художники: Виктор Чайчук и Александр Ткачук]. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0685-9.

**Путешествие мышонка**: [сказка эскимосов Америки: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник К. В. Остахов]. — Минск: Сказ, 2013. — 10 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-069-3.

**Серебряный колокольчик**: текст адаптирован для начинающих читателей: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник А. Г. Старых]. — Минск: Сказ, 2013. — 10 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-066-2.

**Ситников, Ю.** Город, которого нет: [повесть: для среднего и старшего школьного возраста] / Юрий Ситников. — Минск: Букмастер, 2014. — 218 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-734-0 (в пер.).

**Ситников, Ю.** Двойная игра: [повесть: для среднего и старшего школьного возраста] / Юрий Ситников. — Минск: Букмастер, 2014. — 254 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-733-3 (в пер.).

**Ситников, Ю.** Знак из зазеркалья: [повесть: для младшего и среднего школьного возраста] / Юрий Ситников. — Минск: Букмастер, 2014. — 253 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-735-7 (в пер.).

**Ситников, Ю.** Притворщики: [повесть: для младшего и среднего школьного возраста] / Юрий Ситников. — Минск: Букмастер, 2014. — 247 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-750-0 (в пер.).

**Ситников, Ю.** Шоу со звездой: [повесть] / Юрий Ситников. — Минск: Букмастер, 2014. — 317 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-623-7 (в пер.).




***Суса, Э. Снежны чалавек / Эва Суса, Бенжамэн Шо; [пераклад са шведскай мовы Алесі Башарымавай]. — Мінск: Юніпак, 2013. — 25 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6802-56-3 (у пер.).***

*У Швецыі не надта любяць выдаваць перакладную літаратуру для дзяцей. Мяркуецца, што толькі кнігі, напісаныя на роднай мове, здольныя забяспечыць пераемнасць пакаленняў і з дзяцінства пачаць фарміраваць нацыянальную свядомасць і менталітэт. Таму ў шведскай літаратуры — надзвычай вялікі выбар кніг для дзетак. Але, падаецца, апроч выхавання нацыянальнай свядомасці і фарміравання менталітэту дзіцячая кніга мусіць распавядаць цікавыя гісторыі нават пра самых неверагодных герояў. Дык чаму б і нам не скарыстацца гэтымі здабыткамі і не расказаць гэтыя гісторыі маленькім беларусам? Не думаю, што шведская кніга, прачытаная па-беларуску, неяк нам зашкодзіць. Вось і гісторыя сяброўства братоў Уна і Макса са Снежным чалавекам будзе забаўляць малых, а таксама навучыць іх сябраваць і паважаць адно аднаго.*

**Сорока-белобока**: русские народные сказки, загадки, считалки, скороговорки, колыбельные и песенки-потешки: [для дошкольного и младшего школьного возраста / составление и литературная обработка Сергея Кузьмина]; иллюстрации Ирины и Владимира Пустоваловых. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 221 с. — 2525 экз. (доп. тираж). — ISBN 978-985-17-0418-3 (в пер.).

**Топелиус, З.** Три колоска: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / З. Топелиус; [художник Л. М. Михайленко]. — Минск: Сказ, 2013. — 14 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-070-9.

**Три бабочки**: текст адаптирован для начинающих читателей: [немецкая народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник О. Н. Петрушина]. — Минск: Сказ, 2013. — 10 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-067-9.

**Царевна-лягушка**: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник К. В. Остахов]. — Минск: Сказ, 2013. — 14 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-072-3.

**Чуковский, К. И.** Самое лучшее для малышей: [для детей до 3 лет: для чтения взрослыми детям: сказки, стихи, английские народные песенки, загадки] / К. Чуковский; рисунки С. Бордюга [и др.]. — Москва: АСТ, 2013. — 313 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-076877-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1433-2 (Харвест) (в пер.).

# Любовь, что сильнее войны

Книга **«Человек из Санкт-Петербурга» Кена Фоллетта**, вышедшая в издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест», подобна закипающему на плите кофе. Поначалу холодный и сдержанный, роман с каждой страницей буквально оживает под накалом эмоций. Говорят, что многие прозаики мастерски владеют либо пейзажными описаниями, либо динамикой диалогов. У британского писателя Кена Фоллетта блестяще получается и то и другое. Он изящно переплетает в своём произведении судьбы многих людей, казалось бы, не связанных друг с другом, уделяя внимание переживаниям каждого.




Сложно сказать, кто из них главный — граф Уолетт, старый консерватор и талантливый дипломат, уже много лет как отошедший от политических дел, его русская жена Лидия, тихая, но страстная по натуре особа, таинственный крестьянин Максим Петровский, приехавший в Лондон со странной миссией. Кен Фоллетт правдиво передаёт атмосферу начала двадцатого века — меланхоличную и гнетущую. 1914 год, Германия наращивает своё могущество, запасается деньгами и укрепляет армию — одним словом, готовится к войне. Великобритания, чтобы рассчитывать на победу, должна заключить союз с Россией, разумеется, под строжайшим секретом. Но все обстоятельства противоречат этому: иной уклад жизни царской державы, отпор со стороны анархистской прослойки крестьян и вдобавок шпион, подосланный, чтобы окончательно расстроить планы самоуверенного английского правительства.

Казалось бы, главное в книге — политика. В первой же главе появляется Уинстон Черчилль, сорокалетний министр, невысокий и стройный, с лукавым взглядом, но элегантными повадками. Он предлагает графу Уолдену стать главой английской делегации во время переговоров с Россией и склонить царя к подписанию секретного пакта через его родственника — князя Орлова, молодого российского адмирала. Но вдруг, после словесных баталий о судьбе государств, автор передаёт ведущую партию своего романа… Нет, отнюдь не участникам будущей Антанты, а женщинам, хрупким, чувственным и нежным. Супруга Уолдена Лидия и их дочь, восемнадцатилетняя Шарлотта, придают повествованию особенный шарм, что напоминает Джейн Остин и её «Гордость и предубеждение».

Кроме внутреннего мира писатель с ювелирной точностью описывает всё, что предстаёт перед взором его героев: охапку розовых и жёлтых тюльпанов в руках садовника, серый камень семейного поместья, величественный в лучах послеобеденного солнца, огромное, вечно клубящееся облаками небо, замёрзшие болотистые луга России или широкие, со множеством перьев, цветов и фруктов шляпы светских женщин из лондонского общества. Роман не рассказывает о сражениях на полях войны, но последние его строки в буквальном смысле окутаны огнём. Как ни странно, во имя жизни и одновременно — забвения. Один герой не сумеет изменить ход истории, вопреки заявленной на обложке книги реплике, но останется верным себе, поставив жизнь близкого человека выше государственных интриг и закулисных тайн великих политиков.

**Мария ВОЙТИК**

# Солдатская похлёбка

Вы когда-нибудь слышали ругательства солдат в казарме, неоперившихся юношей и их напыщенных, довольных своей грубостью командиров? Книга **«Плен» Анны Немзер**, вышедшая в издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест», напоминает нескончаемую словесную перепалку, вызывающую желание спрятать роман подальше от детей. Правдивость? Видно, что героям тяжело, ведь они столкнулись с войной, пережили трагедию, попали в плен, выжили, спаслись, но не оставили свои переживания на фронте, вся их судьба «пропиталась» кровью и порохом. Психологизм? Автор порой забывает, что художественное литературное произведение — это не съёмка на любительскую камеру, а труд писателя, работающего не только над достоверностью фактов, но и над стилем. Кто бы мог подумать, что у филолога и музыкального обозревателя такой откровенно мужицкий слог! И разве обязательно устраивать цирковое представление в духе: уважаемые читатели, познакомьтесь с матными «чудесами» русской словесности и почувствуйте истинный дух войны! Хотя, может быть, изображение клоуна на обложке не так уж символично, как кажется?




Анна Немзер, по её же словам, вдохновлялась воспоминаниями дедушек и бабушек и хотела избавиться от штампов и романтического военного флёра. Хорошо ещё, что герои не пафосные, а будто бы даже настоящие, каждый со своими слабостями.

Разумеется, у любой книги есть свои почитатели. В конце концов, нужно отдать должное смелости начинающего автора. Взяться за тему войны, причём, не только Второй мировой, но и афганской, не пережив эти события лично, — поступок, достойный как минимум уважения.

**Мария ВОЛКОВИЧ**

# Да дрыжыкаў па скуры

Востры сюжэт, адметныя героі, інтрыгі, сакрэты і важныя следствы. Магчыма, дэтэктывы карыстаюцца такой вялікай папулярнасцю ў чытачоў менавіта таму, што ў розных прапорцыі змяшчаюць усе гэтыя кампаненты. Выданні, пра якія мы распавядаем сёння, — з кагорты захаплядьнага чытва для паездкі, чакання ў чарзе ці проста ўтульнага вечара дома.

## ЛЯЛЬКІ І ЛЯЛЕЧНІКІ

Складана нават прадбачыць, калі наступіць страшны момант змены роляў: пісьменнік перастане быць стваральнікам лёсу героя і сам апынецца пад яго ўладай. Герой будзе кіраваць яго жыццём, уплываць на лёсы яго сяброў і сваякоў, як лялька, што сарвалася з нітачак лялечніка, ва ўсю сваволіць і патрабаваць усё больш і больш увагі. Варта хаця б прыгадаць лёс Крыстафера Робіна Мілна, сына вядомага пісьменніка Алана Мілна, які ўсё жыццё ненавідзеў бацьку за тое, што сам стаў героем яго знакамітай кнігі пра Віні-Пуха. Ці прыклад Артура Конан Дойла: чытачы пісалі лісты не яму, а Шэрлаку Холмсу, прасілі дапамагчы, разгадаць загадку ці проста знайсці ката, які ўцёк ці знік. Ды што казаць, нават маці часам звярталася да сына-пісьменніка з просьбамі падпісаць кнігі для яе сяброваk не ад свайго імя, а ад імя Шэрлака.




Што рабіць аўтару з такім героем? Можна працягваць падпарадкоўваць яму: прыдумваць новыя складаныя сюжэты, дзе лялька магла б зноў і зноў паказваць свае найлепшыя якасці і здольнасці. Ці вырвацца з яго рабства — то бок у чарговай главе ці новым апавяданні проста забіць гэтага ўжо ненавіснага героя. Паралельны раман, дзеянне якога адбываецца ў наш час, а таксама ў 1890-я гады, дэтэктыў, літаратурная загадка і містыфікацыя, новы пункт у амаль бясконцай Шэрлакіяне — гэта ўсё пра кнігу **Грэма Мура «Дзённік Шэрлака Холмса»**, што не так даўно пабачыла свет пры падтрымцы ТАА «Харвест». Яна ўпершыню выйшла ў ЗША ў 2010 годзе і трапіла ў спіс бестселераў па версіі газеты *The New York Times*.

Нягледзячы на назву, раман не зусім пра Шэрлака, больш правільна было б сцвярджаць, што ён пра Конан Дойла. Аўтар малюе вобраз пісьменніка, а таксама распавядае адразу дзве дэтэктыўныя гісторыі: адна з іх адбываецца ў пачатку XX ст. і змяшчае следства, якое праводзіць Дойл разам з іншым вядомым аўтарам — Брэмам Стокерам. Следства выдуманае, аднак у пасляслоўі аўтар сцвярджае, што падобная справа сапраўды была. Другая ж гісторыя адбываецца ў наш час: у цэнтры ўвагі чытача апынаецца літаратуразнаўца і заўзяты шэрлакіянец Гаральд Уайт. Ён становіцца ўдзельнікам вельмі небяспечнай гульні — палявання за страчаным дзённікам Конан Дойла. Пры загадкавых абставінах гіне іншы даследчык Алекс Кейл, і менавіта Гаральд, выкарыстоўваючы адмысловыя шэрлакаўскія метады, праводзіць пошукі і забойцы, і дзённіка Дойла. Абедзве гісторыі вельмі дынамічныя, сюжэт насычаны, таму чытаць кнігу надзвычай цікава. Ну, і развязка на ўзроўні.

Кніга сапраўды зачароўвае. Сюжэтам. Героямі. Атмасферай. Толькі ўявіце, што вы трапілі ў Лондан пачатку XX ст., назіраеце за Конан Дойлам, Брэмам Стокерам, Оскарам Уайлдам... У пасляслоўі аўтар тлумачыць, якія з падзей кнігі сапраўды адбываліся, а якія былі цалкам прыдуманыя, распавядае рэальную гісторыю са зніклым дзённікам пісьменніка, а таксама раіць чытачам наведаць знакамітыя мясціны.

## ПАМІЛАВАЦЬ НЕЛЬГА ЛІКВІДАВАЦЬ

Нехта прыдумаў, што паміж вампірамі і пярэваратнямі ўвесь час адбываецца жорсткая барацьба. Гэтую вайну ўжо не спыніць, яе можна толькі на некаторы час суцішыць, усталяваўшы часовы і ўяўны мір. Вось і амерыканская пісьменніца **Лорэл Гамільтан** прытрымліваецца гэтага меркавання, яна нават стварыла сваю гераіню-міратворцу — паляўнічую за вампірамі Аніту Блэйк. **«Спіс на ліквідацыю»** — новая кніга з надзвычай паспяховай серыі пра Аніту не так даўно выйшла пры падтрымцы ТАА «Харвест».




У кнігах пра Аніту Блэйк (а іх ужо больш як два дзясяткі!) усё працуе па сваіх законах. Тут ёсць людзі-паліцэйскія, ці федэральныя маршалы, чыя мэта сачыць за парадкам у свеце вампіраў і пярэваратняў, калі больш дакладна, то трымаць яго ў пэўных межах, не дазваляючы кантактаваць са светам людзей.

Гэтым разам перад Анітай і яе калегам Эдуардам стаіць задача знайсці серыйнага забойцу, які актыўна дзейнічае па ўсім Ціхаакіянскім паўночным захадзе. Ён падкрэслена жорсткі са сваімі ахвярамі. Адметна, што забойца Арлекін ладзіць паляванне на тыграў-пярэваратняў і людзей-паліцэйскіх. Значыць, Аніта таксама ў небяспецы. Больш за тое, ён адмыслова стварае вобраз серыйнага забойцы, каб завабіць Аніту ў страшны свет вампіраў...

Складаная сістэма адносін паміж героямі, іх сацыяльная іерархія сапраўды працуюць. І гэта заканамерна: свет жа прыдуманы! А веданне, што «Спіс на ліквідацыю» — не апошняя кніга пра Аніту, крыху змяншае інтрыгу. Значыць, гераіня Лорэл Гамільтан яшчэ не кіруе аўтаркай ці кіруе, але пісьменніца гэта нават падабаецца, і яна яшчэ не плануе забіваць сімпатычную дзяўчыну з карымі вачыма і каштанавымі валасамі. Хай жыве. Пакуль.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

## Адначаснікі



Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

# Жэня

Я даволі рэдка гляджу старыя фотаздымкі: не тое што часу бракуе, проста мне патрэбны тады пэўны рамантычна-настальгічны настрой, бо за кожным з іх — пэўны адрэзак часу, фрагменты ўласнай біяграфіі.

Вось, напрыклад, чорна-белы аркушык, на якім я і Саша Нідзер — першакурснікі факультэта журналістыкі БДУ. А вось я — каля касы ў краме, разлічваюся за пакецік смажанай мойвы, а за мной яшчэ адзін аднакурснік — рускі паэт, афіцэр Аркадзь Філёў…

Здымкі гэтыя рабіў Жэня Пясецкі, з якім мы паступалі ва ўніверсітэт, крыху жылі разам на прыватнай кватэры…

Сёлета Жэня падарыў мне цэлы цыкл фатаграфій, зробленых падчас прэзентацыі маёй кнігі «Сюжэт для вечнасці», якая прайшла ў Белдзяржфілармоніі.

Паміж гэтымі здымкамі — цэлая эпоха: і нашы стасункі з роднай альма-матар, і змена грамадскага ладу, і нараджэнне незалежнай краіны…

Жэня з дзяцінства займаўся фатаграфіяй, таму калі на першым курсе фарміраваліся групы па вывучэнні фотасправы або стэнаграфіі і мы трапілі адміністрацыйным загадам на стэнаграфію, Жэня пачаў збіраць подпісы пад лістом да рэктара з просьбай, каб жадаючых займацца фотасправай усё ж уключылі ў гэту групу. Выкладчыца стэнаграфіі дараваць яму гэтага не змагла. Ці яе намаганнямі, ці іншымі таемнымі шляхамі, бо ініцыятараў розных зваротаў начальства ніколі не любіла, але Жэня не здаў летнюю сесію і паехаў служыць у войска — далёка ад Беларусі.

Памятаю яго лісты ў салдацкіх канвертах, якім быў заўсёды рады, бо цяжка перажываў расстанне з новым сябрам.

Але ўрэшце ў Пясецкага ўсё наладзілася: ён нанова паступіў ва ўніверсітэт, стаў працаваць у газеце «Звязда», і яго па-мастацку зробленыя здымкі ўпрыгожылі старонкі газеты. Да таго ж Жэня шмат пісаў, а праз некаторы час стаў аўтарам рубрыкі «Фотаслова», дзе здымкі суправаджаліся яго ўласнымі вершамі.

Ішлі гады, раслі нашы дзеці, мы сустракаліся то ў маім Полацку, калі ён прыязджаў у камандзіроўку, то ў Мінску, калі я па справах бываў у сталіцы. І хоць сустрэчы гэтыя не былі ўжо вельмі частымі, кожная з іх пакідала ў душы светлае, радаснае пачуццё.

І вось ужо больш як пятнаццаць гадоў мы жывём у адным горадзе. Не сказаць каб нашыя сустрэчы надта пачасціліся, але па-ранейшаму яны цёплыя і сяброўскія.

Яго сын Саша пераняў ад бацькі памяркоўны, спакойны характар і такую чалавечую прыстойнасць, якой бракуе сёння нават вельмі таленавітым і неблагім людзям. І калі я гутару з ім (а ён працуе ў нашай тэлерадыёкампаніі), паміж намі нібыта лунае Жэнева адкрытая ўсмешка. І калі пры сустрэчы я расказваю пра гэта Пясецкаму, то бачу, што яму прыемна гэта чуць.

Паэтаў, мастакоў і журналістаў, дзякуй богу, не так і мала, але такіх, як мой сябра Яўген Пясецкі, — адзінкі. Прынамсі, для мяне.

## Прэзентацыя

# Паміж местам і вёскай

Аўтарскі голас пісьменніка Андрэя Федарэнкі можна назваць цалкам традыцыйным ці нават класічным для беларускай літаратуры. Ён не містыфікуе чытача, не гуляе з ім і не ўзвышаецца, спекулюючы на тым, што ведае пра сваіх герояў і сюжэт нашмат больш, чым тыя, хто толькі што ўзяў у рукі кнігу і пачаў чытаць. Ён проста і няспешна распавядае сваю гісторыю. Без маралізатарства, але з адпаведнымі сэнсавымі акцэнтамі. Напэўна, па гэтых прычынах пісьменніка вельмі любяць і чытачы, і даследчыкі літаратуры, а выхад кожнай яго новай кнігі становіцца сапраўднай падзеяй. Сціплай, ды значнай. Бо сам аўтар не любіць шумных прэзентацый і галасных прамоў. Навошта казаць — за яго лепш скажуць творы.




Усе гэтыя рысы актуальныя і для новай кнігі **Андрэя Федарэнкі «Ціша»**, што не так даўно выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». У зборнік увайшло дзве новыя аповесці і некалькі кароткіх апавяданняў, якія былі напісаны аўтарам у розныя гады. Думаецца, у межах адной публікацыі варта засяродзіцца менавіта на загалоўнай аповесці.

Твор з назвай «Ціша», цэнтральны для кнігі, пераносіць чытача ва ўмоўнае беларускае мястэчка Чэшская Слабада. Гэта ўжо не зусім вёска, але яшчэ не горад. Жыхары Слабады маюць уласныя хаты, агароды, гадуюць свойскіх жывёл, аднак, выйшаўшы на ўскраек вёскі, бачаць высокія дамы горада. Мець кватэру ў таксама ўмоўным «мікраараёне» — мара мясцовых, яшчэ большая мара — жыць у цэнтры горада. Тут, у слабадской цішы, разам з маці і бабуляй жыве хлопчык Петрык. Ён гуляе з сябрамі, ходзіць у школу, паступова расце і сталее. Вачыма Петрыка мы бачым асноўныя падзеі аповесці. Менавіта ён задае самому сабе (а заадно і чытачу) самыя важныя пытанні: чаму бацька не можа жыць з імі, а працуе і падарожнічае дзесьці па Поўначы? Чаму бацька ўсё жыццё варагуе-спаборнічае з братамі? Чаму смерць Брэжнева для некаторых людзей (а менавіта герояў аповесці) становіцца большай трагедыяй, чым сыход уласнай маці ў лепшы свет?

«Ціша» — назва сімвалічная. Гэта і ўмоўная цішыня мястэчка, якое яшчэ не праглынуў горад, і цішыня ў доме, якая наступае пасля смерці роднага і блізкага чалавека (у дадзеным выпадку — бабулі Петрыка), і манюшка сабачкі, які жыве ў гарадской кватэры дзядзькі. Аўтар недзарма ўводзіць у сюжэт гэтую маленькую гераіню. Для дзядзькі Ціша — амаль цэнтр свету, самая блізкая і важная істота. Гэта падавалася б натуральным, калі б ён быў надта адзінокім чалавекам, але ў яго ёсць жонка, дачка, браты і маці.

Аповесць «амаль пра вёску» і, па традыцыі, што ўжо склалася ў нашай літаратуры, — «амаль пра вайну». Не, тут няма згадкі баявых дзеянняў, не гаворыцца наўпрост, што нехта з герояў ваяваў, але ёсць развагі пра тое, як сёння (дакладней, у 1980-я, у час расповеду) вайна адгукаецца ў лёсах простых беларусаў. Дзядуля Петрыка загінуў на вайне. Але загінуў «няправільна»: ён памёр ад сардэчнага прыступу, калі падчас абароны Слабады атрымаў магчымасць забегчы ў родны двор і абняць дрэўца, якое некалі сам садзіў. Пахаваны ён таксама «няправільна»: не ў брацкай магіле, разам з салдатамі, а на вясковых могілках, пад звычайным драўляным крыжам. З-за гэтай адметнасці бабулю Петрыка на некаторы час нават пазбаўляюць грашовай дапамогі ўдовам салдат, бо яна адмаўляецца пераносіць прах мужа ў брацкую магілу, пад вялікі помнік.

Вельмі важна, што хлопчык знаходзіць сабе добрага настаўніка. Леанід Міхайлавіч, сусед дзядзькі Стаха, становіцца для Петрыка блізкім сябрам і дарадцам. А для аднакласнікаў — нагодай для зайздрасці і прыкметай нейкай «хітрасці» хлопчыка. Шкада, што ў наступным навучальным годзе настаўнік не будзе больш працаваць у школе. Петрык застанецца амаль адзін. Толькі з маці.

Цікава назіраць за тым, як расце і сталее Петрык, чытаць яго разважанні пра дарослае жыццё і тыя прынцыпы, якімі ён сам кіруецца, прымаючы нейкія рашэнні. Ён разумны, ветлівы і дапытлівы. Упэўнена, вырасце добрым чалавекам. Шкада, што апавядальнік прыпыняе размову ці не на самым пераломным для героя моманце. Гэта смерць бабулі, амаль у адзін дзень са смерцю Брэжнева. Пасля гэтага дня жыццё не будзе ранейшым. У вялікай краіне. І пакуль маленькім свеце Петрыка.

Спадзяюся, працяг будзе і гісторыя сталення хлопчыка з Чэшскай Слабады яшчэ працягнецца ў наступных творах.

**Марына ВЕСЯЛУХА**




## Альтэрнатыва

# У метро, па вершы

Сёння часта можна пачуць трывожныя выказванні пра зніжэнне агульнай культуры насельніцтва краіны, выкліканае нізкай цікавасцю да літаратуры і чытання. Але ці так усё страшна і магчымасць павысіць інтарэс да кнігі незваротна страчаная? Можа, шанц яшчэ ёсць?

Не так даўно сястра прывезла з Лондана незвычайны сувенір — маленькую кніжачку-брашурку з вершамі сучаснікаў і англійскіх класікаў пра метро. Адметна, што такія кніжачкі ў метро брытанскай сталіцы распаўсюджваюцца бясплатна.

Гэтае невялічкае выданне пабачыла свет у мінулым годзе, яго выхад быў прымеркаваны да 150-годдзя лонданскай падземкі. Апынулася, што праект *London Poems on the Underground* (Лондан. Вершы ў метро) ужо мае сваю досыць багатую гісторыю.

Схему «Вершы ў метро» больш як 25 гадоў таму прапанавала амерыканская пісьменніца Джудзіт Чарняк, якая першапачаткова паставіла мэту пазнаёміць шырокую аўдыторыю з паэзіяй.

Вершы, што адбіраюцца Джудзіт, а таксама Сесіліяй Герберт і Джэрардам Бэнсанам, друкуюцца на адмысловых пастарах і змяшчаюцца ў вагонах метро ў месцах, прызначаных для рэкламы. Колькасць паставаў таксама ўражвае — 3 тысячы! Яны звычайна змяняюцца тройчы на год. Адметна, што праект падтрымалі мэр Лондана, гарадская транспартная кампанія, Брытанскі Савет і Мастацкі савет Англіі.

Ініцыятыва «Вершы ў метро» стала надзвычай паспяховым праектам. У вагонах лонданскага метро можна пабачыць розныя вершы. Гэта класічная і сучасная паэзія, пераклады і творы зусім маладых аўтараў. Адмысловыя даследаванні даказалі таксама, што пасля прачытання верша ў метро пасажыры ўжо самі працягваюць знаёмства з творчасцю пэўнага аўтара. Больш за тое, з цягам часу вершы сталі збірацца ў адмысловыя анталогіі і маленькія брашуркі. Брашуркі распаўсюджваюцца бясплатна, а кнігі і постары з вершамі можна набыць у краме Лонданскага музея транспарту.

Важна таксама, што брытанскую ініцыятыву падхапілі ў іншых краінах. Да прыкладу, у сталіцы Польшчы прайшла акцыя *Wiersze w Metrze*. Пагадзіцеся, выдатна было б, каб і ў мінскім метро замест рэкламы можна было пабачыць верш, а падчас паездкі пагартаць паэтычны зборнічак.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Авангард. Мастакі ў горадзе

**Сёння для беларускіх мастакоў пошук і эксперымент сталі неад'емнай часткай творчага самавыяўлення. Маштабны праект «Avant-gARTe», што прадстаўлены адразу на трох выставачных пляцоўках сталіцы, дазваляе ўбачыць прастору сучаснага айчыннага мастацтва і прааналізаваць яго сённяшні стан.**



*Марат Міхайлаў «Нішто не перашкодзіць світанню прыйсці».*

## АД КВАДРАТА…

Асабліва ярка трансфармацыі традыцыйных відаў мастацтва адбіваюцца на работах маладых аўтараў, многія з якіх імкнуцца канцэптуалізаваць сваю творчасць. Ці можна гэта лічыць з'явай, характэрнай толькі для XXI стагоддзя? У Беларусі заўжды былі мастакі, якія сцвярджалі прыярытэт наватарства і супрацьстаяння афіцыёзу.

Выстаўка сучаснага мастацтва «Avant-gARTe. Ад квадрата да аб'екта», што адкрылася ў НВЦ «Белэкспа», пацвярджае шматграннасць сённяшняй беларускай мастацкай супольнасці. У экспазіцыі можна ўбачыць работы мастакоў-авангардыстаў XX стагоддзя і беларускіх аўтараў XXI стагоддзя. Асобная ўвага нададзена гучным праектам апошніх гадоў. У экспазіцыю ўключана работа скульптара Канстанціна Селіханава і фатографа Андрэя Шчукіна «Дэкадзіроўка. Архетып адэкватнага часу», якая ўвайшла ў дзясятку лепшых спецпраектаў, прадстаўленых на 5-й Маскоўскай біенале сучаснага мастацтва. Яшчэ адзін маштабны праект — «Пастулат» — калекцыя аўтарскіх крэслаў, які прадстаўляе крэсла ў якасці ўтылітарнага прадмета, арт-аб'екта і мастацкага вобраза. Пазнаёміцца з візуальнымі варыяцыямі на тэму хатніх тапак прапануе арт-праект «Тапаграфіка». Беларускія творцы таксама прадставілі арт-праекты «H2O» пра значэнне вады ў жыцці людзей і «Тэхна-арт» пра выкарыстанне тэхнікі. Усяго ж дэманструецца больш як 100 работ беларускіх майстроў.

## СТО ГАДОЎ!

З'яўленне авангардных плыняў у мастацтве Беларусі XX стагоддзя было звязана са зменай культурных парадыгмаў.

Так, 1910 — 1920-я гады сталі часам эксперыментаў. Мастацтва ўсклала на сябе ролю не толькі эстэтычную, але і ідэалагічную, адукацыйную і асветніцкую. Авангардныя з'явы праніклі як у творы мастакоў, у форму іх выяўлення і ўспрымання, так і ў задачы і прызначэнне гэтага мастацтва. Аб'яднанні «УНОВИС», «Прамень», Усебеларускае аб'яднанне мастакоў (УАМ), Рэвалюцыйнае аб'яднанне мастакоў Беларусі (РАМБ) былі не проста творчымі суполкамі, але мелі маніфесты, праграмы з дакладным планам пераўтварэння грамадства і змены культуры ў цэлым.

Наступным такім пераломам стала эпоха «адлігі» 1960-х — «застою» 1970-х гадоў. Нароўні з панаваннем сацыялістычнага рэалізму і актыўным развіццём «суровага стылю» існаваў падпольны нонканфармісцкі накірунак, які жыў сваім жыццём за дужкамі афіцыйных грамадскіх рэалій: майстэрні, сутарэнні, кватэры мастакоў, паездкі і кантакты з аднадумцамі і андэграўндам Ленінграда, Масквы, Вільнюса. Нонканфармісцкія напрамкі ў мастацтве вызначылі пачатак эпохі постмадэрнізму ў культуры Беларусі. Пачынаецца дыялог, цытаванне і інтэрпрэтацыя культур і традыцый, аснову якіх складала цікавасць да еўрапейскага мадэрнізму XX стагоддзя.

Беларускі авангард 1980 — 1990-х гадоў, які нарадзіўся яшчэ ў папярэднюю эпоху як падпольнае мастацтва, у гэты час становіцца сапраўднай альтэрнатывай афіцыйнаму мастацтву. Сёння пра мастацтва гэтага перыяду захавалася няшмат звестак. Беларускі авангард існуе хутчэй у фармаце версій падзей, успамінаў сучаснікаў і згодна з гэтым складае аснову для міфатворчасці.

Неафіцыйнае беларускае мастацтва 1980 — 1990-х перастала быць падпольным. У асноўным мастакі гэтага перыяду імкнуліся аднавіць перапыненую сувязь з класічным авангардам пачатку XX стагоддзя. У гэтыя гады з'явіліся аўтары, якія сцвярджалі каштоўнасць кожнай творчай асобы, яе досведу ідэнтыфікацыі, яны гаварылі пра ўнутранае, інтымнае, аддаючы перавагу не грамадскаму, а прыватнаму. Драматызм напаўняў не толькі змест мастацтва, але і прыватнае жыццё мастакоў, якія ставілі сябе па-за соцыумам, замыкаючыся ва ўласных перажываннях. Такое адасабленне паступова ператварылася ў пэўную форму існавання, «паралельнага пражывання». Сам працэс творчасці пераўзыходзіў па значнасці яго вынікі. Такім чынам, мастацтва беларускага авангарда сцвярджала абсалютную ўнікальнасць творчай асобы.

У асяроддзі неафіцыйнага мастацтва ўзнікалі своеадметныя формы мастацкай дзейнасці: акцыянізм, перформанс, відэаарт, дэкларацыі, маніфесты, інсталяцыі і многае іншае. У 1980-я гады нефармальныя выстаўкі праходзілі ў самых розных месцах: у фае кінатэатраў, бібліятэк, у актавых залах розных грамадскіх устаноў. Такія выстаўкі, як «1+1+1+1+1+1=6», «Майстэрня мастака», «Фрагмент-падзея'87», «На Калектарнай», «Перспектыва» і «Панарама» ў 1980-я гады, «Лебшафт (любоўная сувязь)», «Тодэсшафт (смяротная сувязь)» і іншыя праекты 1990-х гадоў былі сапраўдным маніфестам вольнага мастацтва. Савецкі глядач меў патрэбу ў новых уражаннях і новых формах. У творах беларускіх аўтараў выяўляліся рысы кубізму, супрэматызму, футурызму, сюррэалізму, абстракцыянізму, дадаізму і сімвалізму. Распрацоўваліся новыя падыходы і метады творчай рэалізацыі. У гэты час былі арганізаваны Асацыяцыя творчай інтэлігенцыі, суполкі «Форма», «Галіна», «Плюралис», «Бло», «Квадрат», «4-63» і многія іншыя. Кожная група прапаноўвала свой маніфест, альтэрнатыву агульнапрызнанага прафесійнага мастацтва. Творы, нягледзячы на вонкава экспрэсіўную манеру, утрымлівалі ў сабе ўнутрана замкнёныя сістэмы, якія мелі індывідуальны характар.

У афіцыйным Саюзе мастакоў БССР таксама адбываліся кардынальныя перамены. У структуры саюза пачалі фарміравацца секцыі не па відах мастацтва (жывапіс, графіка, скульптура), як было раней, а па інтарэсах або ідэйных прынцыпах. З'явілася «Няміга-17» — аб'яднанне прыхільнікаў жывапіснага і фармальнага пачатку ў мастацтве.

Праект «Сто гадоў беларускага авангарда», прадстаўлены ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, фіксуе гісторыю зараджэння авангарда ў Беларусі XX стагоддзя, дэманструе разнастайнасць мастацтва дадзенага перыяду. Спецыяльна для выстаўкі мастак Вольга Сазыкіна аднавіла інсталяцыі, якія рабіла ў 1980-х. У музеі паказана слайд-шоу, якое дазваляе ўбачыць адны з першых беларускіх перформансаў: «Спаленне Казіміра» і «Уваскрашэнне Казіміра» Людмілы Русавай і Ігара Кашкурэвіча ў 1980-х гг. у Віцебску. У фарміраванні экспазіцыі ўдзельнічалі Музей сучаснага выяўленчага мастацтва, Нацыянальны мастацкі музей Беларусі і прыватныя калекцыянеры.



*Фота Кастуся Дробава*

*На плошчы Якуба Коласа.*

## ЭКСПЕРЫМЕНТЫ

Актыўнае засваенне гарадской прасторы — перспектыўны напрамак сучаснага мастацтва ў Беларусі, праца над якім толькі распачынаецца. Моладзь актыўна працуе з прасторай, і гэта абумоўлівае выхад за межы выставачных залаў. Многія краіны сёння актыўна карыстаюцца такім спосабам інтэрактыўнага ўваходжання мастацтва ў сферу жыцця людзей: размяшчэнне рэпрадукцый карцін на сценах дамоў Масквы і Санкт-Пецярбурга. Ёсць і прыклады больш кардынальнага выкарыстання прасторы — калі аўтавакзалы, паркі і нават гістарычныя помнікі становяцца падставай для эксперыментаў мастакоў. У краінах Заходняй Еўропы засваенне публічнай прасторы стала ўжо традыцыяй — ад абстрактнай скульптурнай пластыкі на вуліцах і плошчах да скульптурных інтэрвенцый на сценах дамоў.

У Беларусі напрамак «Public-art» — мастацтва ў публічнай прасторы — таксама становіцца актыўным складнікам гарадскога жыцця. На плошчы Якуба Коласа ў Мінску ўжо ў трэці раз адкрылася выстаўка рэпрадукцый з праекта «Мастак і горад. BelART.by». Сёлета ён прысвечаны беларускім мастакам і прэзентуе жывапіс і графіку айчынных аўтараў, прадстаўленых у калекцыі Музея сучаснага выяўленчага мастацтва Беларусі. Многія ўдзельнікі выстаўкі адзначаны міжнароднымі ўзнагародамі. Так, Юрый Якавенка (Гродна) атрымаў 1-ю прэмію II Міжнароднага біенале графікі «Josep de Ribera» ў Хаціве (Іспанія), Уладзімір Клімушка адзначаны стыпендыяй Расійскага фонду імя А. Быстрыцкай, Таццяна Кандраценка атрымала спецыяльны прыз групы свабоднай эксперыментальнай школы керамікі Р. Раньеры (Італія) на III Міжнародным тэатральна-мастацкім фестывалі «Zdarzenia» (Польшча), Ганна Сілівончык узнагароджана медалём «Талент і прызванне» Міжнароднага альянсу «Міратворац» у Маскве (Расія).

У работах, прадстаўленых у праекце «Мастак і горад. BelART.by», няма стылёвага адзінства, падабенства формы, зместу і пластыкі. Творцаў яднае менавіта шматаблічнасць. А гледача зацікавіць унікальная магчымасць параўнаць, як розныя па сваіх мастацкіх прыярытэтах аўтары вызначаюць і інтэрпрэтуюць кола з'яў, актуальных для сённяшняга дня. Прадстаўленыя творы паказваюць, наколькі айчыннае мастацтва, з аднаго боку, адкрытае для эксперыментаў, сэнсавых пераўтварэнняў, эстэтычных навацый, а з другога — як яно захавала ярка выяўленыя адзнакі класічнай формы, як абапіраецца на традыцыі айчыннай мастацкай школы, нацыянальныя прыярытэты.

Маштабны выставачны праект сучаснага беларускага мастацтва «Avant-gARTe. Ад квадрата да аб'екта» арганізаваны пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Мінгарвыканкама, Музея сучаснага выяўленчага мастацтва, Цэнтра сучасных мастацтваў у межах правядзення Чэмпіянату свету па хакеі. Палюбавацца сучасным беларускім мастацтвам мажліва да 10 чэрвеня.

**Таццяна ШЫМУК**

# Даўні след і новыя «Шагі»

Вельмі дарэчы «ЛіМ» распачаў гаворку пра мастацкі пераклад. Хацелася б толькі, каб яна не замыкалася аднымі тэарэтычнымі праблемамі, а выплыла на прасцяг канкрэтных творчых дасягненняў. Прычым, з поля зроку не павінны выпасці дасягненні тых, хто даносіць беларускае слова да іншанацыянальнага чытача, пашыраючы вядомасць, павышаючы імідж Беларусі і беларускай культуры ў свеце. Маючы гэта на ўвазе, глянем на творчы набытак аднаго з самых знакавых перакладчыкаў беларускай паэзіі ў Расіі — Івана Цярэнцьевіча Бурсава.



**Іван Бурсаў — не толькі паэт. Ён знаходзіцца ў першай дзясятцы самых плённых рускамоўных перакладчыкаў беларускай паэзіі за ўвесь перыяд існавання руска-беларускіх літаратурных сувязей. Усяго І. Бурсаў перастварыў па-руску творы каля 100 беларускіх пісьменнікаў.**

## СТО ПАЭТАЎ, АДЗІН ПЕРАКЛАДЧЫК

Іван Бурсаў нарадзіўся 19 снежня 1927 г. у горадзе Клімавічы, у сям'і афіцэра Чырвонай Арміі. Першая мова, якой ён авалодаў, была руская. Але ў Клімавічах Іван добра засвоіў і беларускую — дзякуючы кантактам са сваякамі па беларускай родавай лініі, а таксама вучобе ў Клімавіцкай беларускай школе. Са школьнага часу ў сэрца Бурсава запала сонцадайная паэзія Песняра, які, паводле яго ўласных слоў, адчыніў яму «неисчерпаемый мир Поэзии с блёстками живого белорусского слова — языка той земли, за счастье которой всю жизнь молился Янка Купала» (эсэ «Мой Янка Купала»). У выніку ён далучыўся да значнай часткі выдатных перакладчыкаў беларускай літаратуры на рускую мову, цесна звязаных з Беларуссю, добрых знаўцаў беларускай літаратуры, культуры і мовы, для якіх не патрэбны ні падрадкоўнікі, ні пасрэднікі-кансультанты. Сярод такіх паэтаў-перакладчыкаў (некаторыя з іх, на жаль, ужо сышлі ад нас) — Дзмітрый Кавалёў, Навум Кіслік, Браніслаў Спрынчан, Генадзь Бубнаў, Ігар Шклярэўскі, Пётр Кошаль, Ізяслаў Катляроў, Фёдар Яфімаў, Святлана Яўсеева, Андрэй Цяўлоўскі і некаторыя іншыя.

Лёс І. Бурсава склаўся так, што пасля заканчэння Літаратурнага інстытута імя М. Горкага (1962) і непрацяглай працы ў часопісе «Нёман» (1962 — 1964) ён стаў пастаянным жыхаром Масквы. Цесныя новыя сувязі з цэнтральнымі расійскімі літвыданнямі і выдавецтвамі (найперш «Молодой гвардией»), як і працяг ранейшых творчых кантактаў з аналагічнымі беларускімі, у значнай ступені прадвызначылі колькасць перакладаў. І. Бурсаў знаходзіцца сёння ў першай дзясятцы самых плённых рускамоўных перакладчыкаў беларускай паэзіі за ўвесь перыяд існавання руска-беларускіх літаратурных сувязей. Вось толькі некаторыя з перакладзеных ім кніг: «Целиноград» (1961), «Раскидач: Весёлые стихи» (1969) і «Слыхал?» (1983) Р. Барадуліна, «Голоса расстояний» (1964) Г. Бураўкіна, «Вечерние паруса» (1969) У. Караткевіча, «Одна любовь» (1971) М. Сурначова, «Основа» (1972), «Лесной будильник» (1977) і «Солнечный клубочек» (1987) В. Зуёнка, «Птичье дерево» М. Федзюковіча, «Песня твоей сестры» (1977) Е. Лось, «Красный жаворонок» (1977) Г. Пашкова, «Закон воды» (1978) К. Цвіркі, «Лето круглый год» (1983) і «Чёрные аисты» (1986) В. Лукшы, «Тихий свет» (1984) У. Паўлава, «Там, где ходят босиком» (1990) Д. Бічэль-Загнетавай. Можна назваць яшчэ выдадзеныя ў яго перакладзе ў Маскве і Мінску паэмы «Над ракой Бярозай» і «Марат Казей» П. Броўкі, «Пригоды дзеда Міхеда» А. Астрэйкі, «Маўчанне травы» В. Зуёнка, шэраг кніжак для дзяцей. Ніводнага выпадковага аўтара ці твора. Рускі чытач атрымлівае лепшае, што з'яўлялася ў беларускай паэзіі ў 1960 — 1980-я гг. Але нашмат часцей знаёміў І. Бурсаў расійскага чытача праз колішні ўсесаюзны і беларускі рэспубліканскі перыядычны друк. Па маіх падліках, перакладчык узнавіў творы каля ста беларускіх пісьменнікаў XIX — пачатку XXI стст. Толькі ў кнізе «Слово по кругу: Избранные переводы с белорусского» (Мн., 1981), якая ў 1960 — 1970-я гг., паводле яго слоў, «складывалась не только в результате договоров с редакциями и издательствами, но и по долгу сердца», змясціліся асобныя вершы ажно 33 беларускіх паэтаў — сучаснікаў і пераважна равеснікаў І. Бурсава.

## АНТАЛОГІЯ ПА-РУСКУ

Нядаўна ў мінскім выдавецтве выйшла яшчэ адна бурсаўская персанальная анталогія беларускай паэзіі, названая «Шаги» (2011). Гэта, вобразна кажучы, новыя крокі Бурсава-перакладчыка ў набліжэнні беларускай паэзіі да рускамоўнага чытача. Анталогію склалі творы 52 лепшых майстроў беларускай паэзіі, творы якіх не ўваходзілі ў «Слово по кругу»: вершы і паэмы XIX ст. — Я. Баршчэўскага, Я. Чачота, У. Сыракомлі, В. Дуніна-Марцінкевіча, К. Каліноўскага, А. Гурыновіча, Я. Лучыны, Ф. Багушэвіча і інш. (раздзел «Зачинатели»), пачатку XX ст. — Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, А. Гаруна, В. Ластоўскага, У. Галубка і інш. (раздзел «Нашенивцы»), першых двух савецкіх дзесяцігоддзяў — У. Дубоўкі, У. Жылкі, М. Чарота, У. Хадыкі, В. Маракова, А. Александровіча і інш. (раздзел «"Молодняковцы" и "возвышенцы"»). Завяршаюць кнігу пераклады асобных вершаў двух паэтаў «беларускага замежжа» — А. Смаленца і Л. Геніюш, а таксама паэта-франтавіка, земляка перакладчыка, магілёўчаніна А. Пысіна. Адметнасць «Шагов» — у наяўнасці арыгінальных гісторыка-літаратурных эсэ: прадмовы («Самое богатое и чистое наречие…»), невялікіх па памеры, але інфармацыйна насычаных біяграм усіх паэтаў і пасляслоўя (з уласным вершам «Янка Купала»). Усё гэта выяўляе асноўную *мэту перакладу*: даць у рукі рускамоўнага чытача сапраўдную (хоць і кароткую) анталогію беларускай паэзіі першай паловы XIX — XX ст., запоўніць лакуну, якая існуе да гэтага часу. Зразумела, такая мэтавая ўстаноўка была прадыктавана не дамовамі «с редакциями и издательствами», а выключна «зовом» і «долгом» сэрца перакладчыка, удзячнасцю зямлі, якая яго нарадзіла і дала крылы для творчага палёту.

Анталогію беларускай паэзіі Бурсава можа выкарыстоўваць не толькі г. зв. «шырокі чытач». Ёй можна карыстацца ў якасці вучэбнага дапаможніка пры вывучэнні гісторыі беларускай літаратуры адпаведнага перыяду. А часам — і гісторыі самой Расіі. У гэтым сэнсе паказальныя пераклады славутай паэмы «Тарас на Парнасе» (50-я гг. XIX ст.), а таксама вершаванай аповесці В. Дуніна-Марцінкевіча «Халімон на каранацыі» (1857). У «Тарасе на Парнасе», як вядома, намаляваны яскравы партрэт расійскага афіцыйнага пісакі Булгарына («...сивый // И круглобокий, как чурбан, // Уж очень с виду некрасивый»), а таксама яго «товарища» — Грэча, якія пешшу лезуць на Парнас: «И все с собою тащат книжки, // Ручьями с бедных льётся пот…» А ў гэты час — «…вдруг все разом зашумели // И расступились в два конца. // Как птицы, мимо пролетели // Четыре добрых молодца. // Был вид у этих не таковский — // Сам Пушкин, Лермонтов, Жуковский // И Гоголь быстро мимо нас // Промчались прямо на Парнас». Што да «Халімона на каранацыі», то тут вачыма вясковага ўспрынята і пяром паэта яскрава апісана, а пяром перакладчыка — выдатна ўзноўлена па-руску каранацыя Аляксандра II у лютым 1855 года.

## ТАЛЕНТ, ЯШЧЭ РАЗ ТАЛЕНТ

Вядома, галоўнае ў мастацкім перакладзе — якасць, ступень адэкватнасці ўзнаўлення першакрыніцы, што ўключае ў сябе не толькі сэнсавую дакладнасць, але і захаванне эстэтычнай паўнацэннасці арыгінала. Перакладчыкі паэзіі павінны валодаць паэтычнымі здольнасцямі, і немалымі. Такімі здольнасцямі, больш за тое — адметным талентам, валодае Бурсаў, аўтар звыш 30 паэтычных зборнікаў, станоўча ацэненых рускай і беларускай крытыкай. Праўда, гісторыя мастацкага перакладу сведчыць: не кожны, нават выдатны, паэт можа быць добрым перакладчыкам. З іншага боку, некаторыя выдатныя перакладчыкі не здолелі адэкватна выявіць сябе ва ўласнай творчасці. Значыць, існуе не толькі чыста паэтычны талент, але і *своеасаблівы перакладчыцкі*. Бурсаў валодае і ім, пра што ўскосна сведчыць мноства перакладзеных кніг і прыхільныя водгукі чытачоў і крытыкаў.

Што ж яшчэ апрача значнага таленту паэта-перакладчыка прадвызначае вартасць перакладаў Бурсава? Відавочна, духоўная сугучнасць з аўтарамі і творамі, якія ён узнаўляе. Прыгадваючы час супрацоўніцтва з маскоўскім выдавецтвам «Молодая гвардия», перакладчык пісаў: «"Молодая гвардия" — издательство молодёжное, и переводить, в основном, приходилось молодых поэтов. В какой-то мере это облегчало работу — стихи современников были близки по духу, по тематике, по молодому видению мира». І тут жа дадаваў: «Но настоящим праздником было для меня, когда выпадало переводить стихи белорусских поэтов. Язык, на котором когда-то, сидя на «загавальне» — на завалинке, пронзительно тихими могилёвскими вечерами, пела бабушка с подругами молодости «жнивеньские» да «весельные» песни, — был не только понятен и близок, как и родной русский, — но за ним было то, что можно определить, как память сердца». Сапраўды, у перакладчыцкім дарobku Бурсава сустракаюцца пераклады з мовў украінскай (зборнікі вершаў Л. Кастэнка «Лучи земли» і Д. Паўлычкі «Быстрина», абодва — 1960 г.), з некалькіх іншых. Аднак ад пачатку 1960-х гг. і да нашага часу ён у Расіі — самааддана адналюб беларускай паэзіі.

## НЮАНСЫ

Можа ўзнікнуць заканамернае пытанне: ці ўсе пераклады І. Бурсава аднолькава высокай якасці? Відавочна, адказ будзе не заўсёды станоўчы, хоць бы па той простай прычыне, што любая мастацкая творчасць не гарантуе выдатны вынік. Да таго ж, «перакладчык-шматстаночнік» сустракаецца з аўтарамі, часава і стылёва далёкімі яму. Хоць таленавіты і дасведчаны перакладчык знаходзіць, як правіла, выхад і ў такой сітуацыі. Як артыст шырокага амплуа можа сыграць самыя розныя ролі, перакладчык «шырокага профілю» можа падладзіцца пад стыль і наблізкага яму паэта, пастарацца загаварыць яго ным голасам.



**Иван БУРСОВ**

## Янка Купала

*Он вновь в Москве!..*
*Для многих незнакомый,*
*Пройдя нелёгкий путь длиною в жизнь,*
*Стоит в раздумье вдалеке от дома,*
*На зыбкие перила опершись.*

*Нет, бронза лик его не изменила,*
*Не погасила взгляд его живой.*
*Он смотрит вдаль,*
*Не зная, что перила*
*Готовы рухнуть за его спиной.*

*Он весь в полёте мыслей и стремлений,*
*В тревожных думах о родной земле...*
*Над ним шумят деревья, — светотени,*
*Как отраженье мыслей, — на челе.*

*Он вновь в Москве...*
*Москва его впустила, —*
*С трудом, но узнаёт его Москва.*
*Нет, время лик его не изменило:*
*Купала — жив,*
*и Беларусь жива!*

Разам з тым пры мастацкім перакладзе неадменна ўзнікае і творчы дуэт. Асабліва тады, калі сам перакладчык — яскравая творчая асоба. У паэтычным рознагалоссі заўсёды чуюцца і «ноткі» перакладчыка. Важна толькі, каб яны не заглушалі голас арыгінальнага паэта. Здаецца, з Бурсавым-перакладчыкам гэтага не здараецца. Ці, дакладней, — найчасцей не здараецца. Ягоныя «ноткі» — у паважлівым стаўленні да арыгінала, у імкненні захаваць яго нацыянальную спецыфіку, стылёвую адметнасць, у выкарыстанні (магчыма, часам залішнім) беларусізмаў (*бульба, горелка, лирник вясковы, девчина* і г. д.), у перадачы беларускіх тапонімаў і антрапонімаў… Праўда, што да апошняга, то ў кніжцы «Шаги» нямала і прыкладаў разбежак у гэтай перадачы. Так, разам з правільным напісаннем: Веригá-Дáревский, Чáчот, Бáрадулин, Пáнюшковичи, Беларусь і інш. На іншых старонках кнігі сустракаем: Веригó-Дéревский, Чéчот, Бóрóдулин, Пóнюшковичи, Белоруссия і інш. Але гэта ўжо — прэтэнзія не так да перакладчыка, як да выдаўцоў анталогіі, яе рэдактара і карэктара. Разам з тым — сведчанне агульнай неўнармаванасці перадачы беларускіх, нацыянальна адметных, айконімаў сродкамі рускай мовы.

У заключэнне мушу выказаць вялікае шкадаванне. Расійскія выдавецтвы ў апошнія дваццацігоддзе чамусьці перасталі друкаваць беларускую літаратуру ў перакладзе на рускую мову (за невялікім выключэннем). Таму арыгінальная, актуальная анталогія беларускай паэзіі І. Бурсава «Шаги» выйшла — з дапамогай А. Зімарынай, А. Каўкі, А. Каждуба і С. Панізьніка — у прыватным мінскім выдавецтве, да таго ж — у колькасці… 64 экзэмпляраў! Кніга, вядома, не дайшла да свайго адрасата, і не толькі да «шырокага» расійскага чытача, але нават да рускамоўных мінчукоў. А так пра гэта марыць — ведаю! — паэт-перакладчык на схіле свайго веку!.. Ды ўсё ж будзем спадзявацца, што і мы, і паважаны Іван Бурсаў дачакаемся перавыдання анталогіі, як таго яна і заслугоўвае.

**Вячаслаў РАГОЙША**

# Таня МАЛЯРЧУК
# «Love is...»



Таня Малярчук — пісьменніца, адна з найцікавейшых асоб-з'яў сучаснай украінскай літаратуры. Нарадзілася ў Івана-Франкоўску, скончыла Прыкарпацкі нацыянальны ўніверсітэт імя Васіля Стэфаніка. Аўтар кніг апавяданняў «Як я стала святою», «Гаварыць», «Звераслоў» і рамана «Біяграфія выпадковага цуду». Ёсць пераклады на польскую, нямецкую, румынскую, рускую, англійскую і беларускую мовы. Свет Тані Малярчук — дзіўны і нават сюррэалістычны.

Калісьці, у часы майго светлага постсавецкага дзяцінства, былі такія турэцкія жуйкі «Love is...». З «Дональдам Дакам» і «Турба» яны не вытрымлівалі аніякай канкурэнцыі. Звычайная гума, сімптаматычна араматызаваная клубнічкамі. Мяне нудзіла ўжо на першай хвіліне спрынтарскага жавання. Але вырабнікі «лаўізак» клапаціліся, відавочна, не пра смак і водар. Сваёй, на першы погляд, непатрэбнай і незаўважнай дзейнасцю яны навярталі здэмаралізаванае грамадства ў лона вечных духоўных каштоўнасцей. Абгорткі, дзеля якіх, урэшце, і куплялі «лаўізкі», складалі вялізную калекцыю вызначэнняў кахання. Просценькі коміксападобны малюнак з хлопчыкам і дзяўчынкай у розных сітуацыях і — не пабаюся гэтага слова — позах. А далей універсальная ісціна кшталту: каханне — гэта калі нешта замінае табе сканцэнтравацца; каханне — гэта калі нехта нясе твае лыжы; каханне — гэта сэрца адно на дваіх; каханне — гэта прычына нашай прысутнасці на зямлі…

Усе мае сябры, асабліва хлопцы, насіліся з «лаўізкамі», нібы з «Камасутрай» ці часопісам "Плэйбой". На перапынках паміж урокамі ў школе найбольшыя фанаты збіраліся разам, каб пачытаць адно аднаму свае вызначэнні кахання. На адну «лаўізку» можна было выменяць, напрыклад, бутэрброд з каўбасой ці два яблыкі, аднак тыя, што паддаваліся галоднай спакусе, потым горка пра гэта шкадавалі.

Уявіце сабе шчаслівае пакаленне ўкраінскіх дзяцей, якія не здагадваліся пра існаванне апельсінаў і камп'ютараў, але ведалі, ШТО ТАКОЕ КАХАННЕ.

Я, як заўсёды, усё прапусціла. Жуйкі «Love is...» раптоўна зніклі, і ў мяне не засталося ніводнага экзэмпляра, ім на змену прыйшоў больш мадэрновы варыянт — «Hate is...», які, у прынцыпе, лагічна працягваў абраную тэму. Тыя самыя хлопчык і дзяўчынка. Унізе абгорткі вердыкт: нянавісць — гэта калі ты не можаш глядзець на яе без аптычнага прыцэла.

Я памятаю аднаго не надта старога дзеда, які п'яным ляжаў на лаўцы ў цэнтры невялічкага заходнеўкраінскага гарадка і крычаў: «Дзе каханне?! Дзе каханне?!» Увесь гарадок сышоўся паглядзець канцэрт. Дзед выступаў некалькі дзён. Ляжаў на лаўцы не прасыхаючы (не ўяўляю, як ён папаўняў запасы алкаголю ў крыві), бесперапынна паўтараў адно і тое ж: «Дзе каханне?!» Праведныя жанчыны тоўпіліся каля дзеда, і кожная па-свойму адказвала на ягонае пытанне:

— У срацы.

— У Амерыцы твае каханне.

— Нашто яно табе ўвогуле здалася?

— Такі стары, а яшчэ кахання хоча…

Маленькія дзеці кідаліся ў дзеда яблыкамі і каменнем. Бегалі вакол, як чарцяняты, тыкалі пальцам, зрывалі чаравікі, картуз з галавы. Сцэна, вартая вялікіх рэжысёраў. Пад канец дзед крыху змяніў рэпертуар. Апошнія яго словы, якія я памятаю, былі прыблізна такімі: «Дзе каханне?! Дзе жыццё?!»

Я ўжо амаль забыла гэтую гісторыю. Цяпер тая, што выхоўвалася на жуйках «Love is...», услед за прапітым валацугам паўтарае: і дзе яно, насамрэч, дзе? Дзе каханне, да якога нас з маленства рыхтавалі і якое на кожным кроку абяцаюць?

Пакажыце мне хаця б аднаго чалавека, які сапраўды кахае. Пакажыце мне хаця б аднаго чалавека, якога сапраўды кахаюць.

Ані кроку за межы жанру. Ёсць двое закаханых — ён і яна, ёсць альтэрнатыўны фактар, які пагражае іхняму супольнаму шчасцю, ёсць драматычная сітуацыя, бязлітасны канфлікт, што нарастае да кульмінацыі, і катарсіс са слязьмі ды трупамі. Закаханыя мусяць дзейнічаць, мусяць змагацца, яны павінныя трымацца так, як трымаюцца героі, бо інакш іхняе каханне і будучая ахвяра нікому не будуць цікавыя.

А нецікавага навокал аж занадта. Нашыя знаёмыя, няўдаліцы і слабакі, толькі тое й робяць, што «закохваюцца», толькі тое й робяць, што прайграюць. Усё адбываецца ціха і без бою. Дзейныя асобы, не наважыўшыся на ўчынак, вырачана сядзяць адно каля аднаго і млява імітуюць шалёную жарсць. Іхні рамэаджульетаўскі дыялог можна перадаць дзвюма фразамі: «Я цябе кахаю» — «Я цябе таксама не». Гэта не каханне. Мы так не дамаўляліся, Божанька.

Я ўжо некалькі дзён пераймаюся тым, каб прыгадаць якую-небудзь рэальную гісторыю кахання. Так, каб моцна, шчыра і да канца. Так, каб мець хаця б адну і распавядаць яе направа і налева, дзецям і ўнукам. І не магу. Баюся, каханне — гэта сумесны праект Шэкспіра і галівудскіх прадзюсараў. Тое, што мы прымаем за каханне, насамрэч — усяго толькі банальны страх застацца самотным.

Хаця часам усё выглядае значна прасцей. Магчыма, мы кахаем і працягваем кахаць з жалю да сябе.

Неяк я была сведкай вулічнай бойкі. Урэшце, не столькі бойкі, колькі збіцця. Ён — курдупель, маленькі самаўпэўнены індык — біў яе — прыгажэйшую і вышэйшую за сябе на дзве галавы. Дзяўчына глядзелася ў мініяцюрнае кішэннае люстэрка. Індыка гэта не на жарт раз'юшыла. Ён ударыў яе, яна пахіснулася, і люстэрка выпала з рук на газон. Урэшце, не столькі выпала, колькі адляцела метраў на дзесяць. Дзяўчына заплакала. Індык раз'юшыўся яшчэ больш.

Я стаяла побач і за ўсім назірала. Трымалася вельмі неасцярожна, бо маленькі, але задзірысты мужчынка мог навешаць кухталёў заадно і мяне.

Я думала сабе: ну ўсё, на гэтым іхнія пяшчотныя стасункі скончыліся. Канец кахання. Дзіўна, што яны ўвогуле так доўга пратрымаліся — прыгажуня і пачвара.

Дзяўчына мне падабалася. Была ў ёй нейкая прывабная ціхмяная вышэйшасць. Побач з ёю яе кавалер выглядаў нікчэмным чарвяком.

Ён крычаў: «Чаго ты равеш?! Пайдзі і падымі люстэрка!»

І гэта было занадта. Такога карамазаўскага здзеку я не чакала нават ад чарвяка. Думала: зараз яна дасць яму здачы. Яна не вытрымае. Мусіць. Раструшчыць люстэрка ў яго на галаве.

Некалькі хвілін яны стаялі адно насупраць аднаго і маўчалі. Змагаліся позіркамі. Яго позірк загадваў падняць клятае люстэрка. Яе позірк вышукваў у маленькім цельцы каханага штосьці, што адны называюць сэрцам, а іншыя — душой.

Ну, пабі яго, маліла я. Ты ж можаш! Ты ж вышэйшая за яго на дзве галавы. Прыкончы яго, як блыху на грабянцы. Ты такая прыгожая. Знойдзеш сабе іншага, большага кавалера. Ад большага кавалера і атрымаць не сорамна.

Яны глядзелі адно на аднаго, а я глядзела на іх. І чым, вы думаеце, скончыўся паядынак? Правільна.

Яна падняла люстэрка з газона, выцерла слёзы і разам з індыком пад руку знікла ў невядомым напрамку. А я яшчэ доўга стаяла на тым самым месцы, захлынаючыся ад крыўды і бяссілля.

Забягаючы наперад, скажу, што мяне аднойчы, значна пазней, таксама так ударылі. І я трымалася нічым не лепш. Выцерла слёзы і ўсё забыла. Але ў той момант было так неверагодна сябе шкада. Было так неверагодна прыемна сябе шкадаваць.

Каханне — сцэна для эгаізму. Ты танцуеш на гэтай сцэне якую-небудзь, даруйце, ламбаду, а цябе бесперапынна хваляць. Хваляць не таму, што твая ламбада — вяршыня ламбаднага мастацтва, а таму, што кахаюць цябе і не хочуць засмучаць. Але ж табе добра. Ты паважаеш сябе. Нікога са сцэны не бачыш, бо пражэктары слепяць вочы. Абагаўляеш сябе і толькі сябе.

Упершыню я закахалася ў дзіцячым садку. Мела гадоў пяць ці менш. Класічны варыянт — гэта была мая выхавацелька. Я бесперапынна круцілася вакол яе, вымагала яе ўвагі, ранішнюю гімнастыку рабіла так сумленна, што ледзь не ламала сабе рукі і ногі.

Хто лепш за ўсіх умее разглядаць у кніжках малюнкі — я! Хто лепш за ўсіх лепіць у пясочніцы крэпасці і агароджы — я! Хто гучней за ўсіх спявае на ўроках музыкі — я! Хто ведае найбольш анекдотаў — я! Хто самы разумны — я!

Выхавацелька бесперапынна павінна была мяне хваліць, трымаць мяне за руку, думаць толькі пра мяне, словам, — кахаць мяне. І так пэўны час сапраўды было. Мядовы месяц у дзіцячым садку (неблагая назва для дабротнага парнаграфічнага фільма).

Але аднойчы выхавацелька мяне пакрыўдзіла. У спрэчцы з кімсьці з дзяцей не стала на мой бок. Я выбегла на вуліцу і цэлы дзень, упартая і ганарлівая, чакала, калі выхавацелька прыйдзе да мяне, папросіць прабачэння, скажа, што памылілася, што сумавала па мне. Мінула гадзіна, другая, а выхавацелька не з'явілася. Думаю, яна ліхаманкава перачытвала педагогіку Макаранкі, бо не ведала, як правільна са мной гаварыць. Але тады я была гатовая забіць яго — сваё каханне, якое так жорстка са мной абышлося. Здрадзіла мне. Пакінула. Высмеяла. У адзін момант з самай разумнай я стала поўнай дурніцай. Забыла ўсе анекдоты. Страціла голас. Сцэна, на якой я танцавала сваю ламбаду, правалілася, і я з разгону грымнулася ўніз, на самае дно ганьбы і самазнявагі.

З таго часу перад тым як выйсці на сцэну я спачатку правяраю, ці надзейная яна. Упэўніваюся, што гэта сцэна, а не добра замаскіраваная памыйная яма.

Калі б я была заканадаўцам кахання, то пакінула б у ім усё як ёсць. Няхай каханне і далей будзе такім: неспадзяваным, неўзаемным, няшчасным, подлым, пакутлівым, злым.

Не задавальняюць мяне толькі дзве рэчы, і першая — гэта тое, што каханне робіць людзей надакучлівымі дзецьмі, якія ў цацачнай краме канькаюць купіць ім мядзведзіка. Без мядзведзіка яны не ўяўляюць, як будуць жыць далей. Жыццёва неабходна мець мядзведзіка. Каб было каго кахаць. Каб было каму штовечар перад сном у каханні прызнавацца.

Другое, што мне прынцыпова не падабаецца ў каханні, — гэта тое, што яно мінае.

Вельмі не падабаецца.

Зрэшты, я амаль не веру ў тое, што каханне мінае. Яго або ніколі не было, або яно ёсць назаўсёды. Інакш як апраўдаць смяротнасць чалавечай істоты? Смяротны чалавек мусіць мець хаця б нешта вечнае. Яму неабходна за нешта трымацца. Забыцца, каб не прасядзець адведзеныя шэсцьдзясят-семдзесят гадоў у псіхіятрычнай лякарні са словамі: навошта жыць, калі ўсё роўна памру? А каханне — найлепшая форма забыцця. Каханне не памірае.

Падазраю, мяне папросту ў чарговы раз абдурылі. І зноў ва ўсім вінаватая гэтая літаратурная халтура. Памятаеце, як Рэт Батлер за старонку да заканчэння рамана «Знесеныя ветрам» заявіў Скарлет О'Хара: «Даруй, дарагая, але я цябе больш не кахаю». Памятаеце? Я перачытвала той абзац мільён разоў. Я не чакала такога. Не магла паверыць, нават больш — не магла зразумець. Як гэта «не кахаю»? Што значыць «не кахаю»? І ты кажаш гэта цяпер, за старонку да канца, калі Скарлет такая самотная і няшчасная? Ды паглядзі на яе — яна пакаялася! Яна стала разумнейшай! Яна кахае цябе і заўсёды кахала, проста нарадзілася трошкі дурнаватай і таму не заўсёды ясна ўсведамляла, чаго хоча! Ты не можаш вось так узяць і раскахаць яе! Хіба можна перастаць кахаць такую жанчыну?!

Калі мае дзеці і дзеці маіх знаёмых калі-небудзь захочуць прачытаць «Знесеныя ветрам», я вырву з кніжкі апошнюю старонку або перапішу яе наноў. Каб не множыць і без таго распаўсюджаную ерась.

Нічога не бойцеся. Каханне бессмяротнае. Вам будзе добра, калі пакахаеце. Толькі кахайце.

У свеце яго так мала, але так шмат пра яго размоў, што траціш здольнасць адрозніваць свае пачуцці ад навязаных. У тэлевізары гавораць пра каханне, у кніжках і газетах гавораць пра каханне, у цэрквах, на пленарных пасяджэннях Вярхоўнай Рады, на занятках па ёзе, у грамадскім транспарце і грамадскіх прыбіральнях. Нас напіхваюць гісторыямі кахання, быццам кансервантамі, праводзяць такія сабе прапедэўтычныя курсы, каб мы ведалі, як усё адбываецца, як каханне выглядае, якое каханне бывае і што, уласна, лепш не кахаць, але яно як снег на галаву — ты не будзеш мець сіл супрацьстаяць. Будзеш цярпець — і гэта прыўкрасна.

Задоўга да паўналецця мы робімся сапраўднымі прафесіяналамі. Маем выразнае ўяўленне пра ўсе магчымыя любоўныя інтрыгі і перыпетыі, а калі раптам Яно прыходзіць, мы кажам сабе: ого-го, здаецца, каханне. Ура!

І мяне гэта страшэнна нервуе. Бо каханне ніадкуль не прыходзіць. Каханне ўвогуле не ўмее хадзіць. Каханне сядзіць у кожным чалавеку ад самога нараджэння. Чалавек — гэта каханне.

Усё астатняе не мае ніякага значэння.

**Пераклала з украінскай Ліда НАЛІЎКА**

# Хакей, пінгвіны і Рашэт

**У Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі завяршыўся дзясяты адкрыты публічны конкурс «Дызайн уваходнага квітка-2014».**



*Пераможца конкурсу «Дызайн уваходнага квітка-2014» Уладзіслаў Хвастоў.*

— Уваходны квіток — візітная картка любога музея. Сам па сабе ён ужо твор мастацтва і прадмет калекцыяніравання. З кожным годам наш конкурс набірае абароты. Гэтым разам прафесійнаму журы прыйшлося нялёгка: паступіла 101 праца ад 52 удзельнікаў, — адзначыла намеснік генеральнага дырэктара па навуковай рабоце НММ, старшыня журы Надзея Усава. — Ініцыятыву праяўляюць у асноўным студэнты, такім чынам яны звяртаюць увагу на сваю творчасць. Але трэба адзначыць і адмоўны бок: агульны ўзровень удзельнікаў не надта высокі — нашы дызайнеры не вельмі добра ведаюць музей і гісторыю мастацтваў. Фактычна мы выбіралі з пятнаццаці квіткоў.

Галоўны прыз рашэннем прафесійнага журы прысуджаны мінскаму графічнаму дызайнеру Уладзіславу Хвастову. Пераможца атрымаў грашовую прэмію ў памеры 10 мільёнаў рублёў. Паводле члена журы, сябра Беларускага саюза дызайнераў і Беларускага саюза мастакоў, кіраўніка дызайн-студыі Антона Баранава, квіток-пераможца найбольш нейтральны графічна. Ён не выклікае трапятання, палёту пачуццяў — і не павінен, — яго прыемна трымаць у руках. Кампазіцыя выканана ў чырвонай колеравай гаме. На квітку адлюстравана мармуровая статуя «Алегорыя зімы» французскага скульптара Жана Дамініка Рашэта, якая знаходзіцца ў зале заходнееўрапейскага мастацтва НММ. Цікава, што ніколі раней гэтая скульптура не лічылася візіткай музея.

Традыцыйна магчымасць выказаць меркаванне ў ацэнцы прадстаўленых конкурсных праектаў была прадастаўлена і наведвальнікам музея, якія маглі прагаласаваць за любую працу на спецыяльнай выстаўцы ў НММ. У выніку прыз глядацкіх сімпатый атрымала студэнтка Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Паліна Кузьміна. Яна ўзнагароджана прэміяй у 4 мільёны рублёў. Спецыяльнага прыза ад Нацыянальнага мастацкага музея ўдастоена Вольга Пушкель, віцебскі мастак-праекціроўшчык рэкламна-сувенірнай прадукцыі. Дызайнеру былі ўручаны выданні музея за апошнія 5 гадоў.

Члены журы адзінадушна заявілі: «Больш крэатыву! Часам нашыя дызайнеры надта сціплыя…» Вядома ж, не ўсе, бо на адным з квіткоў журы пабачыла пінгвінаў (маўляў, нават яны хочуць прыйсці ў музей!). А на іншым — выяву Міхала Казіміра Радзівіла Рыбанькі ў хакейнай форме.

Конкурс на лепшы дызайн уваходнага квітка ў Нацыянальным мастацкім музеі арганізаваны пры падтрымцы замежнага ўнітарнага прадпрыемства «Брытыш-Амерыкан Табака Трэйдынг Компані». Упершыню конкурс быў праведзены ў 2005 годзе. Сёлета ён прайшоў пад дэвізам «Музей — нацыянальны. Квіток — персанальны. Пакіну яго сабе!»

**Паліна ПЛАТАВА**

# Хто забіў?..

**Спектакль «Прысвячэнне Ялце» паводле Іосіфа Бродскага пачалі рыхтаваць у лістападзе 2013-га (Новы тэатр, Мінск) і пакуль рыхтавалі, ён спраўджваўся… у Ялце, наяве, у нейкім недарэчным збегу падзей і абставін, якія крок за крокам выдавалі на тэатр іншага віду і зместу — ваенных дзеянняў. «Прысвячаю Крыму», — рэзюмавала назваў сёлетні сакавіцкай прэм'еры рэжысёр спектакля Віргінія Тарнаўскайтэ.**

Пра падобную метамарфозу ў Бродскага сказана, што «…в наши дни / не только ложь, но и простая правда / нуждается в солидных подтвержденьях / и доводах… И как ребенок, распатронив куклу, / рыдает, обнаружив в ней труху, / так подоплёку тех или иных / событий мы обычно принимаем / за самые событья». Пакуль тыя падзеі зробяцца відавочнымі, бясслоўны музыка на бас-гітары дасціпна дэманструе «подоплёку» ўтрымання тэмпарытму спектакля і ўтварэння атмасферы агульнай стурбаванасці…

На тэатральную тэрыторыю, дзе вядуць рэй суверэнная песня і танец (уявіце вечарыну ў мясцовым стылі) урываецца нехта ў камуфляжы й балаклаве (вязаная чорная масцы з дзіркамі для рота і вачэй), дае кухталя музыку і мала таго, што псуе песню, дурань… Дзейнічаючы спрытна, абазнана і, галоўнае, моўчкі, ён спраўджвае пралог спектакля: як дзіця, дападае да лялькі з пацярухай... Да бутафорскай муміі, ніяк не прыкрытай і не схаванай, а знарок асталяванай па цэнтры тэатральнай пляцоўкі і адмыслова падсветленай... Сумысна, урочыста — для тых гледачоў, чыя эмацыянальная памяць не патрапіла азваўцца імгненна. Да сакрэту (Полішынеля), які вымагае пэўнай працэдуры звароту, нейкіх абумоўленых дзеянняў — як тэатральным законам, так і крымінальным. Гэта значыць, патрабуе растлумачыць прызначэнне прадмета, які вылучыўся на грамадскія вочы… э-э-э… неяк недарэчна. Вуснамі і тэкстамі сваіх персанажаў прызначэнне возьмецца тлумачыць артыстка Кацярына Ермаловіч, занятая ва ўсіх шасці ролях спектакля — і, трэба заўважыць, растлумачыць пераканаўча.

...Нехта знойдзены мёртвым. У наяўнасці — адзнакі гвалтоўнае смерці (забойства). З гэтай нагоды ўчыняецца допыт чатырох персанажаў-сведак — дакладна паводле тэксту Бродскага, ніводзін радок не зменены і не скарочаны. Сцэныманалогі персанажаў іграюцца і адначасова адыгрываюцца праз дзеянні ды інтанацыйную афарбоўку, — так што калі не высветленай, дык цалкам вытлумачальнай робіцца і асоба следчага. Сведак ён зневажае (Шахматыста), гвалтуе (Жанчыну), запалохвае (Хлопчыка), а каб націснуць на чалавека моцнага і загартаванага, можа выявіць і некаторую павагу (да Афіцэра, бацькі Хлопчыка).

З пластыкі вершаў, з сумяшчэння прыкмет і рэчаў асяжных гістарычных часоў, са строяў і ўбораў персанажаў, мовім так, напластоўваецца выяўленчы шраг спектакля, воляю рэжысёра і абыходжаннем артысткі — паслядоўна іранічны, да шаржу і... агіды. «Культурнымі напластаваннямі» на сцэне грувасціцца вайсковая форма, зброя, прылады свідравання і збіцця, жаночы туфлік, ліхтары, бутэлькі…

Жывых персанажаў дапытваюць, а мумію цягаюць з месца на месца, падвешваюць, збіваюць, абдымаюць, ускрываюць ёй галаву і цела… без толку для следства выяўляючы мноства злачынстваў і здрад, зусім маленечкіх і трошкі большых. Апаведы сведак анічога не тлумачаць. Хіба тое, што падставы для забойства былі ў кожнага. Для забітага, у прынцыпе, яны не важныя. Дый допыт у спыненым крымскім часе дзеецца фармальна. Факт з'яўлення забітага (чытайце — муміі) альбо акт забойства (чытайце — колішняй муміфікацыі) ні сведак, ні ўяўнага следчага не дзівіць, хіба нервуе і страшыць… Праўды ўяўны следчы не прагне. Да фіналу і ўцёкаў яго падганяе не толькі тэмпарытм і логіка вершаў Бродскага: ад рэжысёра ён чуў аб праклёне муміі. Праклён упадзе на кожнага, хто яе патрывожыў… Крымская мумія на месцы забітага з паэмы — іронія рэжысёра.

У спектаклі мумію змяшае з смеццем і вынесе прэч не прызначаны законнік следчы, а простая грамадзянка, прыбіральшчыца, наводзячы жаданы парадак не паводле пратаколу і працэдуры, а паводле здаровага розуму і неабходнасці. Яна і данясе да сугрмадзян следчыя паперы, што паспелі да часу ўцёкаў змяшацца са смеццем. Яна і перачытае выкінутыя сведчанні, яна і здагадаецца, хто забіў…

Бо забіў якраз той, у каго няма падставы да забойства. Каму проста загадалі, у каго проста — выканаў загад.

А хто загадаў — уяўнаму следчаму не ў рахубу. Ён хутка пакідае Крым....

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

# У космас!

**Лёгкая, рамантычная песня *Fly me to the moon* Фрэнка Сінатры запрашае на Месяц. На сцяне вісіць дарожны знак са стрэлкай, якая цягнецца да столі: маўляў, вам, спадарства, туды — наверх, у космас. Так распачалася ў Палацы мастацтва выстаўка Галіны Горавай «Касмічнае падарожжа».**

На карцінах — таямнічы свет: планеты, іх пейзажы і… жыхары. Чаму менавіта касмічная тэматыка, экзатычная для беларускага жывапісу?

— Мяне натхніў духоўны і мастацкі досвед Язэпа Драздовіча. Я пачала вывучаць яго творчую спадчыну, пазнаёмілася з рукапісамі. Потым параўноўвала напісанае Я. Драздовічам з тым, што кажа сённяшняя астраномія. Захапленне астранамічнымі фактамі нарадзіла серыю «Світанне ў Сонечнай сістэме», — патлумачыла Галіна Горава. — Гэта спроба паказаць свет кожнай планеты.



*Галіна Горава «Земнасвет», 2014.*

Мастацтвазнаўца Ларыса Фінкельштэйн адзначыла: «Галіна Горава вельмі добра злучае касмічнае з зямнымі асацыяцыямі. Нацыянальная годнасць выразна адчуваецца ў падыходах мастачкі. І хоць сёння, як сцвярджае сама творца, яна яшчэ шукае свой стыль, без сумневу, асноўныя яго рысы ўжо бачныя».

Для выстаўкі характэрны паэтычны пафас ачалавечвання халоднага космасу. На гэту тэндэнцыю працуюць цёплыя колеры, плаўная манера мазкоў. Дарэчы, у работах Г. Горавай не толькі эмоцыі, але і дакументальнасць, нагляднасць. Карціны мастачкі з лёгкасцю можна ўявіць у падручніках па астраноміі (нездарма ж яна абапіралася на навуковыя даследаванні!). Творца заўважыла, што выстаўка прысвечана дзецям, а іх сюды прыходзіць шмат. Мастачка сама зрабіла анатацыі да работ, кожную планету ахарактарызавала.

Галіна Горава скончыла Беларускую акадэмію мастацтваў. Яна аўтар артыкулаў па колеразнаўстве і айчынным выяўленчым мастацтве, даследавання «Касмалагічныя тэзісы Язэпа Драздовіча ў кантэксце еўрапейскай касмалогіі і астраноміі». У Палацы мастацтва творца прадставіла свае работы ўпершыню, раней персанальныя выстаўкі арганізоўваліся як у Мінску, так і ў іншых гарадах Беларусі. У планах Галіны Горавай — кніга пра касмалагічныя сімвалы і ўяўленні Язэпа Драздовіча, якія адпавядаюць менталітэту беларусаў.

**Паліна ПЛАТАВА**


Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ





Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by





Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2505.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 7.05.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1976.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686